Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 19 (4563) 14 мая 2010 г.

## У нумары:





Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ліпскага з 70-годдзем. "Вас паважаюць за актыўную грамадзянскую пазіцыю і шматгадовую работу на пасадзе старшыні Праўлення Беларускага дзіцячага фонду, дзякуючы якой змяніліся да лепшага лёсы многіх маленькіх грамадзян нашай краіны, — адзначаецца ў віншаванні. — Напісаныя Вамі кнігі падабаюцца юным і дарослым чытачам, таму што яны прасякнуты любоўю да роднай зямлі і яе народа, непарыўна звязаны з гераічнай гісторыяй Беларусі, вучаць шанаваць радзіму, быць добрымі і справядлівымі".

Аляксандр Лукашэнка пажадаў юбіляру невычэрпнага натхнення, творчых поспехаў, здароўя, бадзёрасці і аптымізму.



# Пішу… нібы хаджу па зямлі басанож

Пісьменнік Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар дзіцячага часопіса "Вясёлка", шостага мая адсвяткаваў сямідзесяцігадовы юбілей.

Наш юбіляр шчодры на жарты, ён — старшыня журы Усебеларускіх фестываляў народнага гумару ў Аўцюках. Падчас размовы з Уладзімірам Сцяпанавічам мне перахацелася задаваць яму пытанні, сядзела і ўважліва слухала.

Падалося — то былі хвіліны натхнення, якімі творца дзяліўся са мной і з вамі.

### Амаль кожны дзень я на сустрэчах

Не так даўно прыехаў з Барысава, дзе сустракаўся з бібліятэкарамі раёна. Гаварылі не проста пра кнігі і чытачоў, а пра чытанне беларускай літаратуры. Ад такіх сустрэч натхняешся і адчуваеш, хто ты, лепш ацэньваеш сваю пісьменніцкую працу. Такіх сустрэч павінна быць больш. Я не разумею тых пісьменнікаў, якія гадамі сядзяць у сваіх кабінетах, не ведаючы рэакцыі чытачоў на свае творы. Мы павінны рухацца, мы павінны быць сярод аўдыторыі. Сустракаўся з вучнямі Старабарысаўскай школы. У актавай зале сядзелі дзеці розных узростаў. Божа мой! Здаецца, у зале была сама Вясна, сама Мудрасць, сама Дасціпнасць, сама Вясёлка з нябёсаў апусцілася. Было вельмі прыемна размаўляць з дзецьмі. Мы нават казку разам прыдумалі, а пасля я чытаў свае творы. Усе былі задаволены, смяяліся. Адзначылі, што смех бывае розны, не толькі хі-хі ды ха-ха. Для дзяцей гэта было адкрыццё. А наогул, калі творча падыходзіць, то ў любой з'яве можна знайсці цікавыя рэчы.

Многа сустрэч было ў Мінску, запомнілася імпрэза ў бібліятэцы імя Янкі Купалы, дзе вялі гутарку пра маю новую кніжку "Янкаў вянок". Ездзіў у Дзяржынск, там ладзілі сапраўднае свята для дзяцей. Калінкавічы, Рэчыца, Гомель, Астрамечава, Брэст... Усіх гарадоў, дзе я быў у гэтым годзе, нават і не пералічыць. Я ўжо казаў, пісьменнік павінен рухацца, што я з задавальненнем і раблю. Але самая важная сустрэча з прыхільнікамі — мой творчы вечар, які адбудзецца якраз сёння, 14 мая, у вялікай зале Белдзяржфілармоніі.

### Я хвалююся

Па-сапраўднаму. Разумееце, на сцэну часцей выходзяць спевакі, чым пісьменнікі. Многа папсы. А літаратура, мастацкае слова, якое павінна выхоўваць душу чалавека, аказалася на задворку. Таму мне прыемна "вывесці" мастацкую літаратуру на вялікую сцэну. Вось чаму я хвалююся. Мне хочацца, каб вечар прайшоў удала, мне хочацца, каб людзі адчулі: ёсць літаратура, ёсць мастацтва, ёсць творцы, ёсць асобы, пісьменнікі, якія могуць трымаць аўдыторыю. Такія вечары павінны ладзіцца пастаянна, каб іншыя аўтары таксама выходзілі на сцэну. Вось таму я і хвалююся, што спрабую вярнуць гэтую новую-старую традыцыю, пра якую надоўга забыліся, цяпер прыйшоў час аднавіць яе. Прыемна, што ў маім творчым вечары прымуць удзел такія артысты, як Марыя Захарэвіч, Валерый Анісенка, Надзея Мікуліч, Іван Краснадубскі, ансамбль народнай песні "Радзімічы", які ўзначальвае мой цёзка Уладзімір Ліпскі. З Любані прыедзе вядомы школьны тэатр "Летуценнікі". Прыедуць мае аўцюкоўцы, а таксама землякі з Рэчыцы. Сваю праграму выступлення яны трымаюць у сакрэце. Зразумела, запрасіў сваіх сяброў з пісьменніцкага асяродку: Міколу Маляўку і Анатоля Зэкава. Хораша гэта ўсё! А ў зале будуць сядзець мае сябры, аднадумцы. Даўно не бачыліся, добрая нагода сабрацца разам. Я хачу, каб прыйшлі мінскія настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. Чакаю гасцей з Дзяржынска і Барысава. Мяне радуе і натхняе тое, што людзі, якія ведаюць мяне, хочуць быць са мной побач і ў свята.

Прыйдуць журналісты. І калі яны стрымаюць абяцанне і пакажуць запіс па тэлебачанні, то сведкамі канцэрта змогуць быць многія. Гэта было б проста выдатна! Паказваюць жа канцэрты спевакоў. Прыйшоў час даць слова і мастацкай літаратуры.

### Да юбілею

Да майго юбілею выходзіць кніга настаўніцы Ірыны Буторынай "Свой у краіне дзяцінства. Вывучэнне творчасці Уладзіміра Ліпскага ў школе". Прыемна. Я ганаруся.

А ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйдзе мая кніга "Усе мы радня. Выбраныя творы". Тут змешчаны дакументальная аповесць "Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод", апавяданні і пакаянні. Да юбілею рыхтуецца выпуск другой маёй кнігі — "Кнігі жыцця".

### Мой абярэг

У Полацку купіў абярэг Еўфрасінні Полацкай. Я адчуваю ад яго нейкае цяпло. Можа быць, пакладу яго ў кішэню перад выхадам на сцэну. Ёсць у мяне іконка з выявай святой. Калі вяртаўся з Полацка, трымаў іконку ў руках усю дарогу.

### Забабоны па-аўцюкоўску

Калі кот перабег дарогу — значыць, мне пашанцуе. Калі з пустым вядром нехта перайшоў дарогу — добра. Але на левы бок усё ж такі сплёўваю тры разы. Альбо кажу сабе, што кот не можа быць мацнейшы за мяне. Гэта я па-аўцюкоўску, жартаўліва так сказаў, а на самай справе, сітуацыяй трэба валодаць самому, не чакаць літасці ад прыроды. Таму мая кніга-дапаможнік для педагогаў называецца "Не выжываю, а жыву!..". Такі ў мяне жыццёвы прынцып. А чаму так? — часта задаю сабе пытанне. Ды таму, што жыццё — адно толькі імгненне. Дваццаць гадоў мала і сто дваццаць не шмат. Трэба старацца пражыць гэты міг так, як задумана Богам.

### Мой унук Толік

Яму пяць гадоў. Я пішу да яго пісьмы. У "Полымі" пачытаеце, у пятым нумары — "Пісьмы ўнуку". Першы раздзел напісаны. Гэтую кнігу можна пісаць столькі, колькі я буду жыць, уяўляеце! Пачаў пісаць у той жа дзень, калі нарадзіўся Толік. Пісаў на эмоцыях. А пасля вырашыў, што трэба і далей пісаць час ад часу, але калі душа патрабуе, калі хочацца нешта падказаць унуку. Так ствараецца гэтая незвычайная аповесць. Вось яшчэ адзін сакрэт вам выдаў. Зрэшты, сёе-тое можна і расказваць, калі адчуваеш, што нешта пайшло, нешта пішацца. Планаў у мяне многа! Вышэй нават майго заснежанага чубчыка!

### Першаадкрывальнік

Не так даўно скончыў пісаць кнігу "Я тут жыву. Пра раёны Гродзенскай вобласці". У "Вясёлцы" выходзіла такая рубрыка. Мне здаецца, што гэта унікальны матэрыял. І зноў жа, гэтая тэма асветлена ўпершыню. Першаадкрывальнікам быць няпроста, але пасля адчуваецца радасць. Кніга аздоблена рознакаляровымі мапамі, гербамі. Па ёй можна нават праводзіць заняткі ў школе! Мая праца выйдзе пад патранатам губернатара Гродзенскай вобласці. Добрую літаратуру найперш неабходна пісаць для дзяцей, расказваць ім пра Беларусь. Уся наша краіна — гэта духоўная крынічка, якая жывіць сваіх жыхароў — беларусаў.

(Заканчэнне на стар. 15)

## Пункцірам

● Фінал 15-га міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў класічнай музыкі "Еўрабачанне-2010" адбудзецца сёння на найбуйнейшай аўстрыйскай пляцоўцы перад Венскай ратушай. Ад нашай краіны, якая ўдзельнічае ў конкурсе ўпершыню, у фінал прайшоў васемнаццацігадовы віяланчэліст Іван Карызна (унук паэта, аўтара беларускага гімна Уладзіміра Карызны). Першы канал Белтэлерадыёкампаніі будзе весці прамую трансляцыю конкурсу.

● Да 30 чэрвеня ў Літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча праходзіць мастацка-дакументальная выстава "Ажаніцца — не журыцца", нагодай для правядзення якой стала 95-годдзе апублікавання казкі "Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык" класіка беларускай паэзіі. Апроч дакументальных матэрыялаў, якія тычацца твора, на выставе прадстаўлены беларускія вясельныя ўборы з Музея старабеларускай культуры, сучасныя вясельныя сукенкі, вясельная фатаграфія XX стагоддзя і сучасная вясельная фатаграфія маладога фатографа Паула Мядзведзева.

● Пабачыла свет кніга "Палескі архіў. Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы" Вячаслава Вярэніча. Матэрыял для яе даследчык збіраў 25 гадоў падчас экспедыцый у больш як 140 населеных пунктаў Беларусі (Піншчына, Мазыршчына, Нараўляншчына) і Украіны (Ровеншчына, Чарнігаўшчына). У кнізе сабраная анамастыка: назвы палёў, сенажацяў, балот, рэк, афіцыйных і вясковых прозвішчаў і г.д. Асобна падаецца лексіка жыхароў Лунінеччыны і Століншчыны, а таксама невялікі "Палескі слоўнік". Кніга выйшла праз 11 гадоў пасля смерці аўтара.

● У Пінскім музеі беларускага Палесся адкрылася выстава карцін на тэму Халакосту. Тут прадстаўлены творы пінскіх мастакоў, напісаныя два гады таму падчас адмысловых пленэраў у месцах масавых забойстваў яўрэяў на Піншчыне. Арганізатарам падзеі стала пінская яўрэйская грамада. Выстава пабывала ў многіх гарадах Беларусі і Польшчы.

● У Мінску паказам фільма "Рака жыцця" беларускага рэжысёра Ігара Бышнёва стартаваў Фестываль еўрапейскага кінамастацтва. Усяго на суд гледачоў будзе прадстаўлена 17 фільмаў розных жанраў з 16 краін. Фестываль працягнецца да 4 чэрвеня ў кінатэатрах Мінска, Магілёва і Бабруйска. Мерапрыемства праходзіць пры садзейнічанні пасольстваў краін Еўрасаюза ў Беларусі і пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

● Паэтычна-акустычны канцэрт "Рытмы і рыфмы" адбудзецца 20 мая ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Розныя пакаленні і стылі сучаснай бардаўскай песні прадставяць Тацяна Беланогая, якая аддае перавагу рокавым рытмам, Юрый Несцярэнка — беларускі блюзмен і Віктар Шалкевіч са сваім непаўторным аўтарскім выкананнем. Рыфмаваную частку імпрэзы забяспечыць паэтэса Людміла Рублеўская.

● "Перамога. Стыль эпохі" — беларуска-расійская выстава пад такой назвай адкрылася ў Маскве ў залах Цэнтральнага Музея Вялікай Айчыннай вайны на Паклоннай гары. Экспазіцыя, якая была сфарміраваная на аснове фондаў беларускіх і расійскіх музеяў, прадстаўляе рэчы пасляваеннага перыяду: адзенне, фрагменты дэкарацый фільмаў і спектакляў, кнігі, афішы ды шмат іншага.

● 15 мая а 18-й гадзіне ў межах "Ночы музеяў" у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа пройдзе сімвалічная акцыя "Няхай квітнее дрэва дружбы!" з аднаўленнем Коласавай кампазіцыі з чатырох дубоў і бярозы — дрэў, якія сімвалізавалі сям'ю песняра: жонку, трох сыноў і яго самога. На ўрачыстае дзейства запрошаныя паслы Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы, Францыі.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ЧАРАПІЦА
Валерый Мікалаевіч.
Публіцыст.

Нарадзіўся 1 студзеня 1945 года на Браншчыне. Скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржпедінстытута імя Янкі Купалы, прафесар Гродзенскага універсітэта.

Аўтар больш дзесяці кніг і шматлікіх артыкулаў у часопісах па гісторыка-культурнай спадчыне Гродзеншчыны. Сярод іх: "Преодоление времени: Исторические очерки и миниатюры" (1996), "...Дай нам руку в непогоду" (1997), "Не потерять связующую нить: История Гродненщины XIX — XX столетий в событиях и лицах" (2003), "Звенья цепи единой: Большие и малые события в истории Гродненщины XIX — XX столетий" (2009) і інш.



СВЕЧНІКАВА
Алена Уладзіміраўна.
Паэтэса.

Нарадзілася 9 студзеня 1973 года ў Маскве. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў, бакалаўр мастацтваў.

Піша вершы, літаратурныя пародыі, крытычныя артыкулы, публіцыстыку. Перакладае на рускую мову вершы літоўскіх і беларускіх паэтаў. Мае вялікую колькасць публікацый у калектыўных зборніках. Аўтар кнігі па літаратуразнаўстве "Поэтка пародии и не только..." (1998), паэтычнага зборніка "Слова" (2009).



УЛЮЦЕНКА
Віктар Васільевіч.
Публіцыст, паэт.

Нарадзіўся 22 лістапада 1949 года ў г.п. Шуміліна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Член Беларускага саюза журналістаў.

Аўтар кніг "Светлозор: Сказы. Стихи. Рассказы. Песни" (2008), "Пятенка: Православные храмы Шумилинщины" (2008), "Православие на Шумилинщине: Прошлое и настоящее" (2009), "Православие на Шумилинщине. Годы гонений" (2009).

## З нагоды

Знакаміты расійскі паэт наведаў РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў сувязі з выданнем яго кнігі "Сережка ольховая".

Было — падал,
было — рушился,
но всю жизнь, как на войне,
и сроднились белорусинка
и сибиринка во мне.



# Яўген Еўтушэнка: «Не даю сабе паслаблення»

Гэтыя радкі з новага верша Яўгена Еўтушэнкі "Белорусинка", які адкрывае мінскую кнігу паэта "Сережка ольховая", што днямі выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Вечарам Яўген Аляксандравіч чытаў іх са сцэны канцэртнай залы "Мінск", а напярэдадні, прыехаўшы з Латвіі, у тэлевізійнай праграме "Выбар плюс", распавядаў, трымаючы кнігу ў руках, што азначае для яго Беларусь. Пра тое, што ў вёсцы Хомічы Калінкавіцкага раёна нарадзіліся яго дзед Ермалай Навумавіч Еўтушэнка і бабуля Ганна. З Першай сусветнай вайны Ермалай Еўтушэнка вярнуўся поўным георгіеўскім кавалерам. Аднак тры крыжы за адвагу не выратавалі яго ад рэпрэсій. Па даносе ён быў арыштаваны ў 1938-м і ў тым жа годзе расстраляны. А з бабуляй Ганнай паэт сустрэўся ў шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя, калі прыляцеў на верталёце ВПС прама ў вёску Хомічы. Пазнаёміўшыся з унукам, старая жанчына закрычала на ўсё бульбянае поле: "Людцы, бяжыцем сюды! Крывіначка наша знайшлася!"

Гэтая сцэна паэтам каларытна выпісана ў паэме "Мама и нейтронная бомба", апублікаванай у першай беларускай кнізе яго вершаў "Белорусская кровиночка". Прадмову да яе напісаў Васіль Быкаў.

Праз некалькі гадоў у Мінску ў выдавецтве "Паліфакт" выйшла другая кніга. Гэта — вялізны фаліянт пад назовам "Строфы века". Інакш, як творчы подзвіг, гэтую працу Еўтушэнкі-ўкладальніка не назавеш. У анталогіі прадстаўлена творчасць 875 паэтаў, з іх больш шасцідзесяці — у мінулым рэпрэсаваных, і якія датуль нават не згадваліся ў друку.

І вось трэцяя кніга, "Сережка ольховая", укладальнікам якой па просьбе Яўгена Аляксандравіча быў аўтар гэтых радкоў. Праца ішла вельмі цяжка. Вылучыць лепшае трэба было з сотняў вершаў, якія ўвайшлі ў зборнік вагой амаль тры кілаграмы — "Весь Евтушенко". Шмат часу займалі ўдакладненні і ўзгадненні па тэлефоне і электроннай пошце. Не абышлося без спрэчак і непаразуменняў. Вельмі хваляваўся Яўген Аляксандравіч за "Белорусинку": "Яна павінна стаяць першай, абавязкова першай! Гэта для мяне вельмі важна!", — крычаў ён у слухаўку, падняўшы мяне з ложка ўначы: у Амерыцы ж дзень. Кніга спазнялася, што таксама нервавала ўсіх: Еўтушэнка прылятае праз тры дні, а друкарня яшчэ не пачала працу. Ён не разумее гэтую марудлівасць: "Ну што вы не можаце пасцаць мне хаця б два асобнікі ў Рыгу? Паслязаўтра я выступаю з Паулсам. Адну мне, другую — яму." Усё ж паспелі паслаць два асобнікі, спешна зробленыя добраахвотамі друкарні ўручную.

І вось нарэшце прывозяць наклад, і, можна сказаць, следам прыязджае віноўнік урачыстасці і сумятні — сам Еўтушэнка. Гэта быў дзявяты візіт аўтара — падпісанне дамовы і іншыя клопаты — і ён, адчуваецца, не чакаў, што яго будуць сустракаць як куміра. Усе, хто быў у рэдакцыях РВУ, выйшлі ў вестыбюль. Здзіўлены, ён спыніўся. Пагадзіўся сфатаграфавацца разам: "Все стремятся на фоне вечности сняться" (па-мойму, радок таксама яго. — Ю. С.). Потым з галавой сышоў у аўтографы. Почырк жудасны, абсалютна нічога не разбярэш. Але пісаць не даюць — чытаюць яго вершы! Міхась Башлакоў усхвалявана дэкламуе "Ты большая в любви, ты смелая". З такім натхненнем ён чытае толькі сваю "Сойку". Еўтушэнка расчулены. Пэўна, да славы не прывыкаюць. Але часу ў Яўгена Аляксандравіча вобмаль. Праз тры гадзіны — выступленне ў канцэртнай зале "Мінск". І там ён не толькі чытае, але і спявае, і танчыць. Трэба рэпеціраваць. І хоць бы паўгадзіны адпачыць перад канцэртам. Ледзь сеў у машыну, Еўтушэнка ўжо нешта пытае ў Дзмітрыя Сімагі, арганізатара канцэрта, пра дэталі заўтрашняй вечарыны ў Гомелі, а потым у Калінкавічах, на гістарычнай радзіме. Я ўзгадваю, як ён гаварыў мне нядаўна ў гасцініцы "Мінск", дзе спыніўся: "Не даю сабе паслаблення. Нельга. У маі ў мяне яшчэ 20 выступленняў у гарадах Расіі. Амаль кожны дзень". У ліпені Еўтушэнку спаўняецца 77 гадоў.

Юрый САПАЖКОЎ

На здымку: Яўген Еўтушэнка і Юрый Сапажкоў.

Фота Кастуся Дробава

## Праекты

# У эфіры — кожную суботу

Праект Першага нацыянальнага канала — "Тэатр Беларускага радыё", які можна пачуць у эфіры кожную суботу а дзевятай гадзіне вечара, працягвае традыцыі пастановачнага вяшчання і не толькі актыўна далучае сваіх слухачоў да багатых мастацкіх фондаў Беларускага радыё, але і прапануе прэм'еры.

За апошні час былі пастаўлены радыёспектаклі: "Паэт і дзяўчына" паводле п'есы П. Васючэнкі, "Пастка" паводле аповесці В. Быкава, "Крыж" паводле п'есы А. Дударава. А нядаўна, 1 мая, адбылася яшчэ адна прэм'ера — радыёспектакль паводле гістарычнай драмы Уладзіслава Сыракомлі "Магнаты і сірата. Соф'я, князёўна слуцкая".

Вершаваная п'еса Сыракомлі праз 150 гадоў пасля яе напісання перакладзена на беларускую мову І. Багдановіч. А зараз упершыню ажыццёўлена яе пастаноўка ў Беларусі ў такім унікальным жанры, як радыёспектакль, які, дарэчы, рэпрэзентуе нам класіка беларускай літаратуры ў яшчэ адной іпастасі — драматурга і па сутнасці адкрывае нам невядомага Сыракомлю.



Прэм'ера адбылася ў дзень нараджэння беларускай святой Соф'і Слуцкай, якая стала правобразам галоўнай гераіні драмы Сыракомлі — князёўны Соф'і, апошняй спадчынніцы старадаўняга роду Алелькавічаў. Воляю лёсу юная князёўна-сірата апынулася ў цэнтры жорсткага канфлікту двух уплывовых магнатаў таго часу: віленскага кашталяна Геранімa Хадкевіча (у п'есе Рыгор Хадкевіч) і віленскага ваяводы Крыштафа Радзівіла. Падзеі ў спектаклі адбываюцца ў 1600 годзе ў Вільні, напярэдадні вызначанай даты шлюбу Соф'і і Януша Радзівіла. Па словах рэжысёра радыёспектакля А. Вінярскага, у гэтай чатырохактовай п'есе ёсць тыя сапраўдныя характары, тыя канфлікты, тыя гістарычныя пасталі, якія дазволілі ўзяцца за пастаноўку.

У спектаклі заняты выдатны акцёрскі ансамбль: народны артыст СССР Г. Аўсяннікаў, народны артыст Беларусі А. Памазан, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь У. Рагаўцоў, Т. Нікалаева-Апіёк, Г. Маляўскі, Л. Улашчанка, А. Душачкін, артысты А. Гарцуеў, А. Кавальчук, А. Кашпераў, артысты-дэбютанты К. Яворская, С. Кавальскі, В. Краўчанка ды іншыя. Выразную аўдыёкарціну, своеасаблівую гістарычную фрэску ў афармленні спектакля стварыў выдатны майстра гуказапісу гукарэжысёр В. Бяляеў.

Наш спектакль — пра чалавечую годнасць, ахвярнасць, захаванне хрысціянскіх традыцый, разуменне беларускай гісторыі як маральнага ўрока для будучых пакаленняў, таго глыбокага духоўнага стрыжня, што мацуе самасвядомасць нацыі.

Галіна ШАБЛІНСКАЯ

На здымку: акцёры беларускіх тэатраў падчас запісу радыёспектакляў.

Фота Кастуся Дробава

## Літ-абсягі

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя і перадача Пасольствам Рэспублікі Польшча ў нашай краіне ў дарунак НББ унікальнага шматтомнага выдання першакрыніц “Acta Nuntiaturae polonae”. Яно змяшчае архіўныя матэрыялы, якія датычаць карэспандэнцыі апостальскіх нунцыяў у Польшчы.

# Крыніцы супольнай гісторыі



Дакументы пастаяннага прадстаўніцтва Ватыкана ў Рэчы Паспалітай XVI — XVIII стагоддзяў, а таксама за кароткі перыяд існавання другой Рэчы Паспалітай з’яўляюцца бясцэннай пазнавальнай крыніцай інфармацыі для гісторыкаў. Выданне матэрыялаў з архіваў і Ватыканскай бібліятэкі мае больш чым 200-гадовую традыцыю, а перададзеныя ў дарунак тамы “Acta Nuntiaturae polonae” — гэта выдавецкая работа апошніх дваццаці гадоў.

Дырэктар НББ Раман Матульскі зазначыў, што нашы краіны маюць шмат агульных напрацовак, вынікаў, імён і разам вызначыць, хто зрабіў больш унёсак у культуру і гісторыю Беларусі ці Польшчы, практычна немагчыма. Гэта агульныя дасягненні нашых народаў, і нам трэба выкарыстоўваць спадчыну. Што і робіцца. У бібліятэцы адбывалася не адна выстава, імпрэза, канферэнцыя з удзелам польскіх калег, і дадзенае супрацоўніцтва і надалей будзе прадаўжацца.

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка распавёў прысутным пра беларускую гістарыяграфію, крыніцазнаўства, навукова-папулярную і гістарычную літаратуру. З яго слоў, ён знаёмы ўжо з часткай дакументаў “Acta Nuntiaturae polonae”. Бо каля дваццаці гадоў таму, калі быў у камандзіроўцы ў Варшаве, з дазволу польскіх калег ён здымаў акты і рэляцыі нунцыяў на стары плёначны фотаапарат.

Адзін з сааўтараў выдання прафесар, член Польскай акадэміі навук Тэрэса Хынчэўска-Генэль расказала пра сваю працу ў архівах, бібліятэках, дзе яна адшуквала першакрыніцы для гэтага выдання. Таксама ў прэзентацыі бралі ўдзел дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч і жонка Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь пані Ганна Літвін.

Штотыднёвыя справаздачы папскіх дыпламатаў, якія адсылаліся з Рэчы Паспалітай у Рым, каштоўныя тым, што ўключаюць не толькі звесткі пра гісторыю касцёлаў, рэлігій і веравызнанняў, але і пра гісторыю краіны, каралеўскага двара, грамадскіх і нацыянальных супольнасцей. Зборнік змяшчае захапляльныя апавяданні пра касцельныя, прыдворныя, прыватныя сустрэчы, а таксама непаўторныя апісанні архітэктуры, прыроды і звычаяў. Побач з вялікай палітыкай, актамі касцельнай уніі прадстаўлены дакументы нунцыятуры, якія паказваюць нам штодзённае жыццё, прытым не толькі прыдворнае. Дзякуючы гэтай выдавецкай серыі мы можам больш паглыблена паглядзець на супольную гісторыю Польшчы, Беларусі, Украіны і Літвы.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Каб ніколі-ніколі...

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь наладзіў выстаўку “Вялікай Перамозе — 65 гадоў”. Каля сотні твораў (жывапіс, графіка, скульптура) увайшло ў экспазіцыю. Да яе адкрыцця спрычыніліся два міністэрствы — культуры і абароны, а таксама Беларускі фонд культуры. Падчас вернісажа ў выкананні лепшых аматарскіх калектываў гучалі народныя песні, беларуская і савецкая спеўная класіка, духоўная харавая музыка. Фальклорным найгрышам падтанцоўвалі ці не ўсе прысутныя. А людзі сталага веку расчулена слухалі шлягер свайго пакалення “В лесу прифронтовом”, падпявалі легендарнай “Лясной песні” Уладзіміра Алоўнікава на верш Адама Русака: “Ой, бярозы ды сосны...”. І, мабыць, кожны, успомніўшы гаротныя гады сваёй маладосці, сэрцам паўтарыў разам з мелодыяй паэтавы радкі — пра тое, каб ніколі-ніколі не ведалі людзі вайны і не жыў у нядолі родны край. Са знаёмага песеннага куплета нібы высноўваўся шчымліва-шчыры лейтматыў самой выстаўкі...



Арганізатары мастацкага праекта “Вялікай Перамозе — 65 гадоў” стварылі ў музейнай галерэі, насуперак ранейшым стэрэатыпам, атмасферу кранальную і цёплую, урачыста-строгую, пазбаўленую штучнага пафасу, напоўненую болем былога і простай радасцю жыцця, памкненнем да свята і душэўнай гармоніі. У чым прынцыповая адметнасць канцэпцыі новай выстаўкі? Яе эмацыйнай дамінантай гучаць не тыя работы, якія ствараліся нашчадкамі пакалення пераможцаў, адлюстроўвалі ўспаміны ветэранаў ці роздум удзячных сучаснікаў, узгадаваных пасля вайны: дамінуюць творы, якія нараджаліся ў гады Вялікай Айчыннай або з першымі крокамі вызвалення. Іх энергетыка унікальная, бо яны не ўвасабляюць сімвалічную памяць пра вайну, а з’яўляюцца летапісам, сведчаннем непасрэдных перажыванняў, падзей 1941 — 45 гг. Ладную частку экспазіцыі складаюць пасляваенныя работы мастакоў розных пакаленняў, прысвечаныя шматграннай тэме незабыўнага ліхалецця, вызвалення і адраджэння краіны. Лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай мастацкай школы, іх вядомыя калегі з іншых былых саюзных рэспублік: З. Азгур, Б. Аракчэеў, А. Асьмёркін, В.Бялыніцкі-Біруля, Я. Вучэціч, П. Гаўрыленка, В. Грамыка, Л. Гумілеўскі, І. Дмухайла, Я. Зайцаў, П. Канчалоўскі, М.Крымаў, Э.Куфко, А. Мазалёў, П.Масленікаў, В. Мухіна, Ю.Піменаў, М. Савіцкі, М.Селяшчук, В. Цвірка, Л.Шчамялёў, Т. Яблонская, многія іншыя... Уся гэтая разнастайнасць — з фондаў НММ Беларусі.

Як залаты вянец выстаўкі ўспрымаеш размешчанае асобна манументальнае палатно М.Данцыга “Спадчына”. Стоячы побач са сваёй мажорнай, нібы напоўненай сонцам, карцінай, (мінорная нота — абеліск у жыце), аўтар, якому нядаўна споўнілася 80, разважаў пра вялікую каштоўнасць міру — асновы жыцця, пра наш сённяшні мір, здабыты праз невыносныя выпрабаванні, пакуты, страты. “Многія карціны, якія я напісаў, з’яўляюцца напамінам пра найвялікшую Перамогу, заваяваную мільёнамі людзей і аплачаную вялікаю цаной, мільёнамі жыццяў, — гаварыў Май Данцыг. — Сёння, калі ў нашым доме трыумфуе сонечны радасны май, мы абавязаныя памятаць, як дорага ён каштаваў Беларусі, — каб ніколі не быў парушаны мірны свет, каб росквіт нашай краіны працягваўся і мы маглі з упэўненасцю думаць, што тыя вялікія ахвяры на алтар Перамогі былі недарэмныя”.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: выступае народны мастак Беларусі прафесар Май Данцыг.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі




# Памяць франтавога пабрацімства

Іван Андрэевіч Муравейка — адзін з самых старэйшых пісьменнікаў Беларусі. Яго добра ведаюць юныя чытачы розных пакаленняў. Але далёка не кожнаму вядома франтавая біяграфія нашага сучасніка. Днямі да чытача прыйшла новая кніга І. Муравейкі “Я — Іван з Беларусі” (Мінск, РВУ “Літаратура і Мастацтва”, 2010), якая і ліквідоўвае прагалы ў памяці.

Назва ў зборніка, дзе аб’яднаны нарысы, франтавыя запіскі, вершы, большасць з якіх напісана ў вялікую Айчынную вайну, зусім невыпадковая. Надпіс “Іван з Беларусі” паэт, ваенны журналіст Іван Муравейка пакінуў на сцяне рэйхстага ў Берліне ў пераможным маі 1945… Кніга, істотную падтрымку ў выданні якой аказаў Любанскі райвыканкам, — пра франтавое пабрацімства, пра інтэрнацыянальную дружбу народаў Савецкага Саюза як адзін з найважнейшых складнікаў перамогі ў Вялікай Айчыннай… Іван Андрэевіч служыў у адной рэдакцыі з рускім пісьменнікам Паўлам Шабуніным. Ледзьве ці не лепшым франтавым сябрам нашага земляка быў славуты кіргізскі паэт Кусеін Ісенхаджоеў, які загінуў у 1943 годзе. Яшчэ ў час вайны лейтэнант І. Муравейка напісаў у Саюз пісьменнікаў Кіргізіі наступны ліст: “…Паўтара года мы з ім служылі ў адным палку, у адной роце. Ён быў душэўным і добразычлівым чалавекам, адважным і ўмелым камандзірам. На яго гімнасцёрцы ззялі ордэн Чырвонай Зоркі і медаль “За адвагу”. Нягледзячы на тое, што мы розных нацыянальнасцей, я — беларус, ён — кіргіз, наша дружба была даверлівай, шчырай, братняй. І вельмі шкадую, што не сумеў захаваць яго франтавыя вершы: Кусеін загінуў у цяжкіх абставінах і не было магчымасці забраць яго блакнот, які ён насіў у кішэні гімнасцёркі…”

Іншыя старонкі кнігі — пра татарскага паэта Мікалая Сідарава, з якім таксама пляччо ў плячо ваяваў аўтар, шматгадовага кіраўніка Яраслаўскай пісьменніцкай арганізацыі паэта і перакладчыка Івана Смірнова, з якім Іван Муравейка сябруе з пачатку 1960-х… Дзякуючы ў многім Івану Смірнову ў Яраслаўлі створаны музей класіка беларускай паэзіі Максіма Багдановіча.

Кніга “Я — Іван з Беларусі” — добрая адмеціна таго, што сапраўднае і шчырае надоўга застаецца ў людской памяці няхай сабе і прадстаўнікоў розных народаў.

Мікола БЕРЛЕЖ

## З-пад пяра

У канферэнц-зале Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя зборнікаў дакументаў і матэрыялаў, выдадзеных да 65-годдзя Вялікай Перамогі. Былі прадстаўлены тры грунтоўныя зборнікі. “Белорусы в советском тылу. Выпуск 1. Июль 1941 г. — 1942 г.” — чарговы супольны праект беларускіх і расійскіх архівістаў. У кнізе змешчаны дакументы, прысвечаныя вынікам эвакуацыі ў 1941 годзе з Беларусі, дзейнасці ЦК КП(б)Б і СНК БССР, працоўнаму подзвігу эвакуіраваных. Сумесна з Дзяржаўным архівам Гомельскай вобласці, Гомельскім абласным музеем ваеннай славы і Цэнтральным архівам КДБ Беларусі падрыхтаваны зборнікі “Гомельщина партизанская. Начало. Июнь 1941 — май 1942 гг.” і “Гомельская область в первые месяцы Великой Отечественной войны”. Апошні — своеасаблівы працяг выдадзенага раней зборніка “Беларусь в первые месяцы Великой Отечественной войны” — упершыню прадстаўляе поўную публікацыю зводак групы інфармацыі ЦК КП(б)Б па Гомельскай вобласці. Усе выданні праілюстраваныя факсімільнымі копіямі дакументаў і фотаздымкамі.

Ул. інф.

Выстава жывапісу і графікі “І памятае свет выратаваны”, прысвечаная юбілею Вялікай Перамогі, працуе ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі, які размешчаны ў Маладзечне. У экспазіцыі прадстаўлены работы з шасці дзяржаўных музеяў сталічнай вобласці. Маладзечанцы, да прыкладу, выставілі для прагляду аўталітаграфіі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча “Памяці вогненных вёсак”, афорты Людвіга Асецкага “Замкнёнасць кола” і ілюстрацыі Юрыя Герасіменкі да аповесці Васіля Быкава “Знак бяды”. А вось Вілейскі краязнаўчы музей прадставіў трыпціх “Салдацкія ўдовы” і серыю “З бацькоўскага альбома” лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне” Барыса Цітовіча. Было што паказаць і астатнім установам.

Бажэна СТРОК

З нагоды 65-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне ў Быхаўскай цэнтральнай бібліятэцы арганізавана бібліятэчная выстаўка-экспазіцыя “Хай жывыя помняць — пакаленні ведаюць”. Цікавасць выклікаюць самыя адметныя рэчы экспанаты мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея, але большую частку іх прадаставіў удзельнік гісторыка-патрыятычнага пошукавага клуба “ВІККРУ” Віктар Пузанаў. Гэта абмундзіраванне і амуніцыя савецкага салдата, арыгінальныя пісьмы з фронту, юбілейныя медалі і інш.

Віктар ЗАЯЦ

Упраўленне адукацыі Гродзенскага аблвыканкама і абласны Дом тэхнічнай і мастацкай творчасці вучнёўскай моладзі правялі VI абласны фестываль “Беларускі вянок”. Ён прысвячаўся 65-годдзю Перамогі і 70-годдзю дзяржаўнай сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Святочную атмасферу стваралі традыцыйныя рэгіянальныя песні, танцы, інсцэніроўка народных абрадаў, экспазіцыя твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, паказ мадэляў адзення. Навучэнцы ды супрацоўнікі семнаццаці сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных устаноў паўдзельнічалі ў конкурсе, які ладзіўся ў час фестывалю па розных намінацыях.

Лана ІВАНОВА

# Таямніцы старадрукаў

Дом урада, які знаходзіцца на галоўнай плошчы сталіцы, вядомы ці не кожнаму жыхару нашай краіны. У будынку — галоўныя органы кіравання краінай, урад Беларусі і парламент нашай дзяржавы. А яшчэ – Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь. У яе сховішчах — кнігі, часопісы, газеты. Ёсць тут і чытальная зала. І вельмі шмат розных старадрукаў, што, безумоўна, прыцягвае ўвагу самых патрабавальных чытачоў. Працуюць у калектыве Прэзідэнцкай бібліятэкі людзі апантаныя, улюбёныя ў кнігу. Адзін з іх — сапраўдны мэтр сваёй справы Валерый Герасімаў, з якім мне даўно хацелася пазнаёміцца.



На пачатку нашага знаёмства вядомы кнігазнаўца заўважыў: "Бібліятэка — гэта тое святое месца, дзе ўтрымліваюцца сапраўдныя кніжныя скарбы". А яшчэ, дадаў спадар Герасімаў, — і прастора, у якой блукаюць …розныя прывіды. Вось сучасную легенду пра адзін з іх і расказаў мне Валерый Мікалаевіч: "Некалі ў Доме ўрада працаваў старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў. Аднойчы ён прыйшоў на працу вельмі рана, каля 6 гадзін, каб паназіраць з балкона левага крыла Дома ўрада, як зносяць праваслаўную царкву, якая тады яшчэ стаяла на цяперашняй плошчы Мяснікова. І пасля такога страшэннага, дзікунскага відовішча вярнуўся ў кабінет і застрэліўся. Прама на рабочым месцы… А цяпер дух чалавека, не маючы спакою, жыве ў цёмных падвалах нашага будынка…" А яшчэ, перакананы Валерый Мікалаевіч, існуюць тут рэшткі помніка Сталіну, што некалі знаходзіўся на плошчы перад Домам урада.

У Прэзідэнцкай бібліятэцы знаходзіцца нямала старых кніг. Самыя сталыя па ўзросце — "Навуковы трактат" (1594 год), "Служебник», (Масква, 1602), "Тридион" (1618)… "Тридион", — заўважае Валерый Мікалаевіч, — адна з кніг, якімі мы асабліва ганарымся. Ведаю, што гэта адзін з нямногіх экземпляраў на постсавецкай прасторы. Выдадзеная на царкоўнаславянскай мове, кніга ўяўляе сабою цікавую крыніцу па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, дапамагае ўявіць тыя часы, да якіх адносіцца яе выданне…" Ганарацца ў бібліятэцы адзіным прыжыццёвым паэтычным зборнікам Максіма Багдановіча "Вянок" (1913 год), "Гісторыяй беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага. З выдання апошняй яшчэ не мінула і ста гадоў, а яна ўжо ўспрымаецца як сапраўдны рарытэт. Мне паказваюць у Прэзідэнцкай бібліятэцы "Беларускі архіў старажытных грамат" (1824 год), памятныя кніжкі беларускіх губерняў. Уражанне такое, быццам выпраўляешся ў падарожжа па мінуўшчыне.

"Важнае месца ў нашых фондах, — працягвае расповед Валерый Мікалаевіч, — займаюць камплекты першых беларускіх газет і часопісаў — "Наша доля", Наша Ніва" (1906 — 1915 гады), "Дзянніца", расійскі часопіс "Современник". Ёсць і рэдкі для беларускіх бібліятэк часопіс "Крывіч", што выдаваўся ў 1923 — 1927 гадах. Часта нашы чытачы звяртаюцца да кнігі "Житие преподобной Евфросинии, княжны Полоцкой", выдадзенай у 1888 годзе. А сапраўднай жамчужынай у нашых зборах з'яўляюцца кірылічныя старадрукі. Іх усяго некалькі. Асноўная частка гэтай калекцыі была перададзена Нацыянальнай бібліятэцы…"

Ёсць яшчэ ў Прэзідэнцкай бібліятэцы мініяцюрныя выданні – так званыя кнігі-малюткі. Ёсць і кнігі з вядомых і славутых бібліятэк Радзівілаў, Супрасльскага манастыра, Рускай Тургенеўскай бібліятэкі ў Парыжы. Асобна вылучаны рарытэтныя выданні з кнігазбораў Баркулабаўскага і Талачынскага кляштараў, з Беларускага музея і бібліятэкі Івана Луцкевіча з Вільні. Менавіта гэтыя здабыткі, што фарміравалі фонды на працягу многіх дзесяцігоддзяў, і ўпрыгожваюць бібліятэку, робяць яе прывабнай для чытачоў.

Дар'я ШОЦІК

На здымку: Валерый Герасімаў.

Фота аўтара

# Гісторыю кнігі ствараюць бібліятэкары

Некалькі гадоў таму (было гэта яшчэ да сцвярджэння еўра як адзінай валюты) на аўкцыёне ў Берліне невядомы набыў аўтограф старонкі чарнавіка "Казкі пра мёртвую царэўну і пра сямёра асілкаў" А. С. Пушкіна. Кошт — 260 тысяч марак. Некаторыя ўдзельнікі аўкцыёна адзначылі, што калі б дазволілі аформіць продаж за безнаяўны разлік альбо пакінуць даверанасць, гарантыйны ліст, то нехта быў бы гатовы купіць адну старонку, усяго толькі адну старонку пушкінскага аўтографа і шмат даражэй. Гісторыя амаль дзесяцігадовай даўнасці ўсплыла ў маёй памяці, калі размова зайшла пра аўтографы, дароўныя надпісы на кнігах беларускіх пісьменнікаў. Жыццяпіс айчыннай кнігі, літаратуры нельга ўявіць без аўтографаў. І калі не тых дзесяткаў, соцень тысяч марак ці еўра яны каштуюць, то ўсё адно вартыя цікаўнасці сённяшніх і будучых пакаленняў.

Уласнаручны надпіс аўтара — гэта сведчанне культуры, выразная характарыстыка пісьменніцкага лёсу. Як сёння ўявіць, прыкладам, багдановічазнаўства, купалазнаўства ці коласазнаўства без пазнак, без каліграфічнага следу на кнігах вялікіх песняроў?!. Аўтографы на кнігах — гонар любой бібліятэкі. Вось і ў Пухавіцкай раённай бібліятэцы, якая месціцца ў Мар'інай Горцы, такая частка кнігазбору — асобны фрагмент у далёкай і блізкай гісторыі кніжніцы.

— У гарадскім пасёлку Рудзенск, які знаходзіцца непадалёку ад Мар'інай Горкі, нарадзілася пісьменніца Таіса Бондар, — расказвае дырэктар раённай бібліятэкі Ганна Лабастава. — Яна неаднойчы наведвалася ў Мар'іну Горку, сустракалася з чытачамі. На адной з паліц бібліятэкі — яе паэтычны зборнік "Хачу назваць цябе каханым". Чытаю дароўны надпіс: "З пажаданнем любіць нашу зямлю, нашу мову. Таіса Бондар…" У фондах — і кнігі з аўтографамі іншых пісьменнікаў-землякоў: Алеся Бачылы, Валянціна Мыслівца, Уладзіміра Рунцэвіча, Аляксандра Хазяніна і іншых.

Разам з Ганнай Барысаўнай пераглядаем стос кніг з аўтографамі. "Трэба дома бываць часцей…" Рыгора Барадуліна, "Размова на парозе" Уладзіміра Скарынкіна, "Кліч роднага звона" Генрыха Далідовіча, "Сын дня" Уладзіміра Ліпскага, "Гаспода" Леаніда Дранько-Майсюка…

— Як правіла, усе кнігі з аўтографамі, — тлумачыць Ганна Барысаўна, — з'яўляюцца ў нас пасля сустрэч з пісьменнікамі. А на сустрэчы з чытачамі і бібліятэкарамі хто толькі да нас ні прыязджаў?!. Дзмітрый Бугаёў, Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Рыгор Сакалоўскі, Іван Чыгрынаў, Віктар Шніп, Алесь Камоцкі, Ганад Чарказян, Эдуард Акулін, Мікола Жыгоцкі, Мікола Мятліцкі, Алесь Пісарык…

Сустрэчы з пісьменнікамі — адмысловы след у жыцці бібліятэкі. Многія гады з Пухавіцкай раённай добра сябраваў паэт Алесь Пісьмянкоў. Трымаюць у памяці пухавічане, мар'інагорцы многія яго выступленні. Прыязджаў ён у горад, раён і адзін, і разам з Іванам Гаўрылавічам Чыгрынавым, з Навумам Гальпяровічам, Уладзімірам Ягоўдзікам, Леанідам Дранько-Майсюком. А калі ўжо паэт пайшоў з жыцця, гасцяваў у Мар'інай Горцы перакладчык, сябар Алеся Пісьмянкова Валерый Стралко. Ён і прывёз у бібліятэку кнігу вершаў А. Пісьмянкова "Любіць бы вечна… Любіць би вічно…" Чытаем дароўны надпіс: "Пухавіцкай раённай бібліятэцы на добрае прачытанне незабыўнага Алеся Пісьмянкова. Валеры Стралко…" Магчыма, хтосьці з чытачоў адкрые для сябе творчасць цікавага беларускага паэта ў моўнай стыхіі Тараса Шаўчэнкі і Івана Франка. Зборнік вершаў Алеся Пісьмянкова — адна з нямногіх украінскамоўных кніг у фондах раённай бібліятэкі…

— Сустрэчы з пісьменнікамі-землякамі, як, між іншым, і ўшанаванне юбіляраў, — расказвае Ганна Барысаўна, — гэта яшчэ і нагода для падсумоўвання збораў з літаратурна-краязнаўчай бібліяграфіі, якой мы займаемся досыць уважліва. Выдаём рэкамендацыйныя краязнаўчыя паказальнікі літаратуры. Не забываемся пра пісьменнікаў розных пакаленняў. У 1920 — 1-930-я гады Пухавіцкі край літаральна цэлы атрад пісьменнікаў вылучыў: Міхась Чарот, Васіль Гарбацэвіч, Анатоль Вольны, Аркадзь Моркаўка, Уладзімір Хадыка, Захар Бірала, Макар Пасляднёвіч, Рыгор Папараць, Пятро Рунец… І мы адгукаемся на ўсе іх юбілеі.

Знаёмства са зборам кніг з аўтографамі ў Пухавіцкай раённай бібліятэцы падштурхнула і да наступных разваг. Мясцовыя кніжніцы маглі б умясціць у сябе хаця б некаторую частку пісьменніцкіх прыватных бібліятэк. Хаця б тую, у якой вылучаны кнігі з аўтографамі. Дэталёва прагледзець, апісаць іх — хіба ж гэта не літаратурна-краязнаўчы доследю?!. І каму, як не землякам заняцца гэтым… Кнігі з аўтографамі маглі б пашырыць і гісторыка-мемарыяльную прастору ў вывучэнні літаратуры.

…Чытаем аўтограф Генрыха Далідовіча, адрасаваны пухавічанам: "Жадаеце "зазірнуць" у XIII стагоддзе і адчуць, як той наш люд дбаў, каб "людзьмі звацца"? Запрашаю. А хто хоча прачытаць твор пра каханне, таксама — калі ласка!.." (на кнізе "Кліч роднага звона", куды, акрамя аднайменнага рамана, увайшлі яшчэ і апавяданні з цыкла "Жар кахання"). Дарчы надпіс народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна: "Дарагім працаўнікам і чытачам Пухавіцкай раённай бібліятэкі — шануйце свой дом, Беларусь!" А гэтыя словы належаць Уладзіміру Скарынкіну: "Не знікнуць беларускай мове і нашым звычаям, калі жыць будзе ў кожным вашым слове павага да сваёй зямлі".

Пройдуць дзесяцігоддзі. Шмат што зменіцца ў свеце мастацкага слова. І тады таксама, як мне падаецца, у кнігах 1970 — 1990-х захаваецца красамоўнае, прыцягальнае цяпло дарчых надпісаў беларускіх пісьменнікаў. І справа, відавочна, не толькі ў цане аўтографаў на будучых аўкцыёнах…

Кастусь ЛАДУЦЬКА

## Дзе вучаць дырэктараў?

Завяршыла сваю работу міжнародная Школа дырэктараў бібліятэк "Мастацтва рэзультатыўнага кіравання", у якой у гэтым годзе прыняло ўдзел 32 кіраўнікі бібліятэк ВНУ і буйных бібліятэк краіны.

Гэты праект ужо шосты год праводзіцца бібліятэкай Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў сумесна з Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй. Заняткі школы дырэктараў былі прысвечаны праектнай дзейнасці бібліятэк, самай паспяховай форме стратэгічнага кіравання ўстановамі культуры гэтага тыпу.

Школа дырэктараў бібліятэк штогод праходзіць пры падтрымцы новых партнёраў. У гэтым годзе імі сталі Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Інстытут імя Гётэ ў Мінску.

Як заўважыла дырэктар бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Аксана Валодзіна, працавацць з кіраўнікамі бібліятэк ВНУ і буйных бібліятэк краіны дастаткова складана, бо гэта высокакваліфікаваныя людзі з вялікім вопытам працы. Яны знаёмы з сучаснымі тэхналогіямі ў бібліятэчнай справе, таму крытычна ставяцца да новай інфармацыі.

Арганізатары праекта адзначылі, што на занятках "трэнеры" прымяняюць інтэрактыўныя метады працы. Усе методыкі — аўтарскія, таму кожная школа дае не толькі новыя веды, але і знаёміць удзельнікаў часам з нечаканымі метадамі. Wiki-трэнінг — навінка гэтага года. Школа дырэктараў — эксперыментальная пляцоўка для апрабацыі і сродкаў навучання, і аўтарскіх педагагічных методык. Як правіла, тут шмат увагі надаецца псіхалагічным метадам кіравання бібліятэкамі.

У межах Школы дырэктараў бібліятэк прайшоў і "круглы стол" "Антыкрызісныя мадэлі ўзаемадзеяння выдаўца, кнігараспаўсюджвальніка і бібліятэкара", на які з мэтай абмеркавання актуальных праблем сабраліся прадстаўнікі рэспубліканскіх выдавецтваў і кнігагандлёвых арганізацый. Прадстаўнікі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва", кнігагандлёвых кампаній ЗАТ "Дэлсар" і "Мабіл-бук" расказалі пра дзейсныя спосабы вырашэння традыцыйных пытанняў, падзяліліся планамі на будучыню.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Жыве слова паэта

На Магілёўшчыне шырока адзначаецца 90-годдзе з дня нараджэння А. Пысіна. Магілёўская Цэнтральная гарадская бібліятэка імя К. Маркса, гарадское Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны і Палац культуры вобласці правялі літаратурна-музычную вечарыну "Голас памяці".

Абласная бібліятэка імя У. Леніна наладзіла літаратурную вечарыну "Пяшчотаю прасветленае слова". У Магілёўскім бібліятэчным каледжы імя А. Пушкіна адбылася вечарына "Аб вечным думаю…" Магілёўцы мелі магчымасць азнаёміцца з выстаўкамі, на паліцах якіх дэманстраваліся шматлікія зборнікі твораў паэта, літаратура пра яго жыццё і творчасць.

Ва ўсіх трох вечарынах прыняў удзел сябра паэта даследчык яго ягонай творчасці, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Арцем'еў, які распавёў пра месца А. Пысіна ў беларускай літаратуры і адзначыў адметнасць літаратурнага майстэрства творцы.

Урачыста прайшоў юбілейны вечар на малой радзіме паэта, у Палужскай сярэдняй школе Краснапольскага раёна, у якой працуе літаратурны музей А. Пысіна. Свята пысінскай паэзіі доўжыцца ў Магілёве, Бабруйску, ва ўсіх раёнах вобласці.

Віктар ІВАНОЎ

У гэтым годзе ў Інстытуце журналістыкі БДУ ажыццяўляецца набор на новую спецыяльнасць — "Літаратурная работа (творчасць)". Ці значыць гэта, што ў хуткім часе творца зможа засведчыць тое, што ён пісьменнік ці паэт, адпаведным дыпломам? Каго будуць рыхтаваць па гэтай спецыяльнасці? І ці трэба мець рукапіс рамана, каб стаць студэнтам? На гэтыя пытанні мы папрасілі адказаць загадчыка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ (на базе якой і адкрываецца новая спецыяльнасць), дацэнта, кандыдата філалагічных навук кінакрытыка Людмілу Саянкову.

# Інстытут журналістыкі: крэатыўныя крокі

## Атмасфера для творчых асоб

— Людміла Пятроўна, раскажыце, калі ласка, што гэта будзе за спецыяльнасць?

— "Літаратурная работа (творчасць)" — так яна называецца на факультэце стацыянарнага навучання (завочнага навучання на гэтай спецыяльнасці не прадугледжваецца). Такая ж спецыяльнасць будзе адкрыта і на факультэце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў. Там яна будзе называцца "Літаратурна-мастацкая творчасць". Сутнасць адна, толькі першая праграма разлічана на пяцігадовае навучанне, а другая — на двухгадовае: факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў створаны для тых, хто ўжо атрымаў вышэйшую адукацыю. Спецыяльнасць заяўлена адразу па пяці спецыялізацыях: проза, паэзія, драматургія (і кінадраматургія, і тэатральная драматургія), літаратурна-мастацкая крытыка, літаратурна-мастацкі пераклад.

— А колькі чалавек будуць набіраць?

— Набор у нас невялікі — 20 чалавек: 5 на бюджэтную форму навучання і 15 на платную (бюджэтныя месцы будуць выдзелены дадаткова, а не за кошт іншых спецыяльнасцей). Гэтыя лічбы глядзяцца абсалютна натуральна, таму што такая спецыяльнасць разлічана на адзінкавую вытворчасць, а не на масавую.

— Скажыце, набор плануецца штогод ці раз на некалькі год?

— Пакуль што мы плануем набіраць 20 чалавек штогод, але гаварыць пра гэта дакладна можна будзе, калі пачнецца вучэбны працэс.

— Якія ж прычыны паўплывалі на адкрыццё новай спецыяльнасці?

— Мне здаецца, цяпер у грамадстве стварыўся нейкі вакуум, што абазначыў недахоп людзей, якія б займаліся літаратурна-мастацкай творчасцю і цікава праяўлялі сябе ў гэтым занятку (літаратурна-мастацкая творчасць — сёння вельмі шырокае паняцце, якое не абмяжоўваецца толькі тым, што мае дачыненне да літаратуры). Дарэчы, адкрыццё спецыяльнасці — жаданне гэта і кіраўніцтва краіны, і жаданне часу і грамадства.

З таго моманту, як толькі ўзнік факультэт журналістыкі, з'явіліся выкладчыкі і студэнты, якія хацелі выкладаць і вывучаць больш, чым проста асновы журналісцкай творчасці. На журфаку заўсёды была група студэнтаў, якая займалася літаратурнай творчасцю. Сярод нашых выпускнікоў празаікі Барыс Сачанка і Іван Чыгрынаў, паэт Анатоль Вярцінскі, рэжысёры і сцэнарысты Ігар Дабралюбаў, Віктар Дашук, Рычард Ясінскі, публіцыст Святлана Алексіевіч. У нас заўсёды была спрыяльная атмасфера для з'яўлення творчых асоб.



Ефрасіння Леанідаўна Бондарава, Таццяна Дзмітрыеўна Арлова — выкладчыкі, якія падрыхтавалі глебу для таго, каб з'явілася асобная кафедра. Кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі вырасла з кафедры тэорыі і практыкі савецкай, а пазней сучаснай журналістыкі. Нядаўна нам споўнілася 10 гадоў. Калі з'явілася кафедра, узнікла жаданне, каб у нас была свая група студэнтаў, таму што прапаноўваць многія дысцыпліны на вялікую аўдыторыю не мае сэнсу — студэнты розныя і толькі частка з іх хоча паглыбляцца ў мастацкае, крэатыўнае асяроддзе. Нарэшце ў нас з'явілася магчымасць аформіць такую групу зацікаўленых студэнтаў.

## У творчую майстэрню — з рукапісам

— Хто будзе выкладаць літаратурна-мастацкую творчасць?

— Пакуль што штат кафедры (у нас працуюць літаратары і крытыкі Пятро Васючэнка, Арцём Кавалеўскі, Аксана Бязлепкіна, Маргарыта Аляшкевіч, тэатральны крытык Таццяна Арлова, крытык выяўленчага мастацтва Галіна Багданава, музычны крытык Павел Свярдлоў). Я спадзяюся, склад выкладчыкаў пашырыцца, да нас прыйдуць практыкі, будзем запрашаць гэтых людзей, будзем ствараць творчыя майстэрні, таму што без гэтага нельга. Мы хочам, каб склалася практыка творчых майстэрняў, калі абітурыенты паступаюць да нейкага канкрэтнага майстра, і ён вядзе сваіх студэнтаў з першага па апошні курс. Але, зразумела, гэта здарыцца не ў першы год існавання спецыяльнасці.

— А каго канкрэтна вам бы хацелася запрасіць весці майстэрні?

— Канкрэтных імёнаў я пакуль не называю з-за сітуацыі са штатнымі адзінкамі — у кафедры няма дастатковай колькасці штатных адзінак. Таму пакуль мы разлічваем толькі на ўласныя сілы і пакрысе думаем прырошчваць кафедру сіламі з творчага асяроддзя. Ўласна кажучы, практыкі ў нас ёсць і цяпер — Ларыса Цімошык, загадчык аддзела культуры газеты "Звязда", Людміла Перагудава, галоўны рэдактар часопіса "На экранах", і інш. Я спадзяюся на тое, што ў нас будзе працаваць яшчэ больш сталых аўтараў і журналістаў.

— Уступная кампанія будзе чым-небудзь адрознівацца ад уступных на іншыя спецыяльнасці журфака?

— Уступная кампанія нічым не будзе адрознівацца. Я зараз працую ў камісіі па прафесійна-псіхалагічным субяседаванні. І сярод выпускнікоў ёсць невялікі працэнт тых, хто піша вершы, хто хоча вучыцца на гэтай спецыяльнасці, і размаўляем мы з імі абсалютна гэтак жа, як з іншымі абітурыентамі, і яны будуць здаваць такія ж экзамены. На творчым экзамене будзем разглядаць літаратурна-мастацкую творчасць у розных варыянтах, і калі абітурыент прынясе нам раман у рукапісе, мы павінны будзем яго прачытаць.

— Будуць разглядацца нават рукапісы? Раней патрабавалі толькі арыгіналы публікацый...

— Калі гэта вялікі рукапіс, бачна, што аўтарства абітурыента бясспрэчна, і што ён працаваў, то будуць. Сцэнарыі будуць прымацца. Трэба ж зразумець, асэнсаваць, які творчы багаж у маладога чалавека.

— А будуць нейкія прынцыповыя адрозненні ў навучанні?

— Толькі набор дысцыплін. Вось некаторыя з іх: беларуская і руская проза; структура літаратурна-мастацкага твора; псіхалогія літаратурна-мастацкай творчасці; трансфармацыя жанраў у літаратуры і журналістыцы; сучасная беларуская і руская паэзія; метадалогія аналізу паэтычнага тэксту; асновы кінадраматургіі; віды і жанры кінамастацтва; гісторыя сусветнага тэатра; гісторыя сусветнага кіно; феномен інтэртэкстуальнасці ў сучаснай культурнай прасторы; сучасная беларуская літаратурная крытыка; кінакрытыка; тэатральная крытыка; крытыка выяўленчага мастацтва; замежная літаратурна-мастацкая крытыка; тэорыя і практыка мастацкага перакладу; гісторыя мастацкага перакладу; вобраз аўтара і перакладчыка ў мастацкім творы і інш.

— Студэнты творчых навучальных устаноў часта скардзяцца, што навучальны працэс амаль не арыентаваны на сучаснае мастацтва, яго вывучэнне і тлумачэнне. Ці будзе звернута дастатковая ўвага на сучаснасць студэнтаў новай спецыяльнасці?

— У нас ужо ёсць прадмет, які называецца "Сучасны літаратурны працэс" (пакуль што на ўзроўні спецкурса), які прадугледжвае вывучэнне беларускай і рускай літаратур на мяжы XX і XXI стагоддзяў. На гісторыю мастацтваў будзе выдзяляцца як мага больш гадзін, на XX стагоддзе з мноствам стыляў і кірункаў, якія павінен ведаць прафесіянал.

Хутчэй за ўсё будзе прапанавана вялікая колькасць спецкурсаў на выбар (мы кіруемся ўзорамі амерыканскай і еўрапейскай практык). Яны будуць прадугледжваць вывучэнне сучаснай культурнай прасторы, напрыклад: fashion-культура і глянцавыя выданні; рэлігія ў сучасным свеце; параўнальны аналіз культурных формаў. Будзе асобны прадмет па масавай культуры.

## Спецыялісты, якія рэфлексуюць

— А што будзе напісана ў дыпломе выпускнікоў, і кім яны змогуць працаваць?

— Зразумела, не напішаш у дыпломе і не скажаш, што ў чалавека прафесія — пісьменнік. Пісьменнік прозы, і, калі ласка, забяспечце яго працай пісьменніка, які піша прозу. У дыпломе будзе напісана: "спецыяліст па літаратурна-мастацкай творчасці". І апрача таго, што нашы выпускнікі будуць займацца мастацкай творчасцю, яны атрымаюць адпаведную адукацыю для аглядальніка па культуры і мастацтве. Гэта будучыя спецыялісты аддзелаў культуры масавых спецыялізаваных выданняў і літаратурна-мастацкіх выданняў; літаратурных частак тэатраў; сцэнарных майстэрняў кінастудый, прэс-цэнтраў культурных устаноў, прадзюсерскіх цэнтраў. Яны змогуць працаваць на радыё, на тэлебачанні, у друкаваных СМІ, у інтэрнэт-СМІ.

Галоўнае, каб гэта былі спецыялісты з рэфлексіўным пачаткам, якія могуць асэнсоўваць, аналізаваць нейкія грамадскія працэсы. Не так даўно я пабывала ў Швецыі. У іх да кожнай штодзённай тоўстай масавай газеты ёсць штодзённы дадатак "Культура". Шведы асвятляюць праблемы культуры ў розных формах і жанрах і, зразумела, прысутнічаюць аналітычныя жанры ў вялікай колькасці (тое, што зараз у нашых масавых выданнях лічыцца справай не вельмі патрэбнай). Я размаўляла з выдаўцом шведскага выдання "Хельсінкборг дагбладэт". Ён збіраўся пісаць пра візіт караля і каралевы ў краіну, якая гандлюе зброяй. Прынцыпова на палаце "Культура", а не на палаце "Палітыка". І ён напіша так, што гэта будзе тычыцца кожнага грамадзяніна. Ён будзе абуджаць у сваіх чытачоў здольнасць мысліць. Наша задача — падрыхтаваць інтэлігентных, адукаваных і разумных, людзей з рэфлексійным пачаткам.

— Вас не палохае дубляж спецыяльнасцей? Драматургі, перакладчыкі — іх рыхтуюць і іншыя ВНУ.

— У кожнага інстытута ёсць свае традыцыі, аснова. Наш спецыяліст будзе не проста ведаць мовы і перакладаць з адной на другую, ён будзе рабіць пераклад, добра арыентуючыся ў літаратуры. Я не хачу папракнуць тую ці іншую ВНУ ў тым, што яна рыхтуе горш ці слабей, але ў іх свая задача, у нас — свая. І месца пад сонцам хопіць усім.

— Людміла Пятроўна, а вы ўпэўнены, што студэнты гэтай спецыяльнасці не застануцца без працы пасля заканчэння? Не так ужо шмат людзей вымагаюць аддзелы культуры ў розных выданнях, літаратурныя часткі тэатраў і прадзюсерскія цэнтры...

— Сказаць, што я ва ўсім упэўнена, не магу. Лёгка, безумоўна, не будзе. Але і цяпер не так проста ўладкаваць усіх выпускнікоў нашага факультэта. Аднак усе знаходзяць сабе месца. Тым больш, мы не хварэем на гігантаманію і не гонімся за тым, каб набор штогод павялічваўся. Пакуль што будзем працаваць са стартавай адзінкай — 20 чалавек. Існуем мы ў кантэксце журналісцкай адукацыі, а значыць, апроч рэдкіх прафесій, для выпускніка заўжды ёсць і магчымасць уладкавацца журналістам. Да таго ж зусім невядома, якія структуры могуць узнікнуць за бліжэйшыя пяць год і якіх спецыялістаў яны запатрабуюць. Таму дэвізам гэтай спецыяльнасці мне хацелася б зрабіць словы, якія я аднойчы прачытала ў звароце да студэнтаў Гарвардскага універсітэта: "Мы хацелі б даць вам такую адукацыю, каб вы адчувалі сябе мабільнымі ў сучасным свеце і каб вы маглі выкарыстаць свае здольнасці ў любой, часам нават нечаканай для сябе галіне".

Гутарыла Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

Фота Аляксандра Запольскага

## Пуцявіны

# Случчына з тысячы зор

На маіх кніжных паліцах захоўваецца нямала кніг, падораных сябрамі-пісьменнікамі. Гэта — творы Піліпа Пестрака, Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Паўлюка Пранузы, Анатоля Грачанікава... Побач з імі размясціліся і зборнікі твораў іншых аўтараў, якія з поспехам працуюць у літаратуры: Міколы Чарняўскага, Васіля Ткачова, Міхася Болсуна, Ганны Атрошчанкі, Лідзіяны...

А вось стаіць невялічкі томік незабыўнага Анатоля Астрэйкі — аўтара вядомай песні пра Нёман — "Слуцкі пояс". Лёс гэтай кніжкі-партызанкі незвычайны.

У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай у сакавіку 1962 года Анатоль Пятровіч згадваў пра суровыя дні першых месяцаў Вялікай Айчыннай вайны: "У Гомелі мы выдавалі газету-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну". За паўтара месяцы выдалі дваццаць нумароў газеты-плаката... Потым франтавыя дарогі давялі аж да Масквы.

...У Маскве я зноў доўга не затрымаўся. Здаў рэдакцыйныя справы паэту Антону Бялевічу і ў 1943 годзе на самалёце быў перакінуты да партызан Мінскай вобласці. Хадзіў я па Мінскай, Пінскай і Гомельскай абласцях з атрада ў атрад, збіраў матэрыялы ад народных мсціўцаў, пісаў вершы, якія тут жа чыталі на партызанскіх сходах і вечарах на лясных палянах і ў вёсках... Супрацоўнікі слуцкай падпольнай газеты "Народны мсцівец" сабралі лепшыя вершы і выдалі асобным зборнікам пад назваю "Слуцкі пояс"...

У падораным мне зборніку ў аднайменным вершы ёсць радкі:

Нада мною блакітны шацёр,
А навокал лясы і лясы.
Мая Случчына з тысячы зор
Тчэ на восень свае паясы...

Цікавая гісторыя таго, як падарыў Анатоль Астрэйка дублікат свайго "Слуцкага пояса".

Недзе ў шасцідзясятых гадах да нас у рэдакцыю газеты "Гомельская праўда", якая месцілася тады ў прыгожым будынку на Інтэрнацыянальнай вуліцы ў Гомелі, Анатоль Пятровіч прывёў узбекскага пісьменніка Адхама Рахмата. Яго ён павінен быў суправаджаць на Лоеўшчыну, дзе быў пахаваны вядомы ўзбекскі паэт Султан Джура.

...Калі развітваліся на чыгуначным вакзале пасля паездкі на Лоеўшчыну, Анатоль Астрэйка адвёў мяне ўбок:

— Ведаеш, браце, падару табе "Слуцкі пояс" — самую дарагую для мяне кніжку. Дарую, што — дублікат. Адзіны арыгінал, што меў, неяк падпісаў прафесару Канстанціну Саннікаву. А потым пры выпадку давялося зноў у яго "пазычыць"...

Прадмову да кніжкі напісаў сакратар Слуцкага падпольнага райкама партыі Іпаліт Кананавіч. А рэдагаваў кніжку выдатны журналіст, былы партызан Мікола Дастанка.

Пад лозунгам "Смерць нямецкім акупантам!" рукою Міколы Дастанкі напісана "Закончана друкаваць 18.XII.43г. Адказны рэдактар М.Дастанка". Пазначаны і тыраж — тысяча экземпляраў. Прызнацца, нават па сённяшніх няпростых для выдання кніг часах, наклад зборніка здзіўляе.

Мікола Дастанка ўспамінаў, з якім уздымам у тыя нялёгкія дні друкавалася кніжка-партызанка. Самадзейныя мастакі Саша Залаты і Саша Бляеў старанна выразалі для вершаў літары-застаўкі з... кляновых кубікаў. Набіралі кніжку Люба Куляшова і Люба Шаўчук. Друкарамі былі партызаны Валодзя Кананавіч і Коля Торхаў. "Больш месяца, — успамінае Мікола Дастанка, — наш калектыў нёс ударную вахту па выпуску "Слуцкага пояса". Не адыходзіў ад нас і аўтар".

Міхась ДАНІЛЕНКА

# Загрузіце сябе ў нябёсы, альбо Праблемы развіцця жанру кіберпанка ў сучаснай беларускай літаратуры

Сённяшні надзвычай прагрэсіўны ў плане развіцця высокіх тэхналогій свет усё часцей задаецца пытаннем аб пазітыўнасці любых здабыткаў навуковага прагрэсу, што, у сваю чаргу, бескампрамісна падзяляе соцыум на два лагеры: тэхнафілаў і тэхнафобаў. Акурат паміж гэтымі напрамкамі грамадскай думкі знаходзіцца філасофская сістэма аднаго з самых актуальных жанраў сучаснага мастацтва слова — кіберпанка. Найбольш распаўсюджаным у літаратуразнаўстве з'яўляецца меркаванне пра яго паходжанне як рэакцыю на утапічную плынь у літаратуры, а таксама на развіццё інфармацыйных тэхналогій у пачатку 80-х гг. XX ст., што не атрымала адэкватнага адлюстравання ў творах навуковай фантастыкі таго часу.

Безумоўна, тэмы, запатрабаваныя ў творах гэтага жанру (а сярод іх — прагназаванне магчымых вынікаў маніпуляцыі матэрыяй на малекулярным і атамным узроўнях, у тым ліку і стварэнне рэчыва, якое паддаецца праграмаванню; вынаходніцтва карысных вірусаў, здольных падараваць чалавеку ілюзорную альбо сапраўдную фізічную і інтэлектуальную дасканаласць; разгляд сацыяльных і псіхалагічных аспектаў выкарыстання геннай інжынерыі і біялагічнай зброі; даследаванне спецыфікі існавання чалавечай свядомасці ў віртуальнай рэальнасці і г.д.), вымагаюць ад чытача дастатковай падрыхтаванасці ў галіне "высокіх тэхналогій".



Так, пытанне аб патэнцыяльных выніках навукова-тэхнічнага прагрэсу і характары яго ўздзеяння на грамадства знайшло сваё адлюстраванне ў творчасці маладога беларускага пісьменніка А. Паўлухіна ("Стальныя арлы", "Кроў і восень" і інш.). У аснове сюжэта яго твораў нярэдка знаходзіцца барацьба хакера, інтэлектуальнага злачынцы, своеасаблівага сацыяльнага і духоўнага маргінала, з магутнымі карпарацыямі (апавяданне "Сальта над алюмініевым лесам"). А. Паўлухін стварае свет, дзе гіганцкія транснацыянальныя арганізацыі замяшчаюць сабой дзяржаву. Аўтар ставіць сваіх персанажаў перад выбарам: скарыцца камп'ютэрна-гандлёвай сістэме і ігнараваць нелегальнае выкарыстанне новых тэхналогій ці змагацца з несправядлівасцю. Героі твора абіраюць апошняе і дасягаюць сваёй мэты. Аднак абстрагаванасць іх высакародных ідэй ад сапраўдных праблем грамадства і меркантыльнасць інтарэсаў (прадаць сакрэт вечнага жыцця за вялікія грошы) робяць перамогу Даўна і Кунджы даволі ілюзорнай. Тым больш, што рэальнасць не ўлічвае тых ці іншых дасягненняў у віртуальным свеце: жыццё персанажаў у канцы апавядання спыняе самая звычайная свінцовая куля.

Неад'емнымі кампанентамі магчымага "заўтра" тэхнагеннага грамадства, на думку пісьменніка, з'яўляюцца дэгуманізацыя, абыякавасць да любых праяў індывідуальнага, нізкі ўзровень жыцця, поўная дэградацыя маральнасці, прызнанне людзей недасканалымі істотамі і разнабаковых іх мадыфікацый, за якімі даволі часта губляецца сам чалавек: "Я ішоў паўз слупы з прыкаванымі дзяўчынамі-мулаткамі (ідэальныя формы плюс генетычная карта з пералікам унесеных змяненняў), паўз палаткі з кансерваванай вадой і салодкасцямі, паўз гуляючыя мышцамі кланіраваныя целы…" (апавяданне "Загрузіце сябе ў нябёсы"). Дэзарыентацыя людзей у свеце ў значнай ступені абумоўлена распаўсюджанай у будучыні з'явай зліцця камп'ютэра і яго карыстальніка, перамяшчэннем апошняга ў кіберпрастору, ілюзорнае месца, дзе знікае традыцыйны падзел на дабро і зло, этычнае і неэтычнае.

Працягваючы даследаванне кіберпанка ў сучаснай беларускай літаратуры, нельга не адзначыць наяўнасць элементаў дадзенага жанру ў апавяданні У. Клімовіча "Сістэма Баслі". У творы ўздымаецца даволі актуальная праблема згаданай разнавіднасці навуковай фантастыкі: пытанне аб магчымых выніках ракіроўкі суб'екта і аб'екта, чалавека і машыны, у працэсе вытворчасці і ў побытавым аспекце жыцця людзей.

У краіне, жыхаром якой з'яўляецца галоўны герой твора Габрыэль Баслі, толькі адзінкі выбіваюцца з агульнай сістэмы і займаюцца самастойнай працай, і атрыманне такой прафесіі становіцца сэнсам ягонага жыцця. Апісваючы выпрабаванні, праз якія праходзіць персанаж, пісьменнік звяртаецца да прыёму скажэння часава-прасторавага кантынууму тэксту. Так, Баслі, будучы прадстаўніком грамадства будучыні, трапляе ў розныя мінулыя эпохі, дзе прымае ўдзел у англа-бурскай вайне, змагаецца за сваё жыццё на арэне старажытнага амфітэатра, у мезазойскую эру ўступае ў схватку са стэгазаўрам. Нарэшце, герой дасягае сваёй мэты, атрымаўшы "незалежную" працу смецяра. Эфект дарэмнасці, нікчэмнасці высілкаў і намаганняў узмацняецца тым фактам, што ён адчувае сябе бязмежна шчаслівым, бо нарэшце дасягае жаданай свабоды. Такая рэакцыя Баслі сведчыць пра спраўджанасць яго мары, што першапачаткова ўспрымаецца чытачом як ілюзорная. Аднак у апавяданні гучыць не прапанова адмовіцца ад навуковага прагрэсу, а папярэджанне пра магчымыя наступствы безагляднага імкнення чалавека да абсалютнага камфорту, да поўнай упэўненасці ў заўтрашнім дні.

Ідэя пра неабходнасць пераацэнкі вартасцей навуковых здабыткаў і іх ролі ў жыцці грамадства знайшла сваё адлюстраванне і ў апавяданні Р. Баравіковай "Перакрыжаванне-777". У ім аўтар звяртаецца да пераасэнсавання вобраза тэхнікі, якая падаецца не агульнапрызнаным з часоў Ф. Бэкана і Г. Уэлса пазітыўным пачаткам, а сродкам дэфармацыі асобы, сілай, здольнай да панавання над сваімі карыстальнікамі.

Дапамога чалавецтву, якое, на думку пісьменніцы, абрала найменш рацыянальны шлях свайго развіцця, прыходзіць звонку, з нетраў бясконцага космасу. Іншапланецяне, якія паставілі перад сабой згаданую мэту, разумеюць кардынальную розніцу паміж сваёй і людской цывілізацыямі ("Мы займаемся сусветам, а яны сабою") і спрабуюць падштурхнуць "хома сапіенса" да пошуку новых, больш глабальных па сваёй сутнасці, шляхоў развіцця.

Але чым больш чужынцы аналізуюць жыццё на Зямлі, тым больш актуальным становіцца пытанне аб характары існавання іх цывілізацыі. Так, Пронт, адзін з жыхароў іншага свету, заўважае, што паўсядзённыя клопаты кожнага чалавека, нягледзячы на іх трывіяльнасць і другараднасць у параўнанні з праблемамі сусветнага характару, дапамагаюць яму заставацца актыўным стваральнікам свайго жыцця, захоўваць незалежнасць і непаўторнасць асобы. Існаванне на ўласнай далёкай планеце ўсё больш бачыцца згаданаму персанажу ілюзорным, пазбаўленым арыгінальнага пачатку. Татальнае захапленне прышэльцаў навукова-тэхнічным прагрэсам і шырокае выкарыстанне яго дасягненняў у паўсядзённым жыцці прывяло да адчужэння паміж асобнымі індывідамі ў знешне гарманічнай цывілізацыі іншапланецян. Гэта пачынаюць разумець і самі чужынцы: "Апошнія два разы, калі я выходзіў на сувязь, у мяне было адчуванне, што я гавару не з Мілтам, а з нейкім іншым, хто капіруе голас Мілта". — Пронт пагрдзеў запытальна: "Думаеш, робат?" <…> — "Усё можа быць… У мяне нярэдка з'яўляецца думка, што ўжо невядома, хто кім кіруе: яны намі ці мы…"

Аналізуючы кіберпанк, нельга не адзначыць праяўленне выразных прыкмет дадзенага жанру ў творчасці Ю. Станкевіча. Так, у рамане "Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн" аўтар звяртаецца да праблемы кланіравання як асноўнай тэхналогіі атрымання ідэнтычных арганізмаў. Дадзенае дасягненне навукі, што прадстаўлена пісьменнікам у даволі негатыўным свеце, выступае ў творы неад'емным кампанентам агрэсіўных паводзін прышэльцаў з іншага сусвету ў дачыненні да землян. Нездарма Ю. Станкевіч у пасляэпілогу, звяртаючыся да прароцтваў і лёсу М. Настрадамуса, цытуе ў арыгінале і перакладае яго 32-гі катрэн 5-й цэнтурыі з папярэджаннем аб набліжэнні вялікага разбурэння, што павінна змяніць лёс людзей і "…прыйдзе з сёмага вымярэння".

Прагнозы аўтара наконт далейшага развіцця чалавечай цывілізацыі даволі песімістычныя: "…мы можам толькі чакаць, назапашваючы веды ды пакутуючы ад недахопу жыццёва неабходных інгрыдыентаў, якія ўсё больш змяншаюцца: няўпэўненасці, страху і бязмернай адзіноты…".

Відавочна, што постчалавек, паводле беларускага кіберпанка, жыве ў штучным свеце, у якім чалавек перамог хваробы і смерць, але разам з гэтым пазбавіўся здольнасці да экзістэнцыйных духоўных канфліктаў. Пісьменнікамі сцвярджаецца неабходнасць узмацнення маральна-этычнага аспекту жыцця грамадства, без якога любая ідэя па ўдасканаленні "хома сапіенса" падаецца ілюзорнай і пазбаўленай логікі.

Марына АММОН
Малюнак
з інтэрнэт-сайта

## Кніжная паліца



У выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў чарговы том "Выбраных твораў" Алены ВАСІЛЕВІЧ. Гэта па ліку пяцьдзесят трэцяе выданне "Кнігазбору" ў серыі "Мастацкая літаратура". Кніга складаецца з такіх добра вядомых твораў лаўрэата Дзяржаўна прэміі Беларусі, як тэтралогія "Пачакай, затрымайся", тузіна апавяданняў і шасці выбітных літаратурных эсэ. Прадмова і каментарыі А. Сямёнавай. Рэдактар К. Дуброўскі.



У рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Пераходны ўзрост" выйшла кніга пісьменніка Уладзіміра САЛАМАХІ "Там, дзе самота і радасці…" Гэта дзве аповесці, героі якіх — старшакласнікі і нядаўнія выпускнікі — апынаюцца ў складаных сітуацыях, задаюцца пытаннем, як зрабіць правільны выбар і захаваць сваю годнасць. Наперадзе ў кожнага з іх свая дарога, але як на ёй не схібіць, каб застацца самім сабой…



У рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" выпушчана кніга для дзяцей малодшага школьнага ўзросту паэта Уладзіміра КАРЫЗНЫ "Лепяць ластаўкі гнездзечкі". Пад вокладкай сабраны сур'ёзныя і вясёлыя вершы, нечаканыя загадкі і незвычайныя казкі. Гэтыя творы створаныя на аснове менталітэту беларускага народа і выхоўваюць лепшыя нацыянальныя рысы: дабрыню, працавітасць, кемлівасць і прагу пазнання новага, а таксама — любоў да Радзімы і матчынага слова.



У Англіі (Лондан) выдадзена аб'ёмная (1136 старонак) кніга прафесара Арнольда МАКМІЛІНА "Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day" ("Пісанне ў халодным клімаце: беларуская літаратура з 1970-х да нашых дзён"). У томе сабраны артыкулы больш як пра 200 літаратараў, ва ўзроставым дыяпазоне ад Р. Барадуліна да В. Куставай. Усе яны сфарміраваны па групах, блізкіх у сваёй творчасці жанрава, стылёва і светапоглядна. Кніга выдадзена на англійскай мове.



У Мінску ўвыдаўца А. Печанкі выйшаў "Філасофскі дзённік" ("манаграфія" ў дзвюх кніжках) Аляксандра ГАРБАЧОВА, старшага выкладчыка кафедры рускай літаратуры БДУ. Як напісана ў анатацыі, "дзённік" уяўляе сабой сачыненне, пабудаванае па храналагічным прынцыпе. Выбраны жанр кароткіх запісаў дазваляе аўтару выказваць свае ідэі без агляднi на неабходнасць разгортваць іх у аб'ёмныя тэксты. Кніга адрасавана ўсім зацікаўленым неардынарным чалавечым мысленнем.

# Помнік князю Альгерду — пачатак

Якія яны, ландшафты памяці Віцебска? На гэта пытанне вы знойдзеце адказ, калі прачытаеце зборнік "Віцебск. Ландшафты памяці", прэзентацыя якога нядаўна адбылася ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. Кніга была выдадзена па выніках конкурсу, праведзенага Беларускім гістарычным таварыствам і музеем. Зірнуць на Віцебск у ракурсе новых помнікаў прапанавала моладзь ва ўзросце да 29 гадоў.

Школьнікі, студэнты, маладыя людзі выказалі свае меркаванні адносна таго, якіх помнікаў не хапае ў Віцебску і яго ваколіцах, якія цікавыя гістарычныя асобы, мясціны дагэтуль ніяк не адзначаныя, якая архітэктура патрабуе аднаўлення і галоўнае: чаму гэтыя месцы памяці вартыя нашай увагі. У зборнік увайшло дзевяць прац. Варта адзначыць, што праект аб усталяванні помніка князю Альгерду, прапанаваны студэнтам гістарычнага факультэта ВДУ імя. П. Машэрава Аляксандрам Бандысенкам, ужо распрацоўваецца.

Каардынатарам конкурсу і ўкладальнікам зборніка выступіў навуковы супрацоўнік віцебскага Мастацкага музея Раман Воранаў. Ён і праводзіў прэзентацыю "Ландшафтаў памяці", падчас якой прадстаўнікі журы і ўсе прысутныя выказалі надзею, што такая важная справа не скончыцца выданнем гэтай кніжкі, а пойдзе далей і будзе разгледжана на ўзроўні гарадскіх уладаў. Падтрымана прапанова і аб правядзенні акцыі аб добраахвотным зборы сродкаў на рэканструкцыю віцебскіх ландшафтаў памяці, дэвізам для якой можна было б выкарыстаць перафразіраваны радок з твора Ф. Багушэвіча: "Не пакідайце ж справы беларускай".

На жаль, многія з прапанаваных помнікаў пакуль немагчыма пабачыць у Віцебску, на гэта патрэбна згода ўладаў, сродкі… Але крок зроблены, крок аргументаваны гісторыяй і скарэктаваны сучаснасцю. Вось такі цудоўны сінтэз.

І, можа, калісьці з вышыні ратушы мы пабачым Віцебск у надзвычайным харастве ландшафтаў памяці ў сучаснай інтэрпрэтацыі.

Ірына ЛОБАН
Віцебск

Імя ў рускай паэзіі Беларусі: Юрый Сапажкоў

Паэт Юрый Міхайлавіч Сапажкоў, якому ў гэтым, 2010 годзе, споўнілася 70 гадоў, належыць да пакалення дзяцей Вялікай Айчыннай вайны.




# Штрыхі да партрэта вайны

Дзеці вайны — гэта родавая метка пакалення, такая ж характэрная, як, скажам, страчанае пакаленне альбо пакаленне пераможцаў. Дзеці вайны — гэтае адмысловае светаадчуванне, адмысловае дачыненне да вайны, да свету, да чалавека, да радасці і болю. Іх светаўспрыманне назаўжды адкарэкціравана гэтай штодзённай прысутнасцю вайны. Калі дзіцяці давялося нарадзіцца і жыць падчас вайны, адчуваць яе дыханне і рытм, значыць, малое асуджана было несвядома прымаць у ёй удзел, па-свойму ваяваць, прымяраючы на сябе гераічныя сюжэты і атрыбуты. Зразумела, дзеці гулялі ў вайну, у "нашых" і "фрыцаў", здзяйсняючы подзвігі і гінучы, — яны жылі вайной. І паколькі дзеці вайны заставаліся перш за ўсё дзецьмі, хоць маленствам і абароненыя ад непасрэднага ўдзелу ў баях, яны, пасталеўшы, пачыналі адчуваць штосьці накшталт комплексу віны перад тымі, хто з вайны не вярнуўся. Нават пакаленне пераможцаў, тых, хто ваяваў і застаўся жывы, асуджанае было хадзіць па зямлі без віны вінаватымі, да канца дзён сваіх зжываць гэтую немач героя, якому пашанцавала. А. Твардоўскі вельмі чула і дакладна выразіў інтымна-гераічны асадак у скупых радках, якія змясцілі шматлікае невымоўнае:

Я знаю, никакой моей вины
В том, что другие не пришли с войны,
В том, что они —
кто старше, кто моложе —
Остались там,
и не о том же речь,
Что я их мог, но не сумел сберечь, —
Речь не о том,
но все же, все же, все же…

Прыкладна тое самае адчуваюць без віны вінаватыя, ва ўсім абдзеленыя дзеці вайны. Пачуццё віны перад загінуўшымі героямі, якія адначасова былі іх бацькамі або старэйшымі братамі, і лечыць, і калечыць: калі чалавеку давялося перажыць падобнае, то гэта робіцца свайго роду праклёнам; а калі чалавек ачарсцвеў душой, то яго таксама можна прылічыць да ахвяр вайны. Гэтае праклятае "ўсё ж" вострае з усіх бакоў…

Праўда ў тым, што вайна не ўпрыгожвае людзей.

Але праўда таксама і ў тым, што вялікая і справядлівая вайна нараджае высокі лад пачуццяў, якія ўпрыгожваюць чалавека.

Вершы вельмі падыходзяць для выражэння такога складанага ў сваёй прастаце светаўспрымання.

У 2004 г. Юрый Сапажкоў выдаў кнігу вершаў пра вайну "Ліст сябру". Кніжка ўяўляе сабою трохкутнік салдацкага ліста, без маркі і канверта, якія адпраўляліся палявой поштай. Такім чынам, фармат франтавых зносін паэт зрабіў эталонам змястоўных чалавечых зносін у прынцыпе: перад тварам смерці фальш і пустыя словы становяцца эстэтычна брыдкімі, а дакладнае і праўдзівае слова пераўтвараецца ў вершы. Мера этычнага становіцца мерай эстэтычнага. За дакладнымі словамі стаяць праўдзвыя пачуцці. Іх немагчыма зымітаваць. Каб напісаць ліст сябру і адправіць яго на фронт, трэба належаць да пакалення дзяцей вайны. У вершы "Сябру", якім адкрываецца зборнік, уражвае ўменне выявіць пафас у звычайнасці, і пры гэтым не выпінаць яго, а зрабіць атрыбутам штодзённасці, растварыць у жыцці і лёсе (гэта, вядома, тонус жыцця павышае, а лёсу дадае вымярэнне, якое прынята зваць "не хлебам адзіным"):

Когда бывает в жизни туго
И сил исчерпаны запасы,
Простые строки писем друга
Нужны мне, как боеприпасы.
А если нет тех строк бодрящих,
Хожу потерянным, пропащим,
И кажется почтовый ящик
Пустым, ненужным патронташем.

У такім жа ключы напісана "Запавет бацькі".

Меня бессмертьем Родина
Посмертно наградила.
Отверстие для ордена
Мне пуля просверлила.
Жизнь принимал в открытую,
И встретил смерть не в спину.
Шинель свою пробитую
Велел примерить сыну:
Проверенная, давняя
Примета мне известна —
Не быть двум попаданиям
В одно и то же место.

Лепшыя вершы Сапажкова падманліва простыя. Як правіла, яны трымаюцца на адной магістральнай метафары, на метафарычна асэнсаванай сітуацыі, якая расквечваецца другараднымі, калі так можна сказаць. Атрымліваецца галінасты паэтычны будынак — метафара з матрунак, схаваных адна ў адну.

Часам гэтая сітуацыя ў канцоўцы афарыстычна ацэньваецца і падаецца як свайго роду "мараль".

Магістральная метафара вызначае своеасаблівасць "Начной цішыні", "Неўміручасці" — і практычна ўсіх іншых вершаў.

У гэтыя вершы пра вайну трэба ўжыцца, каб разглядзець відавочнае тое, што на першы погляд не кідаецца ў вочы: адносіны да вайны, падказаныя лёсам і натурай паэта, робяцца паэтычным прыёмам. Для яго вайна доўжыцца і ніколі не канчаецца, што трэба разумець наступным чынам: чалавечая сутнасць, якая на вайне агаляецца, у мірны час не становіцца іншай; калі паглядзець на чалавека вельмі праўдзіва, калі ў думках змясціць яго ў сітуацыю вайны (у экстрэмальную, памежную, экзістэнцыйную), пра чалавека даведаешся шмат цікавага.

Перад намі, калі заўгодна, паэтычны погляд на рэчы, паэтычнае бачанне, узбагачанае досведам пакалення дзяцей вайны. У дадзеным кантэксце вызначэнне паэта можа быць такім: чалавек, які ў сваіх вершах на сябе і на іншых здольны паглядзець вачамі чалавека вайны, каб разгледзець яго безабароннасць.

Насамрэч, гэта, вядома, мірны погляд, у ім няма нічога крыважэрнага; аднак у ім ёсць "нямірная" абвостранасць, непрымірымасць да душэўных заган. Гэта, вядома, у пэўным сэнсе рамантычны погляд.

Вось чаму ў вершах Юрыя Сапажкова няма вайны як такой, ёсць перазоў з вайной. Як, напрыклад, у "Гульні".

На круче, где вихрем пехота
Прошла, поредев от потерь,
Осевшие, мрачные доты
Стреляют цветами теперь.
И Ленька — соседский мальчишка,
Овсяные брови вразлет —
На красные беглые вспышки
Совсем по-отцовски ползет.

І ўсё ж рэальнае, негульнявое светаадчуванне дзяцей вайны не дае супакою.

Парадаксальна: у вершах Сапажкова пра вайну няма нянавісці. Нават ваенная зброя, жалезна-сталёвыя гарматы, што сеюць смерць, ён бачыць у гуманістычным ракурсе:

Водят дулом,
Смотрят косо,
Но пока еще не бьют —
Наводящие вопросы
Немцу пушки задают.

Гэта лагічна і натуральна: вершы, сапраўдныя вершы, павінны ўслаўляць жыццё, нават калі яны аплакваюць смерць. Адзін з апошніх вершаў зборніка "Бацька" наўпрост не звязаны з вайной, аднак ён змешчаны ў зборніку, і па логіцы сітуацый мае дачыненне да ўнутранага сюжэта кнігі.

Отец мой там,
где листьев всхлипы
Над свежекрашеной оградой.
Отец мой там, где корни липы
Вчера обрублены лопатой.
День новый ясной мыслью начат:
Там холодно, темно и влажно.
Но там отец, и это значит,
Что уходить туда не страшно.

Пасля гэтага ідзе "Каханне" — зноў жа, па-за кантэкстам вайны, але ў кантэксце кнігі. Усё правільна: вайна — гэта заўжды сутычка Эраса і Танатаса. Калі жыццё працягваецца, значыць, перамог Эрас.

В семнадцать —
праздничная новь.
Когда тебе за тридцать — благо.
А после тридцати любовь —
Души великая отвага.
Ты всем пожертвовать ей рад,
Хоть бездна жертв не возвращает.
А в шестьдесят?
А в шестьдесят
Любви, я думал, не бывает.

Такім чынам, "Ліст сябру" — гэта паэтычная справаздача аб тым, што вайна была не марнай, што душы пераможцаў ацалелі і настроены на сяброўства, каханне і памяць.

Не на вайну.

Анатоль АНДРЭЕЎ

## Складана пісаць для дзяцей

У Беларусі стала вядома пра новы расійскі дзіцячы праект часопіса "Фама". Гэта адмысловы конкурс твораў для дзяцей на публікацыю ў серыі кніг "Насця і Мікіта". Шэф-рэдактар праектаў выдавецкага дома "Фама" Аліна Дальская (Масква) прэзентавала яго ўдзельнікаў і падвяла першыя вынікі. На творчае спаборніцтва ўдзельнікі з Беларусі таксама звярнулі ўвагу. Восем чалавек даслалі больш за тры свае творы. Двое — толькі па адным. Але літаратурнае спаборніцтва працягваецца.

Пра творчы конкурс было аб'яўлена 1 снежня мінулага года як сярод расійскіх аўтараў, так і сярод беларускіх. Асноўнымі мэтамі былі, бясспрэчна, адкрыццё новых імёнаў, а таксама стварэнне сапраўды якаснай і цікавай дзіцячай серыі. Трывожным званочкам стала адчуванне: дзеці сёння сталі менш чытаць.

Але на такі літаратурны заклік адгукнулася не так многа аўтараў, як чакалася. І прычына нават не ў адсутнасці жадання ў сучасных майстроў слова пісаць для дзяцей. Некаторыя работы проста не падыходзілі па крытэрыях конкурсу.

Так, у яго ўмовах агаворваецца, што апавяданні і казкі не павінны быць вельмі рэлігійнымі (хаця конкурс і праводзіцца ў межах праваслаўнага часопіса "Фама"), але, у той жа час, і не выключна "мірскімі". Ёсць ва ўмовах цікавы пункт: усе героі твораў павінны быць… станоўчымі. Неяк складана ўявіць сучасную казку без адмоўных персанажаў. Па каментарыі звярнулася да Таццяны Сіваковай, адной з арганізатараў конкурсу ў Беларусі.

— Многія аўтары не зусім правільна разумеюць. Не ўсе асобы павінны быць бездакорна станоўчымі. Сэнс гэтай умовы ў наступным: у творы неабходна адлюстраваць, што якім бы ні быў герой, ён заўсёды можа змяніцца да лепшага. Пісьменніку трэба "намаляваць" чалавека добрага, але сучаснага, жывога, спагадлівага. Ёсць паспяховыя праекты: "Пингвин-мореход" Андрэя Макаёнка быў надрукаваны нават па-за межамі конкурсу.

Дзіцячая літаратура павінна быць пазітыўная, яркая і, хаця складана дарослым пісаць для дзяцей, але работы, вартыя ўвагі выдаўца, ёсць. Напачатку планавалася выпусціць 20 кніг, цяпер жа думаем ужо пра 22, — падкрэсліла Таццяна Сівакова. Тэрміны заканчэння конкурсу яшчэ не агаворваюцца, таму ў беларускіх аўтараў ёсць шанс стварыць сапраўдную казку для дзяцей.

Наталля НІКІЦІНА

Калонка Алы БРАДЗІХІНАЙ

## Magister ludi і бурымэ



Інтэрпрэтацыя мастацкага твора ў многім нагадвае бурымэ. Зыходныя рыфмы тут — велічыня канстантная, а тэкст у кожнага атрымліваецца свой. І чым больш каларытна-нязвыклымі будуць адпраўныя словы, тым больш узнікне разнастайных асацыяцый. Творчасць маладога, але, безумоўна, яркага празаіка Югасі Каляды выклікае самыя розныя ацэнкі: ад нараканняў на адсутнасць філасафічнасці, паўтаральнасць прыёмаў (З. Вішнёў) і аднабаковасць тэматыкі, зацягнутасць сюжэта (Н. Якавенка) да арыгінальнасці мастацкіх падыходаў у раскрыцці вечных тэм (І. Шаўлякова) і "тэрапеўтычнага" эфекту (А. Бязлепкіна). Дадае гэтым разыходжанням ва ўспрыманні і спалучэнне падкрэслена "лёгкага", (сама-) іранічнага стылю аповеда з відавочнай устаноўкай пісьменніцы на інтэртэкстуальнасць.

Апошняя мае складаную прыроду, патрабуючы ад чытача ўліку аўтарэмінісцэнцый, што дазваляе ўспрымаць усю прозу Ю. Каляды як адзін цэласны твор. Складваецца ўражанне, нібыта кожным новым апавяданнем пісьменніца дапісвае той ці іншы раздзел (часцей мідквэл) свайго маштабнага дзённіка-хронікі. Магчымасць далейшага працягу, своеасаблівы эфект "серыяльнасці", закладзены ў тэксты першапачаткова. Скажам, апошняе апавяданне "Слова не з майго лексікону", надрукаванае ў сакавіцкім нумары "Маладосці", з аднаго боку, працягвае нізку твораў пра калізіі кахання людзей розных нацый ("Затрымка рэйсу", "Жыццё Лёлі", "Жоўты аўтамабіль"), з другога — мае вытокі сюжэта ў трылогіі "Лета": "А сцэнар, дарэчы, створаны на "ўласным матэрыяле"! Я маю на ўвазе свайго хлопчыка з Парыжа, з якім у нас ужо цэлыя два месяцы доўжыцца палкі віртуальны раман. Праўда, мяне крыху бянтэжыць той момант, што мы адно аднаго ніводнага разу не бачылі (фоткі не лічацца)".

На першы погляд, канцэпцыя творчасці Ю. Каляды замыкаецца на мікрасвеце яе гераіні, на прыватным-паўсядзённым-бытавым, і насамрэч не прэтэндуе на раскрыццё глабальных анталагічных праблем. Шукаць "чорную котку ў цёмным пакоі" (жаданую філасафічнасць), між тым, варта. Даследуючы парадоксы і заканамернасці чалавечай псіхалогіі, пісьменніца праз звычайныя, немудрагелістыя сітуацыі распавядае пра складаныя рэчы: "новае страчанае пакаленне" і праблемы чалавечай камунікацыі, прычыны парушэння межаў асабістай прасторы і залежнасць ад бліжняга, адказнасць (амаль паводле Экзюперы) за тых, хто ў нас заказаны і інш.

Больш за тое, кожны твор Ю. Каляды мае сваю эмацыйна-сэнсавую дамінанту — псіхалагічны стан "паддоследнага" героя, што "прэпарыруецца" пісьменніцай. Гэта, да прыкладу, непаразуменне-адзінота ў апавяданні "Зялёны акіян, залатыя бурбалкі", чаканне — у трылогіі "Лета", здрада ва ўсіх яе іпастасях — у творы "Таварняк на абводнай каляіне", пачуццё настальгіі — у цыкле "Пакаленне 0". Цалкам адпаведная "псіхалагічнай прозе" і інтэлектуальная, супрацьпастаўленая шэраму натоўпу, эксцэнтрычная гераіня, якая, відавочна, належыць да лірычнага тыпу (не дзіўна, што апошнім часам аўтарка пачала сцвярджаць сябе ў галіне паэзіі).

Псіхалагізацыя агульнай карціны свету ажыццяўляецца таксама за кошт вобразаў і хранатапічных мадэляў, якія вандруюць з твора ў твор. Маецца на ўвазе прыхільнасць да адлюстравання урбаністычнай прасторы (дарэчы, заўсёды геаграфічна канкрэтызаванай), вобразаў гадзінніка, тэлефона, фігуры замкнёнага кола, броўнаўскага руху пры пастаянным выбудоўванні гераінямі планаў і стратэгій, абавязковай каляднай ёлкі, выпадковых сустрэч, "какетлівага дзявочага суіцыду" (выраз А. Хадановіча). Іншымі словамі, мастацкі свет Ю. Каляды характарызуецца пазнавальнасцю (не блытаць з паўтаральнасцю).

Улюбёным падыходам пісьменніцы да кампазіцыйнай арганізацыі матэрыялу, што асацыятыўна адсылае да творчасці аднаго з яе літаратурных настаўнікаў — Г. Гесэ, з'яўляецца метатэкст. Колькасць такіх сюжэтаў у сюжэце якраз і выклікае нараканні на паўтаральнасць і хісткасць падзейнай лініі твора. Аднак адмаўленне ад гэтага прыёму разам з пошукам празрыстага сюжэта не паспрыяла ўзмацненню навелістычнасці. Да прыкладу, у цыкле "Пакаленне 0" аповед набыў прыкметы журналістыкі, у казцы-меладраме-дэтэктыве "Таварняк на абводнай каляіне" залішняя прастата сюжэта кампенсавана толькі арыгінальнай формай яго разгортвання.

На мой погляд, навелістычнасць, нават у дачыненні да падачы самых нязначных фактаў, з самага пачатку была характэрна творчасці Ю. Каляды. Чаго варты толькі бой з жукамі ў трылогіі "Лета", якія апісаны настолькі займальна і з такім тонкім гумарам, што, займаючы дзве старонкі, цалкам авалодвае ўвагай чытача. Сакрэт нейкай асаблівай абаяльнасці і моцнай энергетыкі прозы Ю. Каляды просты. Magister Ludi.



## Вера МІХНО

* * *

Як прадвеснік
сустрэч і кахання,
Падымаючыся
ўсё вышэй,
Змоўшчык-месяц
на небе да рання
Мне ўсміхаўся
да самых вушэй!
Рабаціннем
вясновыя зоркі
Неба ўсыпалі,
быццам твар...

Я заснула амаль што на золку
Пад уражаннем хараства.

* * *

Лілова-шызым парасонам
Навісла хмара.
Бы вячор.
Віхор з маланкаю і громам
Нясецца,
што па пекле чорт!
Усё трашчыць,
бліпічыць,
трасецца,
Бы на патэльні
ў пекле тым!
І сэрца — як не разарвецца,
А на душы
і страх,
і ўздым!
Ды праз хвілін пяток —
не болей —
Зрабіўся светлым неба край.
Адолеў чорта Бог!
Адолеў!
Азон,
вясёлка,
сонца —
РАЙ!

* * *

Прашу і жадаю замнога.
Па модзе адзенне мяняю,
Працую з натхненнем, кахаю,
Ды прыйдзе імгненне — спазнаю,
Што больш непатрэбна нічога
З набыткаў і тлуму зямнога,
Бо ў вечнае не забяру іх.
Душу ад спакус атрасу я
І босай, у зрэбнай кашулі
Паўстану ў свой
час перад Богам.

* * *

Вочы не бачаць
і вушы не чуюць,
Скончылася мітусня,
Соннае цела ў пасцелі начуе.
Цемра, спакой, цішыня.
Твар прытуліўся
да мяккай падушкі...
Ды абляціць зямны шар,
Не спачывае ў сне,
спуджанай птушкай
Кідаецца душа!

* * *

Адценні жоўтага з барвовым —
Пануе смутак каляровы,
Прыбрала восень у абновы
Да трызны дрэвы і кусты,
А на траве, яшчэ зялёнай,
Палегла кругам лісце клёна,
Нібы ў дзяўчыны заручонай,
Разлукай з мілым засмучонай,
Скаціўся з ручанькі стамлёнай
На дол пярсцёнак залаты.

* * *

На адной ножцы скачучы, смяяцца.
Заплакаць, як раз
плюнуць усё роўна, —
Мне помніцца дзяцінства і юнацтва
Адной паэмай-казкаю чароўнай!

Ды сталасць прапісалася, як проза,
У марах-летуценнях, у надзеях:
Не веру больш
у цуд Дзеда Мароза
І кожная сляза —
цяпер падзея.

У старасці жанр
маецца таксама,
Дзе мудрасці і роспачы нямала.
Я бачу, што заўсёды
старасць — драма
Ды каб хаця трагедыяй
не стала!..



## Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### Уладзімір Дубоўка

Магутны, як дуб,
Уладзімір Дубоўка.
Маланкі рэпрэсій
Стралялі па ім.
Ды выстаяў ён,
Ахінуты любоўю, —
Шыпшынай ружовай
У краі сваім.

У нечым і сам
Быў падобны да Бога.
Нібыта завея,
Яго барада.
Як мала каму, —
Яму дадзена многа:
Багаты быў іскрай,
Што Бог яму даў.

Нязломны, як дуб,
Уладзімір Дубоўка.
Збяруцца не раз
Ў карагодзе гады.
А будуць спяваць
Яго слоўцы-салоўкі,
І парасткі пусцяць
Яго жалуды…

### Звон Райніса

Ля дома Райніса
стаіць вялікі звон,
Як помнік сэрцу
чуламу паэта.
У ім і шчасця ўскрык,
І жалю стогн,
У ім мальба
і запавет Сусвету.

Нібы Цар-звон,
у гэтым краі ён.
І праз стагоддзі,
што сюды імкнуцца,
Адклікнецца яму
нябёсаў звон
І сэрц людскіх
званочкі адгукнуцца...

### Як многа песень…

(З літоўскай песеннай лірыкі)

Як многа песень,
мая сястрыца,
З табою разам
я спець магу.
Як зоркі ў небе,
як снег, іскрыцца
Літвы багацце,
што берагу...

З табой ад сэрца
мы дзякуй скажам
Старой хаціне
ў кутку лясным.
Дзяцінства наша,
юнацтва наша
Прыходзяць часта
у нашы сны...

Руку падай мне,
мая сястрыца,
У вочы глянем адна другой.
Літва нас поіць
з адной крыніцы,
Вядзе дарогай нас дарагой...



## Сяргей РАБЧУН

* * *

Кахаць безнадзейна —
даўно ўжо не ў модзе.
І хто вінават,
што адстаў я ад моды.
Зайздрошчу да слёз
дзіваку Квазімодзе,
хоць больш, чым каго,
мне шкада Квазімоды.

І кім бы ні быў я,
паэтам ці бардам,
якіх бы ўспамінаў
ні песціў у сне, —
для іншых танцуе
мая Эсмеральда,
забыўшыся ў шчасці
сваім на мяне.

* * *

Падаць рукой да небакраю,
хоць паратунку там няма.
Дарэмна крокі паскараю —
услед за мной ідзе зіма.

Услед — пагібельная замець
і холад вечнай мерзлаты.
Мая знявечаная памяць
не знае, дзе вяснуеш ты.

Калоціць сэрца ліхаманка
(трывогі ў ім не ўтаймаваць),
пакуль пачварная шаманка
спрабуе лёс мне прадказаць.

І ўсё ж я ведаю наперад,
што б ведзьма мне
ні прадракла:
мяне чакае дзіўны бераг
і кліча вечнасці рака.

* * *

Не стаўце ставак на мяне.
Мой конь худы і нехлямяжы.
Ён крылаў больш
не расхіне,
ён іх нікому не пакажа.

Я без пары яго загнаў,
так і не скінуты ім вершнік.
Ён пада мноюне стагнаў,
а напаўняў пакутай вершы.

Няхай даруе верны друг —
не высыхала кроў на шпорах...
Замкнуўся наш
шалёны круг,
задыякальны круг у зорах.

Цяпер усё. Цяпер канец.
Я адпушчу каня на волю.
Стралу ў калчан
пакла Стралец
і не прычыніць болей болю.

* * *

Узняўся на крыло
чарговы дзень пражыты,
а ўсё, што быць магло,
ужо было нібыта.

Вяртаюся адтуль —
з былога — як з нябыту,
не знаючы дасюль,
калі і кім забыты.

Забіты кім, калі:
ў баі ці на дуэлі?

Ці, можа, жураўлі
заўчас мяне адпелі.



Фота Кацярыны Хадасевіч-Лісавой

# І прыйдзе лета…

## Апавяданне



Валянціна КАДЗЕТАВА

"Што было? Што будзе? Чым сэрца супакоіцца?" — паўтараю ўслых і мо ў дзесяты раз раскладаю карты, знарок пазычаныя ў суседкі Любы для вельмі пільнай сваёй патрэбы, якой з нядаўняга часу стала для мяне варажба.

Але варожка я, відаць, няўдалая, бо кожная новая спроба ўведаць, чым усё ж "сэрца супакоіцца", дае новы, вельмі і вельмі адметны ад папярэдняга вынік. Я злуюся, зграбаю са стала абыякавых да маіх сардэчных спраў каралёў — дам — валетаў і, кінуўшы іх у шуфлядку, раблю крок да кніжнай шафы. Не, чытаць сёння я не змагу. Нават вершы. Хіба што… Так, на вершы цяпер і паваражу. Як некалі, у студэнцкія гады. А што? Праўдзілася ж іншым разам! Да гэтай пары памятаю радок з вершаў Міцкевіча, які выпаў Наташы Сіўко перад экзаменам па дзіцячай літаратуры: "І слёзы стаяць на маім шляху". Мы тады яшчэ смяяліся пачалі: "Якія слёзы на экзамене ў Пятровіча, таго самага Пятровіча, які дазваляе колькі заўгодна разоў білет мяняць?! Ды ён ніколі ніводнага студэнта не заваліў!" І праўда – ніводнага. Наташа Сіўко была першая. І "слёзы сталі на яе шляху", пакуль не пераздала яна той злашчасны экзамен.

Што ж, успомню маладосць, балазе ніхто не ўбачыць мяне за такім легкадумным заняткам. Так, спачатку трэба выбраць кніжку вершаў. Потым у думках задаць пытанне, назваць нумар старонкі і радка. Пытанне мяне цяпер хвалюе адно-адзінае. Вельмі хвалюе. І хоць я амаль упэўненая, што ніякая варажба не дасць мне на яго адказу, усё ж дастаю з паліцы невялічкі зборнічак у блакітнай вокладцы. Праз хвіліну чытаю. Недарэчнасць нейкая: "Выйшла сонца — і сіні засароме́ўся золак". Трэба яшчэ раз паспрабаваць.

— Ты дома? — чуецца жаночы голас, і рыжавалосая галава прасоўваецца ў прачыненыя дзверы.

Цаны б не было маёй сяброўцы Таісе, калі б не яе бесцырымоннасць! Ну можна ж было пазваніць ці хаця б пастукаць, перш чым урывацца ў кватэру.

— Ведаеш, Алёна, каб я жыла ў якой-небудзь цывілізаванай краіне, то ў суд падала б на гэтых махляроў-рэкламшчыкаў! Ты толькі паслухай…

Няшчыра ўсміхаюся, спрабуючы схаваць сваю незадаволенасць сяброўчыным візітам, але ж хіба ад Таісы, якая ведае мяне з маленства, схаваешся?

— Ага, ясна! Усё думу сваю думаеш? Ой, глядзі, дзевачка! Табе даўно ўжо не семнаццаць і нават не трыццаць! Пара пазбыцца ілюзій! Вядома, адзінота не мёд. Але ж табе патрэбен мужчына сур'ёзны, надзейны, каб, як кажуць, і ў горы, і ў радасці. І каб хоць крыху грошай меў. А то — паэт нейкі! Рэгіянальная знакамітасць! Я, напрыклад, ягонае прозвішча ўпершыню чую. Не прыдумай з ім звязвацца! Ні ў якім разе!

Таіса доўга і падрабязна тлумачыць мне, "размазні даверлівай", чаму я не павінна "звязвацца", але з гарачай яе прамовы пра "спаднічнікаў", "п'янтосаў" і "жабракоў", якімі, на думку Таісы, з'яўляюцца "усе гэтыя паэты", у маю свядомасць прасочваюцца толькі асобныя словы, бо цяпер мне больш за ўсё хочацца, каб сяброўка як мага хутчэй сышла, пакінуўшы мяне сам-насам з кніжкай у блакітнай вокладцы.

Праходзіць цэлае стагоддзе, пакуль мая зычлівіца нарэшце знікае. Я бяру дзверы на ключ, кідаю позірк на запаветную кніжку і… стаўлю яе на паліцу. Хопіць. Што будзе, тое і будзе.

"Скажыце, а вы хоць колечкі думалі пра мяне?" — у вачах, залацiста-жоўтых, з россыпам драбнюткіх чорных крапінак вакол бяздоння зрэнак столькі ўтрапёнай надзеі (ці малення?), што грубаватае "прыблізна столькі, колькі пра сацыяльныя праблемы Зімбабве" замірае на маіх паўраскрытых вуснах.

Але ж дзівак ён, паэт Міхась Здановіч! З якой нагоды я павінна была пра яго думаць, калі нават не бачыла ніколі? Ну а лісты… Ён сказаў, што ўсе гэтыя пятнаццаць гадоў зберагае мае лісты. Навошта?

"Я шукаў вашы вершы. Ва ўсіх газетах і часопісах. І нідзе не знайшоў."

Дзіва што! Я даўно перастала іх пісаць. З таго самага моманту, як зразумела (дакладней, мне дапамаглі зразумець), што паэтэса з мяне… ну, прыблізна такая, як і варожка. Думаеце, лёгка было ў тым сабе прызнацца? Але перажыла, перахварэла. Зато адной графаманкаю меней стала. На радасць рэдактарам. І адной бібліятэкаркаю болей. Толькі вось на радасць ці на гора чытачам? Іншым разам не магу схаваць пагардлівую ўсмешку, калі бачу, якую літаратуру яны выбіраюць. Суцяшаю сябе толькі тым, што, як бы там ні было, але ж чытаюць пакуль. І на сустрэчы з пісьменнікамі прыходзяць. І з паэтам Міхасём Здановічам ахвотных сустрэцца набралася цэлая чытальная зала.

Пачуўшы ад нашай загадчыцы Ніны Васільеўны маё імя, ён устрапянуўся і нерашуча ступіў да мяне: "Вы? Няўжо гэта вы? А я… Вы мяне зусім не памятаеце?"

Я не адразу зразумела, што паэт Міхась Здановіч — гэта той самы наіўны хлапец з даўнягадаўняга мінулага — здаецца, нават з нейкага іншага майго жыцця, — які слаў мне рамантычна-ўзнёслыя лісты, а ў адным з іх прызнаўся ў каханні.

Першы ліст я атрымала ад яго, калі мне было дваццаць пяць, а яму — семнаццаць. Ён з такім захапленнем пісаў пра мае вершы, надрукаваныя ў раёнцы, што не адказаць яму было б проста няветліва. Напісала яму некалькі слоў падзякі. А ён мне — яшчэ адзін ліст. У гэты раз з песняю на мае вершы і з пытаннем, ці спадабалася мне мелодыя.

Самае смешнае было тое, што нотная грамата была для мяне, прабачце за таўталогію, кітайскай граматай. А паказаць ліст каму-небудзь дасведчанаму не хацелася: жыла я тады ў вёсцы, а што гэта азначае, думаю, тлумачыць не трэба. Але ж і адмоўчвацца было нельга.

У трэцім сваім лісце ён прызначыў мне спатканне. Толькі тут я спахапілася: юнак жа не ведае пра нашу з ім розніцу ва ўзросце і, галоўнае, пра тое, што я замужняя жанчына! Як жа я адразу не здагадалася паведаміць яму гэта! А павінна ж была прадбачыць, ува што можа выліцца ягонае паўдзіцячае захапленне!

Але неўзабаве высветлілася, што ён неаднойчы бачыў мяне ў райцэнтры і я падалася яму такой жа прыгожай, як і мае вершы, таму ён закахаўся ў мяне "з першага позірку і назаўжды". Толькі гэтага мне не хапала! Трэба было як найхутчэй спыніць сумніўнае для майго становішча ліставанне. Я далікатна папрасіла хлопца, каб ён больш не пісаў мне і, не дай Бог, не прыязджаў. Але гэта не дапамагло. Я перастала атрымліваць палымяныя прызнанні толькі тады, калі мы з мужам і сынам пераехалі ў вобласць. Але тое адбылося недзе праз паўгода, і ўсе паўгода даводзілася прымаць захады, каб ніводзін ліст майго нечаканага прыхільніка не трапіў у рукі мужу: вельмі ж раўнівы быў мой Андрэй. Хаця чаму "быў"? Ён і цяпер жывы-здаровы. Адно толькі што муж ён ужо не мой. Відаць, сама вінаватая. Гаварылі ж мне, што ў адпачынак трэба ўсёй сям'ёй ездзіць. А я толькі ўсміхалася: "А калі ж адпачываць адно ад аднаго?" Ці ж магла я ўявіць сабе, што мой "атэла" (раўнуе, значыць, любіць) здатны на такое?

"Дзякуй за сумесна пражытыя гады. Ты была добрай жонкаю, але я пакахаў іншую жанчыну. Прабач і бывай", – і букет руж мне ў рукі. Ды якіх руж! Духмяных (цяперашнія ружы чамусьці не пахнуць), з бліскучымі кропелькамі вады на ярка-чырвоных аксамітных пялёстках! Ніколі ён мне такіх кветак не дарыў. Ад жорсткай нечаканасці так разгубілася, што ўзяла букет. Потым, калі да памяці прыйшла ды ружы тыя ў сметніцу стала пхаць, рукі свае аб шыпы пакалола. Ад болю не спала потым да раніцы.

Нейкі час усё здавалася непаразуменнем, прыкрай, але папраўнай памылкай лёсу. Ну не магло ж на самай справе быць, каб усяго за два тыдні зусім чужая, і, відаць, легкадумная жанчына стала для МАЙГО Андрэя даражэйшай за родны дом, сям'ю і наша каханне! Аказалася, магло. Калі я цалкам усвядоміла гэта, мяне апанавала адчуванне ўласнай нікчэмнасці і адрынутасці.

А за акном плакала дробнымі шэрымі слязьмі непрыгожая позняя вясна, і здавалася, ніколі не будзе канца гэтай нуднай слоце і ніколі-ніколі больш не прыйдзе лета.

Але яно прыйшло, дарагое маё лецейка, улюбёная мая пара, мой цудадзейны сродак ад душэўнай немачы, маё выратаванне! Я апантана кінулася ў яго ласкавыя абдымкі. Цэлымі днямі блукала па лесе, слухала птушыны шчэбет, прыхіналася шчакою то да шурпатага, колеру чарнёнага срэбра бярозавага ствала, то да пахкага ствала сасны і шэптам прасіла збавення і ад болю, і ад крыўды, і ад ганебнай прагі помсты, што чорнай п'яўкаю прысмакталася да майго сэрца. Вы можаце верыць або не верыць, дрэвы чуюць і разумеюць нас, і гаючую іх сілу не параўнаць з сілаю самых дарагіх лекаў…

"Мне вельмі б хацелася з вамі бачыцца". — "Вы не зразумелі мяне. Я ніколі не пераставаў думаць пра вас. Мне сказалі, што вы з'ехалі ў Расію. А вы былі зусім побач. Вы не ўяўляеце, як я рады, што нарэшце знайшоў вас!"

Што я магла сказаць яму? Маўляў, я таксама рада. Але ж ніякай радасці не было. Толькі насцярожанасць і здзіўленне: няўжо такое яшчэ магчыма сёння? І яшчэ адно. Тады мне было дваццаць пяць, а цяпер… Які жах! Не хочацца верыць! Бабін век… Навошта яму я, нічым неадметная, затлумленая будзённасцю, зблажэлая і знявераная?

"А ён табе навошта? — гэта ўжо Таіса. — Што ты пра яго ведаеш? Можа, у яго сорак жонак перабыло!" — "Дзве. Ён гаварыў, што дзве". — "А ты збіраешся стаць трэцяй? Прабач, а пра ўзрост свой ты падумала? Пройдзе два-тры гады, ён знойдзе сабе якую-небудзь юную музу (ім жа нельга без музы!), назаве цябе старой дурніцай і сыдзе, а ты будзеш доўга залізваць свае раны і наракаць на няўдзячны лёс. Апамятайся! Ну хоць абяцай мне падумаць над маімі словамі!"

* * *

З брудна-шэрай воўны аблокаў каторы ўжо дзень тысячы тысяч нябачных рук цягнуць і цягнуць танюткае вільготнае прадзіва. І гэта, называецца, вясна. Май. Ненавіджу такі май: ён напамінае мне той, не вельмі даўні, з развітальнымі ружамі ад Андрэя. І тады мне зноў пачынае балець, здавалася б, адбалелае.

Я гляджу на гадзіннік. Праз сорак хвілін на нашай станцыі спыніцца цягнік. Ладны русявы мужчына ступіць на пацямнелую ад дажджу платформу і, не ўбачыўшы мяне сярод сустракаючых, дастане з кішэні мабільнік. А я, як і некалі, пятнаццаць гадоў таму, скажу, што спатканне наша адмяняецца, таму што… Але чаму? Мужа ў мяне няма. Каханка – таксама. Сын успамінае пра мяне толькі тады, калі ў яго ўзнікаюць матэрыяльныя праблемы. Дык чаму я павінна пазбаўляць сябе надзеі на лепшае? Гэта ўсё яна, вясна, падобная да восені! Але ж я ведаю, што яна абавязкова скончыцца, і зазяе сінечаю неба, і прыйдзе лета, абавязкова прыйдзе! Толькі трэба крышачку пачакаць.

Я хуценька апранаюся і выходжу на вуліцу.

Валянціна БАРАНАВА

# Перапрацаваў

## Фантастычны абразок

Стыў Фоксын адкінуўся ў фатэлі і адсунуўся ад камп'ютэра. Усё. Праца скончана. Раман, якім ён быў заняты апошнія паўгода, нарэшце напісаны. Рэдактару можна патэлефанаваць і заўтра. Патрывае трохі. І так дастаў са сваімі званкамі: калі, маўляў, нарэшце. Чытачы зачакаліся. Нічога, пачакаюць. А цяпер трэба адключыцца. І ніякіх будзільнікаў і хвалявання. Пацягнуўшыся і працёршы стомленыя вочы, Стыў перамясціўся на канапу. Зручна ўладкаваўшыся, ён ужо аддаўся чароўнаму струменю, які панёс яго ў краіну мрой, як раптам раздаўся нахабны званок у дзверы. На парозе стаяў яго непасрэдны начальнік.

— Што, кніжачкі папісваем? Ну-ну, — шэф узважыў рукапіс на далоні. — Люстраныя монстры, значыць. А мяне тут звычайныя монстры дасталі. Ты, напрыклад. Са сваёй асноўнай працай не спраўляешся. План гарыць. Узгадай, калі ты павінен здаць падрабязную мапу Цярэшкінскага раёна? Забыўся? Эх, Васіль, Васіль. Хаця прабач, ты ж у нас цяпер Стыў. Але гэта справы не мяняе. Так што няма чаго вылежвацца. Праз тры дні трэба катлаваны капаць, а мапа яшчэ не гатовая. Так што паднімайся.

Васіль Памідораў (вядомы ў літаратурных кругах як Стыў Фоксын) з неахвотай памкнуўся і выйшаў у ёдкую волкасць роднага горада. Было яшчэ цёмна. Усё ахутвала жоўтая смуга, зблізку празрыстая, яна паступова згушчалася, і верхнія паверхі дамоў губляліся ў ёй, як у воблаку. Азораны раптам новай ідэяй, Стыў дастаў нататнік і стаў хутка запісваць, пакуль памятае. Захапіўшыся, ён забыўся, навошта тут, і куды ідзе. Ад такога цікавага занятку яго раптам адцягнулі нечыя крыкі:

— Гэй, ты прыдурак! Ты што, заснуў? Ды азірніся ж нарэшце!

Васіль азірнуўся. Высока, над схаванымі ў смузе, дахамі, гарэлі ў небе двое велізарных жоўтых кацiных вачэй. А можа, і не кацiных. Гэтыя вочы належалі нейкай агромністай, ледзь бачнай праз смугу, галаве, на доўгай шыі. І гэтыя вочы глядзелі ва ўпор на яго, на Васіля, і паволі набліжаліся.

— І чаго гэта ён на мяне ўтаропіўся? — са здзіўленнем падумаў Стыў, адчуўшы смутную трывогу і стаў ціха падавацца назад, пакуль не ўпёрся спінай у халодную сцяну дома. Вочы набліжаліся. Прасоўваючыся ўздоўж сцяны і хапаючыся за яе рукамі, Васіль не мог адарваць зачараванага погляду ад гэтых вачэй, якія прыцягвалі і набліжаліся да яго. Нечакана адчуўшы пад рукамі пустэчу, хлопец здрыгануўся і нібы апамятаўся. Хутка павярнуўшы за кут, ён кінуўся, як заяц, бегчы і віхляць. Але было ўжо позна. Галава была зусім блізка. Яна не спяшалася, пэўна, ведала, што ахвяра нікуды не дзенецца. Васіль шмыгнуў у нейкую шчыліну ці дзіўную пячору з нізкім і шырокім скляпеннем. Тут сілы яго пакінулі. Ледзь давалокшыся да процілеглай сцяны гэтай пячоры, Васіль прыхінуўся да яе спінай. Бегчы больш не было сіл. Ён скамянеў. Галава наблізілася да ўваходу ў пячору — але не пралезла: шчыліна завузкая. Тады, моцна адкінуўшыся назад і трохі спляскаўшыся, галава вырашыла пратараніць уваход. Васіль глядзеў, не ў стане нават паварушыцца. Раптам шчыліна стала хутка-хутка памяншацца і знікла. І адразу раздаўся голас, велічна спакойны:

— Пакінь у супакоі маленькага чалавечка!

Агледзеўшыся, Васіль убачыў, што ён знаходзіцца пад ступнёй маманта. І мамант асцярожна стаіць, выгнуўшы ступню, каб не раздушыць яго. Знадворку некаторы час раздаваўся шум барацьбы, потым стала ціха: ворага прагналі.

Васіль не памятае, як ён апынуўся на спіне свайго збавіцеля, якраз ля самага вуха. Маленькі, як блыха, ён учапіўся ў поўсць. Млявасць і спакой паступова агарнулі яго, вочы пачалі заплюшчвацца. Аднекуль загучала ўрачыстая музыка. Спачатку гучна, а потым усё цішэй і цішэй. І ўсё разышлося з наступленнем раніцы і абуджэннем.

# Народнікі

## У гэтых тэатрах працуюць людзі асаблівага гарту

Кожны раз, калі еду на сваю Рагачоўшчыну, згадваю Аляксея Сількевіча, былога рэжысёра мясцовага народнага тэатра. Хударлявы, з прыгожым смуглявым тварам, разважлівы… Такім ён і застаўся ў маёй памяці. Ні жонка Марыя Сямёнаўна, ні самадзейныя артысты, ні многія рагачоўцы — а хто яго не ведаў у райгарадку, ды і ў самім раёне, скажыце? — не могуць і сёння змірыцца з думкай, што Сількевіч адышоў у іншы свет. Гэта страта. Не толькі для сям'і і сяброў — для культуры, для мастацтва.

Аляксей Сількевіч быў трэцім рэжысёрам народнага тэатра раённага Дома культуры. Званне народнага гэты тэатр (а створаны ён быў праз два гады пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны) атрымаў у 1962 г., калі калектыў узначальваў вядомы на той час рагачовец, заслужаны артыст Марыйскай АССР К. Катлінскі. У 1972 годзе ён перадаў тэатр маладому і апантанаму Аляксею Сількевічу.

У гэты тэатр я прыйшоў як драматург пасля прэм'ер сваіх п'ес у Магілёўскім ("Сівы бусел") і ў Гомельскім ("Вокны") абласных драматычных тэатрах. Аляксей Сількевіч выбраў для пастаноўкі камедыю "Лесвіца". Я, вядома, быў на прэм'еры, захапляўся дзеяннем на сцэне і майстэрствам самадзейных артыстаў Людмілы Салавай, Яўгена Шыца, Юрыя Хаткевіча, Ніны Сурначовай і іншых. Рагачоўскія тэатралы стварылі свята для жыхароў горада і для саміх сябе.

У рэпертуары рагачоўцаў за час існавання тэатра былі творы беларускіх літаратараў, іншых вядомых драматургаў: "Прымакі" Янкі Купалы, "З народам" і "Людзі і д'яблы" К. Крапівы, "Альпійская балада" паводле аповесці В. Быкава, "Выгнанне блудніцы" І. Шамякіна, "Трывога" А. Петрашкевіча, "Апошні ўзлёт" А. Дударава, "Вясёлыя, бедныя, багатыя" Г. Марчука, "Іван і мадонна" А. Кудраўцава, "Крык на хутары" У. Бутрамеева, "Барабаншчыца" А. Салынскага, "Валянцін і Валянціна" М. Рошчына ды інш.

Аляксей Сількевіч да апошняга дня вучыўся. У творчай дзейнасці няма межаў, і ён памятаў пра гэта. Кожны раз, калі Гомелю выпадала праводзіць "Славянскія тэатральныя сустрэчы", ён пасяляўся на гэты час — за свой кошт, вядома ж — у гасцініцы, наведваў спектаклі, удзельнічаў у іх абмеркаванні. Збіраўся нешта ставіць і сам… Не паспеў, на вялікі жаль.



Асабліва добрыя адносіны наладзіліся ў мяне з народным тэатрам "Калі б…" Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны (кіраўніком быў Генадзь Варонін). Пасля першага спектакля паводле маёй п'есы "Шкірдзюкі займаюць абарону" я пачаў запрашаць на прэм'еры сваіх сяброў, бо ведаў: мне перад імі сорамна не будзе. Сорамна не было і тады, калі народны тэатр увасобіў на сцэне мае п'есы "Нехта ходзіць за акном…", "Кветкі і тайнае каханне Макізара" і "Банкамат". Цікава, што дзве першыя п'есы, якія пабачылі святло рампы універсітэцкага тэатра, потым былі пастаўленыя на галоўнай сцэне Гомельшчыны — у абласным драматычным тэатры. "Нехта ходзіць за акном…" надоўга захавалася ў рэпертуары.

Студэнты-тэатралы пакідаюць альма-матэр (тут для кіраўніка ёсць пэўныя праблемы, склад часта мяняецца, аднак — і гэта прыемна — не шкодзіць творчай дзейнасці); былыя калібаўцы працуюць, як правіла, настаўнікамі ці праграмістамі, але мне прыемна іх бачыць на прэм'ерных спектаклях "свайго" тэатра. Сцэнічнае мастацтва яны палюбілі назаўсёды.

Дзе жывуць яны, народнікі, у якіх гонях? І на Гомельшчыне, і на Віцебшчыне, і на Міншчыне. У Ветцы працуе народны тэатр "Існіна" пры ГДК, кіруе ім Таццяна Курбатава. Яна паставіла маю п'есу "Курорт для зяця". Быў на прэм'еры. Пазнаёміўся бліжэй з акцёрамі Васілём Карнаухавым, Святланай Гаспадаровай, Аляксандрам Шынкарэнкам, Юляй Байназавай, Дзмітрыем Крыловым. Людзі самых розных прафесій. Тэатр стаў для іх не проста другім домам — стаў сям'ёй. У райцэнтры Глыбокае, ведаю, паставілі спектакль паводле маёй п'есы "Кветкі-ягадкі", у Лёзне — "Семкі з левай кішэні", у Любані — аднаактоўку "Дублёр".

Кажу ўсім народнікам: дзякуй! Ёсць вы — запатрабаваныя і мы, драматургі.

У нас на Гомельшчыне рэгулярна — раз на тры гады — праводзяцца фестывалі аматарскіх тэатраў, мэта якіх не толькі спрыяць павышэнню іх мастацкага ўзроўню і прапагандаваць лепшыя творы беларускай ды замежнай драматургіі, але і актывізаваць працу народных тэатраў. Як расказвала некалі мне вядучы метадыст па тэатральным мастацтве Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці Лілія Бычкова, такія мерапрыемствы вымагаюць шмат клопату, энергіі і пэўных фінансавых сродкаў, але пасля душа поўніцца радасцю: жыве ў вобласці тэатральнае мастацтва, дый не стаіць на месцы, рушыць у лепшы бок. На спектаклях народных тэатраў заўсёды ўдзячныя гледачы. Маёй суразмоўцы прыемна было адзначаць і досыць высокі ўзровень рэжысуры, і тое, што большасць народных тэатраў аддалі перавагу айчыннай драматургіі, і самааддансць акцёраў. Акцёры-аматары — надзіва абаяльныя, шчырыя і арганічныя людзі. Яны не толькі праваднікі ідэй аўтараў і рэжысёраў да гледачоў, але і ствараюць разам з імі дзівосную матэрыю — духоўнае жыццё.

Цяжка нават уявіць наша шматграннае жыццё без самадзейных тэатраў, большасць з якіх атрымалі заслужанае прызнанне і носяць высокае званне народных. Акцёры такіх калектываў — гэта людзі асаблівага гарту, яны самі з народа і народу служаць верай і праўдай. Мне неаднаразова пашчасціла быць з імі побач. Бачыць усмешкі на іх тварах. Чуць працяглыя воплескі ўдзячных гледачоў. І ці не тады, пасля адной з прэм'ер, падумалася: а чаму іх не ўшаноўваюць якім-небудзь званнем? Ёсць заслужаны артыст краіны, ёсць народны. А "заслужаны артыст народнага тэатра" ці "народны народнага" — такога няма… Усе яны проста — народнікі.

Васіль ТКАЧОЎ

На здымку: Васіль Ткачоў з акцёрамі народнага тэатра "Калі б…" ГДУ імя Ф. Скарыны перад прэм'ерай спектакля "Кветкі і тайнае каханне Макізара".

г. Гомель

# Помнік Чалавеку

Новы помнік з'явіўся ў цэнтры Мінска. Ля скрыжавання вуліц Леніна і Карла Маркса, у скверы, на гранітным пастаменце ўстаноўлены бронзавы бюст Анры Дзюнану (1828 — 1910), вялікаму гуманісту, грамадскаму дзеячу, заснавальніку міжнароднага руху Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, першаму лаўрэату Нобелеўскай прэміі міру.



Аўтар манумента — мінскі скульптар Алег Купрыянаў (кампазіцыя "Тры буслы" на купале фантана ў цэнтры плошчы Незалежнасці, "Бабка з семкамі" ля Камароўскага рынку — вось такія розныя ў яго работы). Ініцыятар стварэння помніка — Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа: гэта знак удзячнасці нашага грамадства выдатнаму Чалавеку, які прысвяціў жыццё самым пакутным, за яго найвышэйшую спагаднасць.

Вядома, што ў 1859 г. швейцарац Жан Анры Дзюнан перажыў узрушэнне, убачыўшы на полі бою крывавыя наступствы бітвы франка-сардынскіх ды аўстрыйскіх войскаў. Апублікаваўшы пра гэта кнігу-ўспамін, ён зрабіў спробу стварыць добраахвотнае дабрачыннае таварыства дапамогі параненым. Урэшце, дзякуючы намаганням А. Дзюнана, быў заснаваны Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа. У 1901 г. Анры Дзюнан, супольна з Фрэдэрыкам Пасі (заснавальнік Французскага таварыства міру — прататыпа ААН), стаў першым лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру.

Паколькі эмблема Чырвонага Крыжа мусіла вызначацца прастасцю выявы, добра бачнай на адлегласці, вядомай усім і аднолькавай для "сваіх" і ворагаў, Жэнеўская дыпламатычная канферэнцыя 1864 г. прыняла ў гэтай якасці чырвоны крыж на белым фоне (зваротнае размяшчэнне колераў сцяга Швейцарыі — роднай краіны А. Дзюнана). Падчас руска-турэцкай вайны 1876 — 1878 гг. Асманская імперыя абвясціла пра свой намер выкарыстоўваць у якасці ахоўнай эмблемы чырвоны паўмесяц, запэўніўшы, што будзе паважаць чырвоны крыж, якім карыстаўся варожы бок. Аднак, хаця ўжо доўгі час абедзве эмблемы суіснуюць і дзейнічаюць "на роўных", сядытады ім надаецца пэўнае культурнае, рэлігійнае ці палітычнае значэнне, што паслабляе іх ахоўную функцыю падчас узброеных канфліктаў. Таму была прапанавана трэцяя эмблема, прымальная для ўсіх, і ў 2005 г. дыпламатычная канферэнцыя прызнала, нароўні з чырвонымі крыжам і паўмесяцам, новую выяву: чырвоны крышталь.

8 мая адзначаўся дзень нараджэння А. Дзюнана. Напярэдадні і адбылося ўрачыстае, з удзелам замежных гасцей, адкрыццё помніка ў Мінску. Цяпер у гэтым скверы валанцёры будуць праводзіць урокі міру, дабрачыннасці, міласэрнасці… Дарэчы, у гонар вялікага гуманіста 8 мая адзначаецца як Міжнародны дзень Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.

Лана ІВАНОВА

На здымку: помнік Анры Дзюнану ў Мінску.

Фота Віктара Кавалёва

# Загадка з туманнага Альбіёна

Водгалас

## Сюжэт для гістарычнага дэтэктыву

Нядаўняя лімаўская публікацыя "Адкрылі... Англію!" (гл. нумар за 30 красавіка 2010 г.) прысвячалася новаму праекту Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, запачаткаванаму ў межах традыцыйнай, сёлета ўжо трэцяй па ліку, Міжнароднай выстаўкі графікі "Арт-лінія". Аднак з расповеда пра гэты новы праект — рэтрапраграму, што ўпершыню прадставіла гледачу сапраўдны скарб з фондаў НББ — некалькі дзесяткаў твораў слыннага англійскага мастака і архітэктара XIX стагоддзя Джозефа Нэша, вынікала істотнае пытанне: якім чынам у фонды нашай бібліятэкі трапіла калекцыя каштоўных эстампаў? У лаканічнай даведцы, падрыхтаванай арганізатарамі выстаўкі для яе наведвальнікаў, адпаведнай інфармацыі не было...




Паабяцаўшы чытачам высветліць загадкавую гісторыю з'яўлення ў Мінску мастацкага набытку, якому могуць пазайздросціць многія музеі, я наладзіла "тэлефонны пошук".

Адкуль жа ў нас падборка з некалькіх тэматычных серый тыражнай графікі Дж. Нэша? Такое, здаецца, простае пытанне сталася для спецыялістаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі неспадзеўкай. Правёўшы сваё "аператыўнае даследаванне", яны не змаглі даць канкрэтны адказ, бо для гэтага бракуе належных звестак. Як патлумачыла мне галоўны бібліёграф НББ Галіна Апановіч, у дакументах пазначана, што літаграфіі Джозефа Нэша паступілі ў бібліятэчныя фонды ў 1950-я гады. Дакладную крыніцу паступлення выявіць не ўдалося. Але з упэўненасцю можна сцвярджаць, што гэта не мог быць дарунак ад ранейшага ўладальніка: факт перадачы такой каштоўнасці абавязкова зафіксавалі б, тым болей, што ў СССР бібліятэкі саюзных рэспублік не мелі паўнамоцтваў на аналагічную самастойную дзейнасць, без удзелу Масквы. Спецыялісты мяркуюць, што калекцыя трапіла ў Мінск з абменнага дзяржаўнага фонду: у гэтай усесаюзнай установе, створанай адразу пасля заканчэння Вялікай Айчыннай, цэнтралізавана назапашваліся культурныя каштоўнасці, у тым ліку і трафейныя, з мэтай перадачы іх музеям ці бібліятэкам, фонды якіх асабліва пацярпелі падчас вайны.

Чыёй уласнасцю былі гэтыя літаграфіі, якімі шляхамі апынуліся ў "размеркавальным" фондзе і дзякуючы каму трапілі ў колішнюю беларускую "Ленінку" — вось дзе сапраўдная загадка! Уяўленне пачынае эмацыянальна маляваць гіпотэзы з дамешкам трагізму і рамантыкі: а раптам... А раптам гэта часцінка таго неабсяжнага збору, якім славіліся нашы няўтомныя асветнікі, рэфарматары, бібліяфілы, энцыклапедысты Храптовічы?! А раптам... Версій можа быць шмат. Фактаў, на жаль, — ніякіх. Кожны ўладальнік — ці то прыватны калекцыянер, ці то музей, архіў або бібліятэка — пэўным чынам пазначае сваю ўласнасць: экслібрысам, афіцыйнай пячаткай, шараговым штампам. Але пазнак-прывіненцый на графічных аркушах Дж. Нэша, сцвярджае Галіна Апановіч, няма: яны абсалютна чыстыя. Напэўна, распавесці гісторыю набыцця гэтых твораў маглі б колішнія супрацоўнікі, што афармлялі паступленне або рэгістравалі іх наяўнасць у фондах і ставілі штамп 1962 года. Аднак тых людзей ужо няма...

Прасачыць шлях з'яўлення англійскіх літаграфій у нашай бібліятэцы, на думку Галіны Міхайлаўны, амаль немагчыма яшчэ і таму, што яны паходзяць не з кантынентальнай Еўропы, а з Брытанскіх астравоў і, відавочна, не належаць да гітлераўскіх ваенных трафеяў...

След бібліятэчнага набытку губляецца ў туманным Альбіёне. Магчыма, тамтэйшыя нэшазнаўцы даўно ўжо апісалі лёс усіх літаграфічных серый Джозефа Нэша, прасачылі шляхі міграцыі нешматлікіх тыражных копій пасля іх выхаду з друкарні амаль дзвесце гадоў таму. Магчыма, і англійскія даследчыкі са свайго боку шукалі след некалькіх дзесяткаў маляўнічых аркушаў, страчаных дзесьці на абсягах кантынентальнай Еўропы... Магчыма, дастаткова толькі аднаго званка ў Лондан, тэлефоннай размовы спецыялістаў — і маё пытанне ўжо не застанецца без адказу?

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: літаграфія Джозефа Нэша (серыя "Старажытныя англійскія асабнякі") з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Фота Віктара Кавалёва

**18 мая — Міжнародны дзень музеяў. Колькасць краін, у якіх штогод адзначаюць гэтую дату, перасягнула паўтары сотні.**

З нагоды свайго прафесійнага свята музейшчыкі шырока расчыняюць дзверы экспазіцыйных залаў для бясплатнага наведвання. І, вядома, гэтая традыцыя, запачаткаваная крыху больш як тры дзесяцігоддзі таму, не толькі прыжылася ў Беларусі, але і набыла па-сапраўднаму творчае развіццё: Міжнароднаму дню музеяў апошнім часам папярэднічае фантастычна захапляльная ноч! "Ноў-хаў" належыць парыжанам, якія аднойчы, пры канцы мінулага стагоддзя, прапанавалі напярэдадні Міжнароднага дня музеяў наладзіць для наведвальнікаў Луўра ўсяночнае свята. З яго нарадзілася агульнаеўрапейская акцыя "Ноч музеяў". Ініцыятарам далучэння нашай краіны да гэтай акцыі стаў чатыры гады таму Нацыянальны мастацкі музей Беларусі на чале з яго дырэктарам Уладзімірам Пракапцовым. І цяпер ужо многія беларускія музеі рыхтуюць для сваіх наведвальнікаў ноч сюрпрызаў. Пятая Ноч музеяў прыпадае на заўтра, 15 мая. Жыхароў і гасцей Мінска чарада яе праектаў не проста інтрыгуе, а змушае рабіць нялёгкі выбар. Мяркуйце самі...

# Сюрпрызы пятай ночы

"Вечар у французскім стылі" ("La soirée dans le stile Franςais") ладзіць заўтра Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Яго супрацоўнікі — куратары акцыі кандыдат мастацтвазнаўства Ірына Скварцова ды арт-менеджэр Захар Дудзінскі — прапануюць наведвальнікам аж на пяць гадзін (з 19.00 да поўначы) аддацца ў палон бясклапотных і светлых мрояў пра Францыю і рамантычнае сэрца Еўропы — Парыж. Большасць з нас успрымае Францыю як эталон густу, стылю, моды; французскую культуру — як знак рафінаванасці; француженак — як самых грацыёзных жанчын, французаў — самых галантных кавалераў; французскую мову — як ідэальны спосаб любоўных прызнанняў. Кажуць, што на падсвядомым узроўні ўсе іншыя еўрапейцы імкнуцца наблізіцца да высокіх стандартаў французскага ідэала — як да недасяжнай мары. Між тым, на думку гаспадароў заўтрашняй "парыжскай" вечарыны ў цэнтры Мінска, французскі ідэал шматаблічны. У ім, нібыта шоўкавыя ніціны ў каштоўным габелене, пераплятаюцца модныя павевы пэўных эпох; стылі, характэрныя для культавага дойлідства і свецкіх пабудоў; готыка і ракако, імпрэсіянізм і дэкаданс... Французская культура, як ніякая іншая, дае ўзоры шматварыянтнасці шляхоў да ідэальнага; натхняе на творчасць, на пошук нефармальных вырашэнняў. Ці не таму людзі ўсіх краін так імкнуцца ў Францыю і мараць пра Парыж?

Вось і прыдумалі арганізатары "La soirée dans le stile Franςais" для сваіх заўтрашніх гасцей тэатралізавана-музычную імпрэзу "Парыж: сны наяве". Яна разгорнецца ў рэжыме нон-стоп і дазволіць усім, хто наведае вечарыну, павандраваць праз чараду стагоддзяў па зменлівай і захапляльнай прасторы французскай сталіцы. Рамантычная вандроўка абяцае не толькі ўяўныя прыпынкі ў асяроддзі караля Людовіка XIV, мадам дэ Пампадур, Напалеона Банапарта, братоў Люм'ер ці заўсёднікаў "Мулен Руж". Ноч музеяў-2010 напоўніцца і зусім рэальнымі падзеямі: у межах праекта адбудзецца адкрыццё выстаўкі жывапісных работ беларускай мастачкі Ілоны Касабукі (з серыі "Мая Францыя"), пройдзе прэзентацыя кнігі Уладзіміра Шчаснага "Мастакі Парыжскай школы з Беларусі", а Уладзімір Пракапцоў прадставіць сваю карціну "Віцебскія мары пра Парыж"...

А наведацца ў заўтрашні "французскі сон" можна будзе не толькі па квітках: для дам у капялюшыках ды пальчатках і спадароў у чорных цыліндрах ды з бутаньеркамі ўваход — бясплатны.

**У "Вадаварот часу"** трапяць госці Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Тут у межах міжнароднай акцыі "Ноч музеяў" разгорнецца пяцігадзінная праграма, распрацаваная на аснове адмысловых традыцый гэтага музея. Як і ў папярэднія гады, на працягу толькі адной гадзіны, з 19.00 да 20.00, будзе ўпершыню экспанавацца унікальны прадмет з яго фондаў. Які? Гэты сакрэт раскрыюць толькі заўтра ўвечары. А вось з таго, што пачнецца потым у самай вялікай зале, музейшчыкі сакрэту не робяць. Ім самім, напэўна, цікава, наколькі захапляльным атрымаецца касцюмаваны тэатралізаваны "Баль у гонар В. Ваньковіча" — трохгадзінная рэканструкцыя балю пачатку XIX стагоддзя. Святочны вадаварот часу не абміне і гасцей суседняй экспазіцыйнай залы — зацягне ў інтэрактыўную імпрэзу пад назваю "Ажыўлены музей". Толькі ўявіце: усе ахвочыя змогуць павучыцца танцам XV — XVI стагоддзяў, азнаёміцца з асновамі тагачаснага этыкету, а настаўнікамі будуць старажытныя рыцары! А яшчэ тут загучыць даўняя музыка ў выкананні гуртоў "Тутэйшая шляхта", "Харціца", "Эйрут"...

Іншая зала — іншы час: ва ўлонні экспазіцыі гарадской культуры XIX — пачатку XX стагоддзя можна будзе напаткаць тагачасных персанажаў і адчуць атмасферу губернскага Менска. Сучасны Мінск пакажа сваё стыльнае аблічча падчас прэзентацыі лепшых мадэляў з фестывалю "Млын моды 20-10" (між іншым, адбудзецца цырымонія перадачы двух касцюмаў ад Мадэльнага агенцтва Сашы Варламава ў музейны фонд).

Ужо з 19 гадзін ва ўнутраным дворыку музея ажыве тэатральная пляцоўка, дзе разгорнецца шоу на кожны густ: ад індыйскага ды ірландскага класічных танцаў да карнавальнай самбы і сальсы. І Гюнеш са сваёй сольнай праграмай тут выступіць, і гульні ды атракцыёны для гасцей плануюцца, і, вядома ж, танцы для ўсіх.

Разам з Беларускім саюзам мастакоў Нацыянальны гістарычны музей адкрые ў гэты вечар (а 18-й гадзіне) выстаўку жывапісных твораў, прысвечаных 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.

**На "Вяселлі non-stop"** можна пачуваць сябе жаданым госцем і апынуцца ў эпіцэнтры ўрачыстых падзей абсалютна... бясплатна! Умова? Дзяўчаты павінны прыйсці ў белых сукенках, мужчыны — упрыгожыць свой строй гальштукам-бабачкай. Літаратурны музей Максіма Багдановіча ладзіць заўтра такую вясельна-абрадавасвёлую акцыю ў межах міжнароднага прафесійнага свята музейшчыкаў. З 12.00 да 22.00, адпаведна раскладу, тут будуць ладзіцца забаўляльныя праграмы ды інтэрактыўныя заняткі для дзяцей, паказ батлеечных спектакляў, гульня-выправабаванне для старэйшых наведвальнікаў "У лабірынце кахання", паэтычна-музычная імпрэза "Гімн каханню". Ахвочых паглядзець нядаўна адкрытую тут мастацка-дакументальную выстаўку "Ажаніцца — не журыцца" будуць суправаджаць экскурсаводы і этнографы, якія раскажуць нямала цікавага і пазнавальнага пра вясельныя традыцыі беларусаў. Увечары — танцавальны спектакль "Кола фартуны, ці Легенда пра Барбару Радзівіл", пасля якога адбудуцца майстар-класы пад заваблівай назваю "Дзіўныя танцы кахання"... А завершыцца свята ў музеі частаваннем усіх гасцей традыцыйным караваем. Як на сапраўдным вяселлі!

*Што і казаць, Ноч музеяў у адным толькі Мінску зноў і зноў пераконвае, пацвярджае — наколькі ж яна жывая і захапляльная, справа музейная! Тры сталічныя праекты, пра якія тут гаварылася, — далёка не ўсё. А ў нашай краіне сёння толькі дзяржаўных музеяў — каля паўтары сотні... У размаітых экспазіцыях і фондавых зборах, як у люстэрку, — агромністы, неаднародны і стракаты, пласт жыцця. Пласт памяці. Гісторыі, культуры, побыту. Ідэй і навораў, густаў і звычак. Духоўных, эстэтычных эталонаў і модных павеваў, і знакавых з'яў пэўнай эпохі. У гэтым люстэрку... мы.*

Святлана БЕРАСЦЕНЬ



# Вандроўны творчы дух



Ізноў — пра Парыж? Ізноў. Ды як жа без яго, калі гаворка... пра Віцебск! Парыжскі дух, няўтомны вандроўнік, лунае ў прасторы тамтэйшага Музея Марка Шагала, сілкуе мастацкую аўру слыннага прыдзвінскага горада, сягае на сталічны абсяг... Выстаўка "Шагал і мастакі еўрапейскага авангарда" (з калекцыі акурат таго музея) гасцюе сёння ў Мінску.

Тое, што гэты вернісаж адбыўся напярэдадні Міжнароднага дня музеяў, — невыпадкова і сімвалічна. Адкрыццё выстаўкі літаграфій з вядомага віцебскага збору, якая размясцілася ў нашай галоўнай скарбніцы выяўленчага мастацтва, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў назваў працягам "культурнай лініі Францыі ў Рэспубліцы Беларусь". І дадаў, што ў адной з музейных залаў цяпер працуе унікальная экспазіцыя "Нармандыя ў жывапісе французскіх імпрэсіяністаў", а імпрэза, якая пройдзе 15 мая пад знакам міжнароднай акцыі "Ноч музеяў", будзе прасякнутая парыжскім духам і паспрые ўмацаванню добрых стасункаў Беларусі і Францыі ў галіне культуры.



"Шагал і мастакі еўрапейскага авангарда" — пятая па ліку выстаўка, падрыхтаваная віцебскім музеем для паказу ў НММ Беларусі. Дырэктар Музея Марка Шагала ў Віцебску Людміла Хмяльніцкая падкрэсліла, што гэтым разам графіка нашага вялікага земляка прадстаўлена ў адмысловым аспекце — побач з работамі яго сусветна вядомых калег, класікаў XX стагоддзя, мастакоў-сімвалаў пэўнай эпохі. Такі падыход паглыбляе візуальнае ўражанні ад выстаўкі. І паколькі ўзоры шагалаўскай графікі ўпісаныя ў пэўны кантэкст, узнікае свежы погляд на яго творчасць.

Трыццаць сем графічных аркушаў — а гэта, апроч шагалаўскіх, літаграфіі Жоржа Брака, Фернана Лежэ, Анры Мацiса, Хуана Міро, Пабла Пікасо ды іншых прадстаўнікоў арт-авангарда мінулага стагоддзя — складаюцца ў жывую сімфонію віртуозна выкананых меладый-ліній, дынамічных кампазіцыйных рытмаў, трапных колеравых акцэнтаў, уражваючы бязмежнасцю фантазіі, дасціпным вобразным мысленнем, пачуццём гумару іх таленавітых аўтараў.



Але найбольш каштоўнай часткай экспазіцыі стала унікальнае выданне ілюстрацый Марка Шагала да паэмы класіка сусветнай літаратуры Мікалая Гогаля "Мёртвыя душы" (пра прэзентацыю гэтай грунтоўнай работы падчас Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску-2009" мы паведамлялі). Арыгінальнае сувенірнае выданне, выпушчанае накладам 5 тысяч асобнікаў, выставачны экземпляр якога дэманструецца ў музейнай вітрыне, прадставілі падчас вернісажа Людміла Хмяльніцкая ды начальнік аддзела маркетынгу Мінскай друкарскай фабрыкі Гознака Ірына Табола — менавіта дзякуючы спонсарскай падтрымцы Гознака ўдалося спраўдзіць даўнюю задуму віцебскіх шагалазнаўцаў. Цяпер адмысловая сюіта з 96 афортаў ёсць не толькі ў расійскіх зборах — Траццякоўцы, Эрмітажы, Музеі выяўленчых мастацтваў у Маскве, а і ў Віцебску (на постсавецкай прасторы гэта чацвёрты камплект, і падаравала яго Музею Марка Шагала ўнучка мастака).

Значнае для беларускай культуры выданне атрымала высокую ацэнку Пасла Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэля Рынеры, якому Людміла Хмяльніцкая ўрачыста падаравала срэбны "фаліянт"-караб, пад вечкам-"вокладкай" якога — серыя дзівосных малюнкаў. Гогалеўскія "Мёртвыя душы" ў вобразным і трапным прачытанні Марка Шагала могуць набыць і наведвальнікі нашага Нацыянальнага мастацкага музея, у шапік якога, апроч некалькіх сувенірных кніг, паступілі таксама паштоўкі з рэпрадукцыямі афортаў.

С. Б.

На здымках: дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў, Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэль Рынеры і дырэктар Музея Марка Шагала ў Віцебску Людміла Хмяльніцкая падчас адкрыцця выстаўкі; Марк Шагал "З'ява ля цырка"; Фернан Лежэ "Адпачынак у вёсцы"; Хуан Міро "Сабака, які брэша на месяц".

Фота Віктара Кавалёва




## Слова краязнаўцы



Іван Яшкін са Слаўгарадчыны разважае пра важнасць захавання краязнаўчых запісаў і нататак

Спрадвеку ідзе запіс мясцовых звестак пра прыроду, спосабы прыгатавання ежы, лекаў, касметыкі, пра здарэнні, прыкметы. Гэтыя веды вельмі каштоўныя, яны могуць выкарыстоўвацца народам у розныя часы, служыць асновай для новых вынаходніцтваў. Значнымі і па-свойму унікальнымі, напрыклад, з'яўляюцца апісанні ладу жыцця беларусаў, зробленыя Рускім Геаграфічным Таварыствам, а таксама тыя, што даюцца ў кнізе А. С. Дамбавецкага па Магілёўскім край. Не страцілі сваёй каштоўнасці краязнаўчыя нататкі 30-х гадоў XX ст. А ці могуць яны ўвогуле страціць каштоўнасць?

Краязнаўчыя нататкі служаць асновай для адлюстравання менталітэту народа, яго гісторыі. У іншых нацый таксама ёсць запісы такога кшталту. Міклуха-Маклай занатоўваў апісанні мясцін, звычаяў народаў пры наведванні кантынентаў, чым значна дапамог вучоным. Такія звесткі могуць быць карыснымі пры правядзенні даследаванняў па земляробстве, тэхніцы. Больш за тое, краязнаўчыя запісы паказваюць "унутраную" гісторыю народа, з'явы, падзеі часоў засваення новага. Напрыклад, з іх дапамогай можна прасачыць працэс станаўлення традыцыі вырошчвання бульбы ў розных рэгіёнах Беларусі, заўважыць і адзначыць, як кожны раён набыў свае адметнасці ў гэтай справе.

Краязнаўчая інфармацыя можа спатрэбіцца не толькі навукоўцам, але і простым людзям, якія працуюць на лецішчах, спрабуюць вырошчваць новыя экзатычныя культуры.

Фота Кастуся Дробава

# Шлях да адкрыццяў

На факультэце гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы прайшла V канферэнцыя "Шлях у навуку" што традыцыйна ладзіцца кожныя пяць год. У гэтым годзе канферэнцыя была прысвечана 55-годдзю студэнцкага гісторыка-краязнаўчага навуковадаследчага гуртка "НіКа".

З новымі набыткамі ў галіне гістарыяграфіі, краязнаўства і рэлігіі, актуальных праблем гісторыі Беларусі ў Гродна прыехалі як пастаянныя ўдзельнікі канферэнцый такога кшталту — былыя выпускнікі гісторыка-краязнаўчага гуртка, — так і "новыя" аматары гістарычнай навукі. У гэтым годзе канферэнцыя атрымалася шырокай не толькі геаграфічна, але і міжканфесійна: у ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі Мінскай духоўнай Акадэміі і семінарыі, Гродзенскай Вышэйшай духоўнай рымска-каталіцкай семінарыі, грэка-каталіцкі святар Андрэй Крот.

У межах канферэнцыі прайшоў і "круглы стол", на якім удзельнікі змаглі падвесці вынікі дзейнасці краязнаўчых гурткоў, больш падрабязна даведацца пра асаблівасці арганізацыі працы самай старой студэнцкай суполкі ГрДУ, равесніцы гістарычнага факультэта — гуртка "НіКа".

Марына ВЕСЯЛУХА

Экспертная камісія па народнай творчасці і народных промыслах Рэспублікі Беларусь пастанавіла прысвоіць Уладзіміру Чыквіну званне "Народны майстар Рэспублікі Беларусь". І вось 11 красавіка ў Кобрынскім Палацы культуры адбылося ўрачыстае ўручэнне пасведчання народнага майстра таленавітаму кабрынчаніну.




# Белавежскія карані разьбяра

У кожнага мастака свой шлях у творчасць, свой погляд на свет, свая ўлюбёнасць у жыццё і наваколле, свой погляд на, здавалася б, звычайныя рэчы… Больш таго, "кожны творца — гэта маленькая дзяржава", як адзначыў разьбяр Уладзімір Чыквін. І для кожнага таленту ёсць свая крыніца натхнення — тое, што падштурхоўвае да працы, тое, што не дае жыць спакойна.

Дзяцінства Уладзіміра Чыквіна прайшло ў вёсцы на ўскрайку Белавежскай пушчы. Старажытны лес амаль нікога не пакідае абыякавым, пушчанскі водар надае моц не толькі фізічную, але і духоўную. Дзівосны свет адчыняе свае дзверы, калі ідзеш па лясной сцяжынцы. Гэта ўсё і ўразіла Валодзю — тады яшчэ маленькага хлопчыка, які разам з бацькамі пераехаў у вёску Дзмітравічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці ў 1962 годзе. Калі хадзіў у лес у грыбы або ягады, не мог прасці так прайсці паблізу якой-небудзь незвычайнай карчакі, таму што мудрагелістыя перапляценні каранёў альбо галінак ускалыхвалі юнацкую фантазію і малявалі ва ўяўленні нейкія вобразы. Вось і пачаў хлопчык хадзіць у лес са сцізорыкам.

З дзяцінства Уладзімір быў надта настойлівым і самакрытычным, прыдзірлівым да самога сябе. Як ён кажа, "усё жыццё вучыўся ў самога сябе і ў майстраў". Канечне, гэта мела свае вынікі.

Драўляныя скульптуры Чыквіна ўпрыгожваюць кобрынскі парк імя А. Суворава. Яго заслужана называюць майстрам драўлянага посуду. Ён удзельнік і дыпламант шматлікіх конкурсаў, выстаў, пленэраў, у тым ліку ў Польшчы і Швецыі. У 2008 годзе ў складзе дэлегацыі лепшых майстроў Беларусі пабываў у Венесуэле. Арганізатар першага ў Кобрыне народнага аматарскага аб'яднання дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва «Галерэя "Bona Sforza"». Член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення. І вось цяпер яшчэ і народны майстар Рэспублікі Беларусь.

Талент спалучаць народнасць, традыцыі і сучаснасць даступны не кожнаму, але для Уладзіміра Чыквіна гэта часткa жыцця. Ён піша і вершы. Але на першым плане, вядома, разьбярства. Яго работы знайшлі сваё месца ў многіх прыватных калекцыях. Тым больш, што ў апошні час разьбяр з'яўляецца вольным мастаком і працуе пад заказ. Да творчасці адносіцца досыць сур'ёзна і не ўяўляе без гэтага свайго існавання.




Не толькі Кобрын і Белавежская пушча, у прыватнасці вёска Дзмітравічы, могуць ганарыцца такім земляком, але і горад Камянец, таму што менавіта там працаваў пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута Уладзімір Чыквін. Тагачасны Дом піянераў памятае яго працавітыя, творчыя рукі.

У 1983 годзе Уладзіміра Мікалаевіча запрасілі на працу ў Кобрынскае мастацкае вучылішча, дзе ён мог перадаваць свае веды і ўменне навучэнцам, аддаючы ім яшчэ і кроплю сваёй душы.

Малодшая дачка Уладзіміра Чыквіна — Вольга — пайшла па слядах бацькі, яна таксама мастачка, удзельнічае ў пленэрах у Беларусі і ў Польшчы.

Павіншаваць Уладзіміра з прысваеннем высокага статусу прыйшлі калегі-творцы, былыя вучні, і проста тыя, хто не застаецца абыякавым да мастацтва, і, канечне, старшыня гарвыканкама Мікалай Кенда, які і ўручыў пасведчанне народнага майстра. Не абмінулі Чыквіна сваёй увагай і загадчыца аддзела культуры Кобрынскага райвыканкама Надзея Жук, і загадчыца аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларыса Быцко. Шмат слоў прызнання ў адрас свайго таленту і прац пачуў у гэты дзень Уладзімір Чыквін. Пра яго справу асабліва ёмка сказала Надзея Жук: "Першапачаткова гэта даецца звыш. Можна толькі ўдасканальваць, а навучыцца нельга".

А яшчэ Уладзімір Мікалаевіч атрымаў музычныя падарункі ад народнага ансамбля песні і музыкі "Зараніца", ансамбля народнай музыкі Залескага СДК, бардаў Вікторыі Лукашук і Наталлі Данілюк.

Святочная сустрэча закончылася. І ўжо пасля яе майстар падзяліўся планамі на будучыню:

— Восенню персанальная выстава ў Брэсце. А наогул, працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць.

Наталля КАНДРАШУК

На здымку: Уладімір Чыквін; адна з работ майстра.

Фота аўтара

# Купелаўка

Мясціна, што лягла ў назву нарыса, у цяперашні час, на жаль, страціла сваю першароднасць. У прыродзе, у грамадстве змены адбываюцца заўсёды, але ёсць такія, што супярэчаць самому жыццю: калі высыхаюць рэкі, мяльчэюць азёры, падае ўзровень вады, вільгаці ў нізінных месцах. Чорная сцяжка шашы Круглае — Слаўнае пралягае праз вёскі Міхейкава, Паўлавічы, Круча і г.д. А вось некалі, яшчэ да Другой сусветнай вайны, між Міхейкавым і Паўлавічамі на невысокім узвышшы, убаку ад дарогі і паблізу лесу жыла-была вёска Панаўка. Было ў ёй дванаццаць двароў. І саламяныя стрэхі, нават у паўзмроку вечара, свяцлелі на фоне ахутанага палоскай цемры лесу. Назву вёска займела такую, таму што стаяла на кавалку панскай зямлі. Мусіць, пан прадаў тую зямлю мужыкам. А продаж зямлі, як вядома, пачаўся пасля рэформы 1861 года.

Вёска мела да вайны два калодзежы. Зруб быў рублены з асіны, а не з елкі, каб вада не пахла смалой. Ваду вяскоўцы бралі не толькі з калодзежаў, але і з круглявага балотца, што мела назву Купелаўка. Звычайна ў балотцах вада цёмна-карычневая ці рудая, а гэтая мела іншы, зеленаваты колер. Нябачныя воку крыніцы хаваліся недзе, на самым дне Купелаўкі і падтрымлівалі належны ўзровень вады. Жанчыны насілі туды палатно, апускалі ў ваду... А потым, выцягнуўшы на бераг, доўга білі па ім драўлянымі "пранікамі", потым сушылі на сонцы, такім чынам, выбельвалі льняное палатно. Дзятва бегала да Купелаўкі ў гарачы дзень, каб адчуць на сабе ахалоджвальную стыхію вады.

Вёску ў час вайны фашысты спалілі, каб партызаны не мелі тут часовага сховы ці магчымасці ўзяць у лес прадукты харчавання. І тыя драўляныя калодзежы, над узвядзеннем якіх так многа папрацавалі вясковыя мужчыны, — фашысты ўзарвалі. Пасля вяртання з лесу, з партызанаў, потым з фронту, мужчыны-гаспадары ізноў паставілі дворышчы. Але іх было ўжо менш.

Апошнім з магіканаў тае вёскі быў Гаўрыла Клімаў. І па бацьку быў — Гаўрылавіч. Яшчэ на пачатку 1970-х можна было бачыць на фоне лесу адзінокі двор таго гаспадара. З дарогі былі бачны шчыльныя, ушарэлы штакетнік, канцы якога высіліся, як рогі аленяў. За ім — зялёныя купалы яблыневага саду, пачліныя домікі. Дворышча падавалася ўзорам самабытнага жыцця беларускага селяніна прыкладна XIX стагоддзя. У таго, хто бачыў упершыню Гаўрылаў двор, ёкала сэрца, бо па вёсках не было ўжо саламяных стрэх; хаты шалявалися, фарбаваліся, набывалі новае, прымаладжанае аблічча. Аднойчы, яшчэ падлеткам, мне давялося на лыжах праходзіць ля вёскі Панаўка, дакладней, ля адзінокай гаспадаркі Гаўрылы Гаўрылавіча. Да шашы з пустымі вёдрамі, па цаліку, тупаў стары — прыгорблены, у паддзёўцы, ватніках, ботах-гумавіках. Шапка-абла-вушка, як магла, укрывала голаў ад холаду. Карцела паглядзець на "апошняга з магікан" зблізку. Які ж ён? Але стары нават не азірнуўся. Мо не чуў ці не бачыў хлапчука-падлетка? Ён падышоў да балотца (да Купелаўкі), занесенага снегам, спрабаваў вядром расхінуць снег, начэрпаць вады, пэўна, для хатняй жывёлы. Зеленаватая вада ледзь-ледзь набегала ў вядро…

На пачатку 1970-х на дарогу лёг даволі высокі насып. Яго доўга трамбавалі, раўнялі спецыяльнымі і неспецыяльнымі трактарамі. Насып лёг праз прыгаданае балотца. І ад Купелаўкі засталася толькі нязначная частка.

Уладзімір ЦІШУРОЎ

Аўтар удзячны за расповед пра вёску Панаўка і Купелаўку Лідзіі Гаўрылаўне Клімавай, малодшай дачцы Гаўрылы Клімава.

## Культура слова

# Насамрэч

Рэч у тым, насамрэч — так і мільгаюць апошнім часам у друку гэтыя словы. Адкуль яны ўзяліся? Чаму раней я не сустракаў гэтых замен-нікаў рускіх выразаў дело в том, на самом деле? Ды таму, што дагэтуль мы карысталіся адкрытымі, надта ж відавочнымі калькамі — справа ў тым, на самай справе. Цяпер мы ўздумалі іх прыхаваць, гэтыя калькі, замяніўшы справа на рэч. Так што рэч у тым, насамрэч (на самай рэчы) — гэта ўсё тыя ж, толькі замаскаваныя калькі. Што праўда, то праўда — з беларускай рэчу яны ўсё ж, можа, лепш гучаць. Ды яшчэ намнога б было лепш, калі б мы прыслухаліся, як кажуць у адпаведных выпадках у народзе. Вось чытаю ў адным з нашых выданняў: "Пытанне пра тое цяжка лічыць вырашаным да канца. Справа ў тым, што праз дзесяцігоддзі многія падзеі нашчадкі ацэньваюць не так…" Замест справа ў тым па-беларуску сказалася б так: гэта тлумачыцца тым…, а ўсё таму… ці проста — таму, нават — бо. Пастаўце гэтыя словы ў прыведзеным сказе замест справа ў тым, і вы пераканаецеся, што ён загучыць лепш, па-беларуску. А замест на самай справе і насамрэч знайшліся б такія словы: яно і праўда, або карацей — і праўда, папраўдзе, сапраўды. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" падае і такія адпаведнікі выразу на самай справе — у сапраўднасці, фактычна. Яно і праўда, нашто нам зацыкліцаваца на кальках, відавочных і прыхаваных, калі ў нас ёсць свае словы?

Кастусь ЦВІРКА

# Апошні рукапіс палкоўніка Ціханава

Трымаю ў руках самаробную кнігу начальніка аператыўнага аддзялення штаба дывізіі, напісаную палкоўнікам у адстаўцы І. А. Ціханавым, на цвёрдай каленкоравай вокладцы якой, акрамя гэтых слоў, пабляклымі ад часу залатымі літарамі выцеснена: “Краткий боевой путь 269 стрелковой Рогачевской Краснознаменной ордена Кутузова II ст. дивизии г. Могилев, 1984 год”. Старонкі гэтага незвычайнага дакументальна-мастацкага твора, набранага на звычайнай друкарскай машынцы, запоўнены багатым, ілюстраваным фотаздымкамі ваеннага і пасляваеннага часу матэрыялам.

Знаходзіцца твор у музеі Ніканавіцкай сярэдняй школы, якую аўтар кнігі неаднаразова наведваў, калі яшчэ жыў на гэтым свеце, бо некалі ваяваў у тутэйшых мясцінах. Акрамя кнігі, на стэндзе музея месціцца здымкі самога палкоўніка Ціханава ў вайсковай форме са шматлікімі баявымі ўзнагародамі, а таксама разам са сваім саслужыўцам А. В. Асмалоўскім, які прайшоў свой баявы шлях у гэтай жа дывізіі, а пасля вайны загадваў упраўленнем адукацыі Магілёўскага аблвыканкама. Гэтыя экспанаты мне паказаў настаўнік гісторыі, энтузіяст музейнай справы М. Куляшоў.

З першых радкоў палкоўнік Ціханаў паведамляе, што ягоная дывізія была сфарміравана па дырэктыве Генеральнага Штаба № орг/2/524686 ад 8 ліпеня 1941 года ў горадзе Каломна Маскоўскай вобласці. Першым яе камандзірам стаў гісторык, выкладчык акадэміі М. Гарніч. Аўтар пералічвае ўсе вайсковыя падраздзяленні, якія ўваходзілі ў склад дывізіі, апісвае пачатак баявых дзеянняў у жніўні таго ж года ў раёне Бранска, у складзе 3-й Арміі Бранскага фронту. З ёю дывізія і прайшла свой баявы шлях да заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

Пасля прарыву акружэння дывізія ўдзельнічала ў наступальных баях пад Масквою, якія апісвае палкоўнік Ціханаў, а таксама ў актыўнай абароне ўлетку 1943 года, дзе бліскуча праявіў сябе начальнік палітаддзела дывізіі беларус П. Савеіч, які яшчэ ў грамадзянскую вайну атрымаў два ордэны Чырвонага Сцяга. Платон Васільевіч Савеіч, ураджэнец Маларыцкага раёна, яшчэ ў 1926 годзе быў рэктарам Беларускай сельгасакадэміі, а пасля вайны — міністрам адукацыі БССР.

Цікава апісвае ветэран дывізіі падзеі на Арлоўска-Мцэнскім плацдарме немцаў, прарыў іхняй абароны на рацэ Зуша і наступленне на горад Арол, успамінае вядомага савецкага пісьменніка Канстанціна Федзіна, які ў тыя дні знаходзіўся ў дывізіі, а свае ўражанні затым апісаў у кнізе “Бітва за Арол”.

Дарэчы, у баях за горад Арол вызначыўся старшы сяржант Мухітдзін Умурдзінаў, які на заходнім беразе ракі Зуша са сваім стралковым узводам браў вышыню 214,0 і ў рукапашным баі асабіста забіў некалькі фашыстаў, а ў чарговым баі ягоны ўзвод знішчыў 20 гітлераўцаў, а двух салдат і афіцэра ўзяў у палон.

Гаворка ідзе пра таго самага Умурдзінава, якому 4 чэрвеня 1944 года было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза і які потым вызначыўся ў баях за вызваленне нашай роднай Быхаўшчыны. Пасля вайны Мухітдзін са сваімі ўзбекскімі сябрамі многа разоў прыязджаў да нас святкаваць Перамогу, а дэлегацыя нашага раёна ездзіла ў сонечны Узбекістан.

25 верасня 1943 года дывізія пачала вызваленне Беларусі. За суткі баёў яна прайшла 28 кіламетраў, вызваліла 50 населеных пунктаў у Касцюковіцкім раёне. У мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі ёсць цэлая экспазіцыя, з якой бачны актыўныя баявыя дзеянні дывізіі па вызваленні Касцюкоўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Палкоўнік Ціханаў даволі падрабязна апісвае вызваленне Быхаўшчыны, якое ішло з Усходу, але пераказваць тагачасныя падзеі няма сэнсу, паколькі ягоныя ўспаміны змешчаны ў кнізе “Памяць. Быхаўскі раён”, якую на грамадскіх пачатках падрыхтавалі журналісты раённай газеты “Маяк Прыдняпроўя” на чале з тагачасным рэдактарам Г. Барысавым.

Прыцягвае ўвагу апісанне баёў падчас фарсіравання Дняпра, узяцця горада Рагачова і выхаду войскаў да ракі Друць, баёў за Ваўкавыск і падчас Беластоцкай аперацыі, узяцця горада-крэпасці Астралянка на польскай зямлі на пачатку верасня 1944 года і горада-крэпасці Рожанек, дзе вызначыўся сяржант-разведчык Андрэй Тартынскі, які стаў кавалерам ордэна Славы ўсіх трох ступеняў.



З 19 кастрычніка 1944 года па 14 студзеня 1945 года дывізія трымала абарону на Рожанецкім плацдарме, і ў гэты перыяд прыязджалі вядомыя паэты Павел Антакольскі і Аркадзь Куляшоў, якія чыталі вершы. За вячэрай ў камдзіва А. Кубасава Аркадзь Куляшоў чытаў вершы са зборніка “Сцяг брыгады”, а Павел Антакольскі — паэму “Мой сын”. Ягоны сын, дарэчы, быў забіты ў самым пачатку вайны. Таму паэт чытаў, а мужчынскія, бацькоўскія слёзы стрымаць не мог, ды і не хацеў. Пасля, піша палкоўнік Ціханаў, ён падарыў камандзіру дывізіі кніжачку са сваёю паэмаю фарматам 12х10 см з надпісам: “Генерал Кубасов, это я дарю тебе, большего у меня нет. Павел Антокольский”.

На адным дыханні чытаецца апісанне баявых дзеянняў дывізіі падчас Берлінскай аперацыі з выхадам да ракі Эльбы, доўгачаканага дня Перамогі, калі раніцаю 9 мая 1945 года па радыё прагучала паведамленне Савецкага інфармбюро аб безагаворачнай капітуляцыі фашысцкай Германіі. “З радасцю, са слязьмі на вачах салдаты, сяржанты, афіцэры абдымаліся, цалаваліся, віншуючы адзін аднаго з Вялікаю Перамогаю, — распавядае ўдзельнік тых падзей. — Успамінаю нашу ранішнюю сустрэчу з маім блізкім сябрам, начальнікам штаба артылерыі дывізіі падпалкоўнікам Сашам Багацкім. Бяжыць ён да мяне з распасцёртымі абдымкамі і ва ўвесь голас крычыць: “Перамога! Перамога! Мы — жывыя, мы дайшлі да Перамогі!” Абняліся, расцалаваліся, не саромеючыся мужчынскіх слёз. Так было ўсюды.

Раптоўна стыхійна ўсчалася страляніна, у паветра ўзвіліся рознакаляровыя ракеты. Гэта быў не сігнал уздыму ў атаку, а салют, святочны салют Перамогі. Увесь дзень усё гудзела, усё шумела, усё страляла. Забыць гэтага ніколі нельга”.

Аўтар рукапісу жадаў, каб апісаны ім слаўны шлях дывізіі дапоўнілі сваімі ўспамінамі аб перажытым у суровыя гады вайны тыя, з кім з баямі прайшоў 2000 кіламетраў, вызваліў 1000 населеных пунктаў, уключаючы 17 гарадоў, 12 чыгуначных станцый. Ён хацеў, каб на іхніх шматлікіх прыкладах мужнасці і гераізму выхоўвалася моладзь. Таму меркаваў потым увесь сабраны багаты матэрыял абагуліць, перадаць яго не толькі школьнаму музею ў Ніканавічах, а, па магчымасці, здаць у выдавецтва. Пра гэта ветэран казаў падчас сустрэчы заснавальніку музея, былому выкладчыку пачатковай ваеннай падрыхтоўкі П. С. Ігнацьеву, які даўно на пенсіі, але па-ранейшаму жыве ў Ніканавічах. На вялікі жаль, ажыццявіць задуманае не паспеў. Тая сустрэча аказалася апошняй.

Мікола ЛЕЎЧАНКА
г. Быхаў

На здымку: палкоўнік І. Ціханаў.

Пра маштабную вайсковую аперацыю “Баграціён” шырока вядома з дакументальнай і гістарычнай літаратуры, з кінафільмаў. А вось пра подзвігі працаўнікоў тылу, якія забяспечвалі поспех аперацыі, дастаўляючы да лініі фронту паліва, зброю, прадукты харчавання, мы ведаем мала.

# Жылі і працавалі па-франтавому

Мне пашэнціла пазнаёміцца з ветэранам вайны, працаўніком тылу Іпалітам Фёдаравічам Барташкіным, які з сотнямі іншых чыгуначнікаў у 1943 — 1944 гадах працаваў на станцыях Крычаў, Магілёў і Асіповічы. Яго аповеды надзвычай цікавыя, павучальныя. Яны пацвярджаюць вядомыя радкі Аляксандра Твардоўскага: “Из одного металла льют медаль за подвиг и за труд”.

Перад самай вайной Іпаліт Бартошкін скончыў шосты клас сярэдняй школы чыгуначнікаў у Магілёве. Бацькі яго працавалі на чыгунцы, і ў першыя дні ліпеня 1941 года ён разам з імі эвакуіраваўся на станцыю Урбах Саратаўскай вобласці. Там скончыў сёмы клас і адразу ж — шасцімесячныя курсы аглядчыка вагонаў і слесара па аўтатармазах. У няпоўныя 15 гадоў ён працаваў ужо на чыгунцы поруч з дарослымі. У кастрычніку 1943 года, як толькі быў вызвалены Крычаў, сям'я Бартошкіных вярнулася ў Беларусь. Іпаліт, якому толькі што пайшоў семнаццаты год, стаў аглядчыкам вагонаў на станцыі Крычаў, а з 3-га мая 1944 года яшчэ і вагонным майстрам. Кожны дзень, а часта і ноччу, Іпаліт суправаджаў цягнік з ваенным грузам да станцый Верамейкі або Пераможнік. Брыгада збірала разгружаныя вагоны за 2 — 3 гадзіны і прыблізна за такі ж час паспявала вярнуцца ў Крычаў. Часцей за ўсё іх чакаў чарговы састаў з ваенным грузам, і яны рабілі новы рэйс.

Сям'я Іпаліта жыла амаль на самай станцыі ў склепе, дамоў не было. Раз на некалькі дзён Іпаліту выпадала зайсці “дамоў” памыцца, паабедаць, а то і паспаць дзве — тры гадзіны, пакуль за ім прыйдзе нарадчыца. Атрымаўшы маршрутны ліст, Іпаліт адразу ж браў ліхтар, інструмент, сігнальныя сцяжкі, ішоў за дадатковай пайкай харчу па талоне, а потым да дзяжурнага па станцыі, каб даведацца, дзе стаіць цягнік і куды ён пойдзе. І так кожны дзень, дакладней, кожныя суткі: прыходзілася і днём, і ноччу прымаць састаў і ехаць на цягніку да прызначанай станцыі.

Са станцыі Цёмны Лес у Крычаў часта прыходзілі прабітыя асколкамі вагоны. Давялося Іпаліту на свае вочы бачыць, як такое здараецца. Станцыя Цёмны Лес, дзе акапаліся немцы, знаходзілася ўсяго за пятнаццаць кіламетраў ад Дрыбіна і была ў ворага як на далоні. Першы свой прыезд на гэтую станцыю Іпаліт запомніў на ўсё жыццё:

— Даехалі мы з грузам да Цёмнага Лесу спакойна. Цягнік спыніў ход, і я пайшоў рабіць агляд вагонаў. Раптам з боку Дрыбіна пачуліся хлапкі гармат. Некалькі снарадаў узарвалася пасярод штабеляў грузаў. Але боепрыпасаў на шчасце сярод іх не аказалася. Урэшце паступіла каманда неадкладна адвесці наш састаў у лагчыну, якая знаходзілася непадалёк у кірунку Оршы. У гэтай лагчыне цягнік ужо не будзе бачны назіральнікам праціўніка з боку Дрыбіна. Але наш паравоз не мог крануцца з месца, бо машыніст, калі мы прыехалі на станцыю, адключыў тармазную магістраль. Так патрабавала інструкцыя. А пры адключэнні магістралі спрацоўваюць тармазы. Таму вагоны стаялі, як укапаныя. Я пабег уздоўж састава і па чарзе ў кожным вагоне за павадкі стаў адпускаць тармазы. Паціху, паступова састаў пачаў набіраць ход. І ў гэты момант пачуўся чарговы залп гармат. Недалёт. Праз некалькі секунд — другі і трэці прыцэльныя залпы. Некалькі снарадаў узарвалася якраз на тым месцы, дзе да гэтага стаяў наш цягнік. Сэрца міжволі сцялася, пахаладзела ў грудзях — гэта ж была мая і маіх калег-чыгуначнікаў смерць. А які груз мы прывезлі, ніхто з нас не ведаў — ваенная тайна, — распавёў Іпаліт Фёдаравіч.

За некалькі дзён да пачатку аперацыі “Баграціён” крычаўскія чыгуначнікі прымалі ўдзел у эвакуацыі мірнага насельніцтва з паласы намечаных ваенных дзеянняў.

Усе чыгуначнікі, у тым ліку і І. Ф. Бартошкін, лічыліся мабілізаванымі. Яны жылі і працавалі па-франтавому: працавалі днём і ноччу, зімой і летам, без спецадзення, без выхадных і без адпачынку. Працоўны дзень быў неабмежаваны, ён доўжыўся столькі гадзін, колькі было патрэбна для выканання чарговай задачы.

Віктар АРЦЕМ'ЕЎ

# Лёс асаблівай рызыкі

Палкоўнік Аляксей Мікалаевіч Тутушкін заслужыў, каб пра яго напісалі, згадалі ў дні святкавання Вялікай Перамогі. Каб ведалі, памяталі і бралі прыклад з годна пройдзенага чалавечага шляху.

Сям'я Тутушкіных пераехала ў Маладзечна з далёкага Урала. Адной з важкіх прычын была і такая: дачка Алена працавала метэаролагам у нашым Беларускім гідраметэацэнтры. Яе рэпартажы аб надвор'і ў Беларусі даволі часта гучаць і сёння, асабліва на беларускім радыё. Аляксей Мікалаевіч па складзе свайго характару быў мастаком, аб чым сведчаць шматлікія малюнкі і партрэты, якія старанна захоўвае яго ўдава, былая настаўніца фізікі, — Еўдакія Сямёнаўна. Кім толькі не давялося папрацаваць Аляксею ў дзяцінстве і юнацтве — пасля заўчаснай смерці бацькі ён застаўся кармільцам у сям'і. А мара была — стаць лётчыкам. Але ў вайны свая навука. І радавы Тутушкін яе старанна засвоіў: “вывучыў” кулямёт, азбуку Морзе… І менавіта гэта дало яму поўнае права стаць стралком-радыстам самалётаў ЛАГГ-3 і Ла-5. На пачатку вайны на самалёты пачалі ўсталёўваць радыёстанцыі, і яго зноў пасылаюць на вучобу. Пасля — цяжкая салдацкая праца ўжо ў новай якасці: радыёмеханіка. З 21-м знішчальным авіяпалкам ён прайшоў усю Вялікую Айчынную вайну. А пасля Перамогі А. М. Тутушкін “зноў выцягвае шчаслівы білет свайго лёсу” — яго, нават без поўнай сярэдняй адукацыі, накіроўваюць на вучобу ў Ваенна-інжынерную акадэмію ВПС (Ваенна-паветраныя сілы) імя Мажайскага. Праўда, ніколі не думаў малады інжынер, што будзе займацца зусім іншай, яшчэ нікому не знаёмай справай “дзяржаўнага маштабу”.

Ішоў далёкі 1953 год. У войсках была прынята новая абарончая дактрына: “Конніца і ракеты — вырашаць усе праблемы”. І навошта тады авіяцыя? Высокія палітыкі і дзяржаўныя дзеячы былі ўпэўнены: “Новая зброя дапаможа ў любых складаных сітуацыях!” Бо ўжо пачалося стварэнне ў СССР першай атамнай бомбы. У адно з падраздзяленняў, дзе пачалі займацца гэтай справай, і быў прызначаны 38-гадовы маёр А. М. Тутушкін. Даўшы падпіску аб ахове самай вялікай тайны дзяржавы, ён пачаў зусім новае жыццё. Ніколі не забудуцца баракі для сем'яў, адсутнасць элементарных побытавых умоў… Але жылі вельмі дружна і весела, бо кожны разумеў: першым заўсёды цяжка. А яшчэ — усе былі маладымі. Па працы ён часта сустракаўся з многімі славутасцямі. Так, у далёкія камандзіроўкі на выпрабавальныя палігоны яго адпраўляў сам Ігар Курчатаў, было шмат сустрэч з Андрэем Сахаравым, Юрыем Харытонам, Слаўскім, Шчолкіным і многімі іншымі. У такіх войсках, цяпер іх называюць падраздзяленнямі асаблівай рызыкі, Аляксей Мікалаевіч адслужыў 39 год, атрымаў званне палкоўніка, але і апраменьванне, што, безумоўна, паўплывала на здароўе. Працавалі ў тыя гады па прынцыпе: свячэння няма, значыць усё нармальна! І ніякага ўліку апраменьвання не вялося, ніхто не задумваўся і не ведаў пра нейкую небяспеку. Як ствараўся ядзерны шчыт Радзімы, палкоўнік запасу А. М. Тутушкін апісвае ў сваёй кнізе “Встреча с дьяволом цивилизации”.

Прайшло ўжо 10 год, як сэрца франтавіка не вытрымала і дало збой. Еўдакія Сямёнаўна засталася адна. Сын — на Урале. Толькі дачка ў суседнім Мінску, якая пасля дзяжурства на гідраметэацэнтры часта наведвае старую маці. А яшчэ сябры, што засталіся на Урале: у далёкіх Азёрным, Снежынску і Трохгорным (у былых гарадах з грыфам “сакрэтна” Чалябінск-65, Чалябінск-70 і Златауст-36).

Мечыслаў СТАНКЕВІЧ

# Паэтычныя «пазыкі»

## Асаблівасці перакладу ўсходніх вершаваных формаў на беларускую мову

Аматары лімаўскага "Крытычнага практыкуму", якія знаёміць чытачоў з маладымі даследчыкамі літаратуры, маглі заўважыць, што "геаграфія" праекта хоць і павольна, але ўсё ж пашыраецца. Маем на ўвазе не толькі "рэгіянальную" разнастайнасць доследаў, з якімі выступалі на старонках "ЛіМа" вучні, студэнты і аспіранты з Мінска, Гомеля, Віцебска, але і далучэнне да крытычнай практыкі прадстаўнікоў розных ВНУ.

Гэтым разам рэй будзе весці Ганна Барадзіна — студэнтка V курса, якая вучыцца на факультэце беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Малады даследчык сучаснай беларускай літаратуры, у прыватнасці найноўшай паэзіі, Ганна цікавіцца перакладамі і мадыфікацыямі цвёрдых вершаваных форм у нацыянальным слоўным мастацтве другой паловы XX стагоддзя (навуковы кіраўнік — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДПУ імя Максіма Танка Ірына Гоўзіч).

Ганна — чалавек разматых талентаў: яна паспяхова сумяшчае выдатную вучобу, мастацкую творчасць (вершы друкаваліся ў рэспубліканскай літаратурна-мастацкай перыёдыцы) і ўдзел ва універсітэцкай камандзе КВЗ. Спадзяёмся, што падобную энергічнасць сённяшні дэбютант у хуткім часе выявіць і ў дачыненні да бягучай літаратурнай крытыкі, бо імпэтнасці ёй апошнім часам відавочна бракуе.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

Літаратура любой краіны свету арганічна звязана з іншымі літаратурамі праз шматлікія творчыя кантакты і ўзаемасувязі, у тым ліку і праз мастацкі пераклад, дзякуючы якому адбываецца засваенне і трансфармацыя на нацыянальнай глебе лепшых узораў сусветнага слоўнага мастацтва. Беларуская традыцыя мастацкага перакладу, як вядома, была запачаткавана Максімам Багдановічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам і паспяхова працягнута М. Танкам, П. Панчанкам, Н. Гілевічам, Г. Бураўкіным, Р. Барадуліным, Я. Семяжонам, В. Сёмухам, А. Разанавым ды іншымі таленавітымі пісьменнікамі.

Аднак у большасці выпадкаў перакладчыцкі "інтарэс" пісьменнікаў быў скіраваны да літаратур блізкага замежжа і асобных еўрапейскіх краін (у прыватнасці, французскай, англійскай, італьянскай і г.д.). Таму раней па-за ўвагай творцаў заставаліся ўзоры ўсходняй паэзіі — цвёрдыя вершаваныя формы рубаі, газелі, танка, хоку і інш. Аднак папулярныя з прычыны сваёй сэнсавай ёмістасці, афарыстычнасці і лаканічнасці персідскія рубаі, японскія хоку і танка ўсё больш цікавяць беларускіх мастакоў слова. Чым жа адметныя іх пераклады, чым цікавыя для чытача і адрозныя ад перакладаў на рускую мову?

Для пачатку звернемся да азначэнняў саміх жанраў. Паводле "Паэтычнага слоўніка" В. Рагойшы, "рубаі — чатырохрадковік у паэзіі народаў Блізкага і Сярэдняга Усходу з рыфмоўкай ааба (радзей — аааа). Нярэдка сустракаецца з рэдыфам (словам або словазлучэннем, якое ў нязменным выглядзе паўтараецца ў вершаваных радках услед за канцавымі рыфмамі)". Рубаі знайшлі сваё ўвасабленне ў творчасці А. Хаяма, Рудакі і інш. Танка, паводле таго ж слоўніка, "манастрафічны пяцірадковы нерыфмаваны верш, у першым і трэцім вершарадах якога па пяць складоў, у астатніх — па сем", які выкарыстоўваецца для перадачы глыбокага філасофскага зместу. Блізкая да танка хоку (хайку) — таксама "манастрафічны нерыфмаваны трохрадковы верш, які структурна вылучыўся з танка і з'яўляецца яе скарочанай формай. У першым і трэцім вершарадах хоку — пяць, у другім — сем складоў".

Колькасць перакладаў усходніх вершаваных мініяцюр на беларускую мову даволі невялікая, што выклікана вялікімі адрозненнямі моўнага, філасофскага, уласна паэтычнага кшталту, а таксама складанасцю і экзатычнасцю ўсходніх моў для беларускіх паэтаў-перакладчыкаў. Першым перакладчыкам рубаі А. Хаяма на беларускую мову быў паэт-эмігрант У. Клішэвіч. У асноўным жа такія пераклады належаць Р. Барадуліну, які "перасаджваў" на беларускую глебу рубаі Хаяма, захоўваючы традыцыйную форму чатырохрадковіка з рыфмоўкай ааба:

Сябры, як разам
нас збярэцца многа,
Давайце цешыцца красой
адзін з другога,
Мяне, як магаў,
абнясуць вінам,
Згадайце добрым словам:
быў нябога.

Акрамя формы, Р. Барадулін даволі блізка перадае іранічны, насмешлівы настрой Хаямавых мініяцюр з элементамі бунтоўнасці і сацыяльнай сатыры:

Разбіў мой збан з вінам
без дай нагоды, о Божа!
Ты зачыніў мне браму
асалоды, о Божа!
Віно пунсовае
ты выліў на зямлю,
Праклён мне, ці не п'яны
ты заўсёды, Божа!

Калі ж параўнаць барадулінскія пераклады з перакладамі на рускую мову, то можна ў пэўнай



ступені пагадзіцца з асобнымі крытыкамі, якія з сумам зазначаюць арыентацыю беларускіх творцаў хутчэй на рускія пераклады, чым на даслоўны падрадковы пераклад. Для параўнання прывядзём тое ж рубаі ў перакладзе В. Мірукова:

Ты мой кувшин
с вином разбил, Господь!
Мне радости врата
закрыл, Господь!
Ты алое вино
пролил на землю.
Типун мне на язык,
иль пьян ты был, Господь!

Адразу ж заўважаецца, што пераклад Р. Барадуліна ўспрымаецца як удалая, нават узорная ў мастацкіх адносінах трансфармацыя перакладу В. Мірукова.

Перакладаў танка і хоку на беларускую мову значна больш, чым перакладаў рубаі і газеляў. Так, Р. Барадулін перакладае творы японскай, кітайскай, в'етнамскай, карэйскай паэзіі. Але мы не можам назваць іх сапраўднымі "перакладамі" (ён і сам называе іх "пазыкамі" — усходніх формаў і ідэй на глебу беларускай паэзіі), бо яны, па-першае, рабіліся ім з падрадковага перакладу. Па-другое, Р. Барадулін у сваіх "пазыках" больш вольна ставіцца як да формы, робячы, да прыкладу, хоку вершаванымі ("Летам гусцее трава, як чуткі. // Адно ў адналіста // Ліст адзін-адзінюткі" (Басё), так і да зместу: крытыкі зазначаюць, што барадулінскія пераклады часта атрымліваюцца занадта "абеларушанымі" з-за таго, што ён уводзіць мясцовыя рэаліі, знаёмыя беларускаму чытачу вобразы:

Забудзем сум,
вітаючы развагу, —
Сто чарак не спатоляць
нашу смагу.
А ноч бяседай поўная, як вока,
Пры гэткай поўні
ходзіць сон далёка,
Пакуль не здасца нам
з апошняй кропляй
Зямля — пасцеляй,
неба — коўдрай цёплай.
Лі Бо

Падчас параўнання барадулінскіх перакладаў хоку Басё з перакладамі В. Маркавай на рускую мову зноў заўважаем відавочнае падабенства:

Поўняю ноч
налюбуецца ўсмак…
Чутна, як у глыбіні каштана
Ядзерца точыць чарвяк.

Тихая лунная ночь…

Слышно, как в глубине
каштана
Ядрышко гложет червяк.

Перапёлка крычыць далёка.
Відаць, вечарэе,

Змяркаецца ў ястраба вока.

Кричат перепела.
Должно быть, вечереет.

Глаз ястреба померк.

Вядомыя таксама пераклады хоку Басё, зробленыя А. Разанавым. У перакладзеных ім мініяцюрах, як і ў Р. Барадуліна, не захоўваецца традыцыйная складовая формула 5-7-5. Разанаў нават тут выступае супраць кананізацыі метрыкі і тлумачыць сваю нелюбоў да складалічэння тым, што паэзія — "не бухгалтэрыя, і не матэматыка... Паэзія павінна ісці ад касмічнага логасу, а не ад лагарыфму". Але, у адрозненне



ад барадулінскіх, хоку Разанава нерыфмаваныя і, такім чынам, больш набліжаныя да арыгінала:

О, як я зайздрошчу ёй:
у гарах
сакура закрасавала.
Ірысы. Прысесці ля іх
і пагутарыць — хіба гэта
таксама не падарожжа?

А. Разанаў таксама ўводзіць шмат беларускіх рэалій у перастворaныя мініяцюры, дзякуючы чаму ягоныя хоку становяцца ў пэўным сэнсе бліжэйшымі да беларускага чытача (нават у параўнанні з рускімі перакладамі В. Маркавай):

Цёхкаюць салаўі!
Тут — перад гэтым гаем,
там — за тою вярбінай.

Всюду поют соловьи.
Там — за бамбуковой рощей,
Тут — перед ивой речной.

Вельмі часта хоку ў перакладзе А. Разанава пачынаюць нагадваць ягоныя ўласныя пункціры або квантэмы. Параўнаем пераклад хоку Басё:

Спадае вада: вярба
гладзіць нахіленым веццем
ціну.
І ўласна разанаўскі пункцір:
Вісіць і не падае
у паветры зялёны дождж:
ніцыя вербы зазелянелі.

Калі ж параўноўваць пераклады Разанава з рускімі, то тут мы знойдзем адноснае падабенства:

Вясна адыходзіць:
птушкі смуткуюць, у рыбін
вочы-слязіны.

Весна уходит.
Плачут птицы.
Глаза у рыб
Полны слезами.

Аднак адшукаецца і шмат адметнага, што вынікае са своеасаблівага разанаўскага ўспрымання навакольнага свету:

Зрабілі душою сваёй салаўя
і спяць?
Ніцыя вербы.

Ива склонилась и спит.
И кажется мне,
И соловей на ветке —
это ее душа.

Такім чынам мастацкая вартасць перакладаў усходніх мініяцюр на беларускую мову даволі спрэчная. У дадзеным выпадку хутчэй варта гаварыць пра творчую перапрацоўку ўсходніх канонаў або своеасаблівую стылізацыю "пад Усход", "арыенталізацыю", "трансплантацыю". Гэта тлумачыцца як адрознасцю саміх усходніх моў ад славянскіх, так і недасканалым веданнем мовы арыгінала або неваладанне ёю перакладчыкамі (практычна ўсе вядомыя нам пераклады былі зроблены з падрадковікаў), арыентаванасцю творцаў на ранейшыя пераклады на рускую мову, а таксама адрознасцю культурных кантэкстаў, асацыяцый, светаўспрыманняў. Адны паэты-перакладчыкі больш увагі надаюць форме, другія засяроджваюцца на раскрыцці ўнутранага зместу, але кожны з перакладчыкаў ці "пазычальнікаў" імкнецца данесці да беларускага чытача своеасаблівы медытатыўны настрой, перадаць адметнасць усходняй філасафічнасці.

Урэшце, пагодзімся з тымі даследчыкамі, якія лічаць нешматлікія прыклады перакладаў усходніх вершаваных мініяцюр яркім доказам магутнасці беларускай мовы, ейнай "ненатужлівай здольнасці асвойваць і засвойваць чужыя паэтычныя формы".

Ганна БАРАДЗІНА

## Помніцца

### Печ Міколы Федзюковіча

Гэта было на зыходзе чэрвеня 1963 года. У пакой сельскагаспадарчага аддзела Лунінецкай аб'яднанай газеты "Ленінскі шлях" завітаў сярэдняга росту, светлашэрым пінжаку і такой жа кепцы, рухавы, вясёлы з твару, зусім яшчэ юны хлопец. Павітаўшыся, прадставіўся:

— Мікола Федзюковіч. Рэдактар накіраваў мяне ў ваш аддзел на выпрабавальны тэрмін…

І паведаміў пры гэтым, што друкаваў свае допісы і вершы ў драгічынскай раённай газеце і ў "Чырвонай змене".

Рэдактар Васіль Літвінчук даручыў мне знайсці для новага супрацоўніка кватэру. Я і сам збіраўся змяніць жыллё. Пасля непрацяглых пошукаў на ўскраіне горада мы пасяліліся ў звычайнай хаце. І гаспадыня яе, бабуля Кацярына Сымонаўна, аказалася досыць прыязнай і памяркоўнай. Мы адчувалі сябе яе паслухмянымі ўнукамі. Яна нічога не шкадавала для нас. Прыносіла са свайго агароду ў фартуху то агурочкаў, то слоік агрэсту. Казала: "Абірайце вішні, хлопчыкі, парэчкамі ласуйцеся. Толькі каб галінак не абламалі". Бачачы яе дабрату і спагаду, мы з Міколам стараліся хоць чым-небудзь дапамагчы бабулі.

Неяк адразу, з першых дзён Мікола ўпісаўся ў калектыў нашай газеты. Ужо тады, у свае юначыя гады, Мікола добра разбіраўся ў мастацкай літаратуры. І калі ў рэдакцыйнай пошце з'яўляліся вершы, рэцэнзаваў іх толькі ён. Шчыра радаваўся, калі ў якім-небудзь творы знаходзіў хоць адзін жывы, вобразны радок. Нярэдка да Федзюковіча заходзілі аўтары. Размова адбывалася вельмі шчырай, тактоўнай і пераканаўчай.

Нямногія ведалі, што М. Федзюковіч захапляўся маляваннем. Ён паказваў мне акварэльныя малюнкі прыроды з ваколіц Лунінца і Драгічына. А яшчэ ён быў някепскім мулярам і печніком, хаця не меў спецыяльнай падрыхтоўкі. І калі аднойчы Кацярына Сымонаўна паскардзілася на сваю печку, якая "глытае шмат дроў, а цяпла дае мала", Мікола падручыўся на месцы яе скласці рускую печ. Бабуля засумнявалася. "Дзіцятка, — сказала яна, — такая складаная справа не кожнаму даецца. Не здолееш". Але Коля пераканаў гаспадыню. У той жа дзень мы, закасаўшы рукавы, узяліся за работу. Прыемна было назіраць, як лёгка валодае ён кельмай, як роўна, нібы пад лінейку вядзе кладку.

Толькі тады, калі печ добра абсохла, Федзюковіч дазволіў распаліць яе. У коміне загуло, завухкала. З шырокага вусця печы не выпаўзла ніводнага струменьчыка дыму. Яшчэ праз хвілін колькі печ дыхала роўнай чарэннай цеплынёй. Мікола сядзеў на зэдліку, чуйна прыслухоўваўся да голасу ў коміне, лавіў у ім тое, што не дадзена было пачуць ні бабулі, ні мне.

Амаль два гады я працаваў побач з Міколам Федзюковічам у Лунінецкай газеце. Бачыў яго і за працоўным сталом, і за святочным, і ў коле сяброў. Сустракаліся і значна пазней, калі Мікола вучыўся ў Літінстытуце ў Маскве. Але асабліва запомніўся мне ён на ўслончыку. Задумлівым, у цыратавым фартушку з нашлёпкамі гліны, і ў водбліскаў пячнога агню.

Фёдар ЛАПАНІК

Калектыў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, дырыжора, прафесара ПРАВАТОРАВА Генадзя Панцеляймонавіча і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Гардзею Шчаглову ў сувязі са смерцю БАЦЬКІ.

# Пішу… нібы хаджу па зямлі басаног

(Пачатак на стар. 1)

### Дзецям пра Янку Купалу

Выйшла мая кніга "Янкаў вянок". Не было такой кнігі для дзяцей, зноў я першаадкрывальнік. Прыемна, што кніжку прызналі, што яна разышлася, што не чытаюць. Маю творчую задумку падтрымаў Мікола Маляўка. Ён напісаў дзецям пра Якуба Коласа. Але гэта толькі пачатак! Давайце створым бібліятэку перш за ўсё для дзяцей! Але пісаць для маленькіх чытачоў трэба незвычайным почыркам, каб яны паверылі вам. Калі я пішу, думаю толькі пра дзяцей, ці будзе ім цікава.

### Натхненне

Цішыня. Ноч. Спяць усе ў кватэры. Спіць Мінск. Неба незвычайнае. Як можна заснуць у такой раскошы? — пытаюся ў сябе. Калі прырода супакойваецца, здаецца, прыходзіць натхненне. Гэты час трэба выкарыстаць на карысць. Пішу, пакуль асадка з рукі не вываліцца, тады толькі іду класціся ў ложак. І сплю як пшаніцу прадаўшы.

Пішу чарнільнай асадкай. Не люблю на камп'ютэры. Я хачу адчуваць літары, словы. Тады нібы хаджу па зямлі басанож. Гэта вялікае адчуванне. Божа, я так люблю Беларусь! Калі па-сапраўднаму палюбіш сваю зямлю, то зразумееш усіх астатніх людзей.

### Сем цудаў

Аднойчы я начаваў у гатэлі ў Парыжы. І мне не спалася. Я пачаў думаць, як з Парыжа можна даехаць да маіх Шоўкавічаў. Найперш трэба любіць сваё! У юбілейным нумары "Вясёлкі" я напісаў артыкул "Сем цудаў маёй вёскі". Маіх Шоўкавічаў. І гэта, па сутнасці, заданне для чытачоў: знайсці сем цудаў іх роднага паселішча.

### Дуб памяці

Нашай хаты няма: пераехала ў іншую вёску. На гародзе расце дуб. Па маёй просьбе вакол яго леснікі зрабілі агароджу, прымацавалі да дрэва шыльду з надпісам, які паведамляе, што менавіта з гэтага дуба пачынаецца дубрава, якая ахоўваецца дзяржавай. Пабудавалі альтанку. На старых граблях павесілі шыльду з пералікам прозвішчаў усіх жыхароў вёскі, якія жылі і жывуць у Шоўкавічах. Ад дуба да вуліцы высаджана алея з ліп. Бо — Ліпскі.

### Штодзённік

Вяду штодзённік. Запісваю, з кім сустракаўся, куды ездзіў. І такіх кніжак у мяне на дваццаць гадоў. І ў кожнай кніжцы апісаны кожны дзень майго жыцця. У будучым гэтыя запісы могуць паслужыць штуршком для напісання новага твора. Але пакуль у штодзённікі не заглядваю. Проста складваю іх, складваю… Як пчала ў соты.

### Маміна слова

Трэба навучыцца адчуваць маленькія цуды. Адчуваць маміна слова. На вучобу ў Мінск мяне праводзілі ўсёй вёскай. Мама працягнула да мяне рукі і сказала: "Сынок, не згубіся там, у Мінску". Не адразу я зразумеў, што гэта была не толькі маміна просьба, але і яе наказ. Хіба гэта не цуд — глыбока разумець маміна слова? Часта прашу дзяцей завесці сшыткі і пісаць у ім маміны словы, пажаданні. Нават і горкія словы трэба запісваць. Я веру, што нехта запісвае. Такі сшытак можа быць сямейнай кнігай. Яго можна перадаваць з пакалення ў пакаленне як самую вялікую рэліквію.

У сакавіку атрымаў пісьмо ад былой настаўніцы Яўгеніі Барысаўны Кулевіч. Вось што яна піша: "…Урыўкі з "Малітвы сына" я чула па радыё і заўсёды слухала, а потым па свежай памяці занатоўвала, старалася ўжываць пачутыя словы, а потым чытала аднавяскоўцам, якія казалі "які ўдзячны сынок!" (арфаграфія аўтара захавана).

А вось што пісаў Іван Шамякін да майго шасцідзесяцігоддзя:

"Ты такая Зорка. Твая кніга "Мама. Малітва сына" можа стаць побач з узорамі сусветнай паэзіі. Менавіта не прозы — высокай паэзіі. Я чытаю яе і плачу. Не таму, што пад старасць стаў сентыментальным. Ад вялікай праўды жыцця. Дай Табе Бог яшчэ такіх кніг! Абнімаю Цябе".

Слухала і запісала Марына ЯЎСЕЙЧЫК, студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ

Фота Кастуся Дробава

---

"Паэзія — неспакой, што зэпчаш нябёсам употай. Паэт — гэта той, каго зразумееш потым".

Недзе з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя пачала мяняцца і на сённяшні дзень канчаткова зыначылася прастора беларускага слова. А дакладней — фундаментальныя прынцыпы фарміравання гэтай прасторы. Не кажу цяпер пра прыток новых жанраў — гэта само сабой. Найбольш вызначальным уяўляецца мне тое, што сёння не чытач ідзе ў кнігарні і часопісы на сустрэчу з пісьменнікамі, а самі пісьменнікі рушаць да свайго чытача. Пісьменнік, калі так можна сказаць, адарваўся ад пісьмовага стала і на парадак павялічыў сваю сацыяльную актыўнасць. Ён пайшоў у залы, аўдыторыі, у Інтэрнэт, на плошчы і нават на вуліцы. Найбольш прыдатная і ёмкая форма такога дачынення з чытачамі — паэзія.

# Мы будзем

Адным з найярчэйшых прадстаўнікоў гэтай новай генерацыі творцаў стала Валерыя (Валярына) Кустава.

Творцы такога кшталту — звышактыўныя і звышэмацыйныя — не могуць не выклікаць неадназначнага стаўлення да сябе. Напрыклад, даводзілася чуць у інтэрнэт-запісах такое, што Куставай, маўляў, занадта многа, што не варта ўдаваць з сябе вундэркінда і г.д. Раздражненне, мяркую, грунтуецца на тым, што Валерыя нязвыкла рана праявіла ў сабе паэтычны дар і заявіла пра свае амбіцыі. Да таго ж у паэтэсы ёсць відавочныя акцёрскія здольнасці, што бачна па яе выступленнях, а таксама яшчэ і музычныя. Прычым усё гэта чалавек не тоіць у сабе, а задзірыста выяўляе перад самымі рознымі аўдыторыямі.

Шматгранныя здольнасці, праяўленыя ў пяшчотным узросце, не могуць не аказваць уплыў на фарміраванне асобы, асабліва жаночай. Чалавек робіцца прынамсі "не такі", як усе, з усімі наступствамі, што адсюль вынікаюць. Тонкая душэўная арганізацыя, каб не зламацца, неадменна патрабуе для сябе брані ў выглядзе рэзкасці, пэўнай жорсткасці, смеласці. Валерыя Кустава ўсё гэта мае, і пастаяць за сябе здольная. Што прыкметна дысануе з яе фактурна-мяккай знешнасцю, лагодным голасам і напоўненымі пяшчотным лірызмам вершамі.

"А мне сняцца сны адны: як з нябёс ляцяць званы й разбіваюцца яны, як гліняныя збаны…"

Зрэшты, Кустава бывае ў сваіх вершах усялякая — у гэтым мне бачыцца яе адметнасць. Шырыня тэм, незвычайнасць вобразаў, то знарочыстая эпатажнасць, эксцэнтрычнасць, то — крайняя шчырасць, балеснасць.

"Мы сыдзем і вернемся зноўку. Мы сыдзем і вернемся — вер мне. Не возьмем ні нож, ні вяроўку — адверне!.. Мы сыдзем і вернемся ў травах... Лугамі, што сонцамі мрояць... Анёлы нам крыкнуць "Брава!" і ўзброяць".



Але ў цэлым вершы Валерыі аптымістычныя — гэта таксама вартасць для беларускай паэзіі, бо з класікаў я ведаю толькі аднаго па сваёй сутнасці аптымістычнага паэта — Рыгора Барадуліна. Сярод паэтаў новай генерацыі такіх больш, але часцяком іхні аптымізм, на жаль, не падмацаваны ні талентам, ні колькі-небудзь адэкватным успрыманнем рэчаіснасці. У Куставай жа, за ўсім вонкавым антуражам, эпатажам, слоўнымі карункамі, якія яна любіць вязаць, мне бачыцца сапраўднае: непадробныя пачуцці, унутраны стрыжань.

"Мы сыдзем. Мы будзем. Мы будзем. Пакуль што мы проста людзі. А потым — пустэльны дым. Жывыя мы нават тым. Мы сыдзем. Мы будзем. Мы будзем. Мы вернемся. Вер мне ты, вер мне. Мы згубімся. Час нас не згубіць — верне".

Увогуле, безліч разоў пераконваўся, што чалавек, здольны спачуваць іншаму, перажываць чужое жыццё, як сваё, не можа быць слабым паэтам, калі ён паэт. Многія, напэўна, чыталі эсэ Кустаўай "У аблічы адчаю", падзначанае як "штрыхі да творчага партрэта Анатоля Сыса". А прачытаўшы, мабыць, зразумеюць пра што я кажу.

Адна з асаблівасцей фарміравання Валерыі Кустаўай як творчай асобы ў тым, што яна з дзяцінства сутыкалася з выбітнымі беларускімі творцамі рознага кшталту (не толькі пісьменнікамі), і яны моцна на яе паўплывалі. Аднак не перарабілі на свой капыл — што вельмі важна... Валерыя захавала і ўдасканаліла свой прыродны голас.

"Аддадзеныя трывогам, паэты не спяць па начох: шукаюць жывога Бога і руны на ўласных плячох".

Асабіста я талент пазнаю па энергетыцы, якая праменіцца не толькі ад радкоў паэта, а і ад усёй яго най асобы. Паэт з моцнай энергіяй заўсёды арыгінальны таму, што гэты ўнутраны агонь ніколі не дасць яму "залезці" ў рамкі чужога мыслення, чужой формы і творчай манеры. Таленту заўсёды цесна ў звыклых рытмах і строях. Мала таго, бяруся сцвярджаць, што сапраўдны талент у пэўнай ступені — няправільны, да вершаў Кустаўай, калі падыходзіць строга і фармальна, можна прад'яўляць прэтэнзіі ў плане тэхнічным. Аднак паэзія — не матэматыка, а вершы – не крыжаванкі. Яны — люстэркі душы, часам, дарэчы, крывыя і не вельмі праўдзівыя. Але толькі ў гэтым іх сапраўдная мастацкая вартасць.

"Калі ты сам-насам з сабой, хвіліна здаецца бясконцай. І цень разамлелага сонца павольней плыве над ракой".

Я не знаёмы з Валерыяй Кустаўай асабіста і нават не з'яўляюся яе сураздмоўцам па ЖЖ-дзённіках. Таму ў нейкіх ацэнках магу памыляцца. Зрэшты, блізкае знаёмства часам заціямняе сутнасць паэта, ухутвае вопраткамі суб'ектыўнага, прадузятага. Ацэньваць усё ж ямчэй на адлегласці.

У мяне могуць спытаць: навошта ты пішаш пра паэтэсу, у якой і так усё добра: кнігі, увага чытачоў і слухачоў, паездкі ў замежжа, маладосць і вясёлкавыя перспектывы. Напісаў бы лепш пра каго невядомага... Можа, з аднаго боку і так. А з другога, я перакананы, што ў таленавітага чалавека ніколі не бывае "ўсё добра", бо сам талент ёсць прычынай штодзённай трывогі і дыскамфорту, пазбавіцца ад якога можна адно несупынным і напружаным самавыяўленнем. Талент заўсёды ходзіць на нейкім памежжы, балансуе на тонкай струне, на якой пахіснуцца не надта складана.

Міхась ЮЖЫК

На здымку: паэтэса Валерыя Кустава.

---

# Нечаканы падарунак

У актавай зале Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага сабраліся прыхільнікі таленту паэта, празаіка, перакладчыка, даследчыка рускай і беларускай літаратур, доктара філалогіі Яна Чыквіна, малая радзіма якога — вёска Дубічы Царкоўныя, што на Беласточчыне. Ян Чыквін з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў і ганаровым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Творца старшынствуе ў Беларускім літаратурным аб'яднанні "Белавежа", з'яўляецца рэдактарам выдавецкай серыі "Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", а таксама рэдактарам літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы".

Да свайго юбілею — Яну Чыквіну 18 мая — 70! — ён сабраў важкі ўраджай у розных літаратурных іпастасях: выдаў восем паэтычных зборнікаў: "Іду", "Святая ня", "Неспакой", "Светлы міг", "Кругавая чаша", "Свет першы і апошні", "Крэйдавае кола", "Жменя пяску", "Адно жыццё" (выбранае). Усе кнігі, акрамя чацвёртай па ліку (яна выйшла ў Мінску), выдадзены ў Беластоку. У перакладзе на польскую мову аўтар мае наступныя выданні: "Na progu swiata" (Warszawa, 1983), "Splot sloneczny" (Olsztyn, 1988), "Odpoczynek przy wyschnietym zrodle" (Bialystok, 1996). У гэты пералік трэба дадаць яго ныя пераклады на польскую мову: "Ales Razanau" Podarunek matki chrzestnej" (Bialystok, 1997), на беларускую — "Лісце срэбнай таполі. З польскай лірыкі XX стагоддзя" (Беласток, 1999), "Запіскі янычара Канстанціна Міхайловіча, серба з Астравіцы" (у сааўтарстве з Галінай Тварановіч, Беласток, 2008). Асобныя творы паэта перакладаліся на польскую, рускую, украінскую, сербскую, англійскую, нямецкую мовы.

На сустрэчы студэнты БрДУ імя А. Пушкіна чыталі любімыя радкі госця з Польшчы, пра творчасць пісьменніка гаварылі літаратуразнаўцы Юры Паталкоў, Зоя Мельнікава, разьбяр з Кобрына Уладзімір Чыквін, дырэктар абласной бібліятэкі Тамара Данілюк.

Сам Ян Чыквін падчас сустрэчы чытаў знаёмыя і новыя вершы, адказваў на пытанні прысутных, дзяліўся ўспамінамі пра сваю бацькоўскую сям'ю, пра свае спевы ў акадэмічным хоры Варшаўскага універсітэта, пра сур'ёзнае захапленне маляваннем.

На вечары была сапраўдная нечаканка — Ян Чыквін кожнаму ўдзельніку сустрэчы падараваў зборнік вершаў "Адно жыццё". Ажыццявіць гэтую аўтарскую задуму дапамог Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь ў Рэспубліцы Польшча.

Уладзімір БАРЫСЮК

Капенгаген істотна адрозніваецца ад нашых гарадоў. Ёсць у ім фрагменты, падобныя на Санкт-Пецярбург, Рыгу, Кракаў, Франкфурт, дзе мне давялося ў розны час пабываць, але ўсё ж — гэта вельмі своесаблівы, па-сапраўднаму прыгожы горад. Першае, што ўражвае, — нейкая незвычайная ўтульнасць, камфортнасць.





# На радзіме легендарнага Казачніка

Веласіпедысты на вуліцах — не адзінкі, а дзесяткі, сотні, мужчыны і жанчыны, маладыя і не вельмі, з малымі дзецьмі... Для іх створаны спецыяльныя дарожкі, вакол безліч веласіпедных стаянак... Унікальнае відовішча!.. Нейкая ёсць ва ўсім гэтым хатнасць, вясковасць. Нездарма кажуць, што напачатку горад быў невялікай рыбацкай вёсачкай.

І ўсё ж такі, Капенгаген — тыповы еўрапейскі горад, з палацамі, замкамі, гатычнымі храмамі, вузкімі брукаванымі вулкамі. Лёгка ўявіць, як па іх прагульваецца сам Ганс Хрысціян Андэрсен. Дарэчы, каля яго помніка заўсёды свежыя кветкі, фатаграфуюцца людзі.

Андэрсен — адзін з галоўных сімвалаў горада, гонар датчан. Прасунутыя і прагматычныя еўрапейцы нібыта самі становяцца дзецьмі, калі гавораць пра пісьменніка. Шчыра кажучы, я пазайздросціў гэтаму, бо каля помнікаў нашым песнярам не заўважаў такога трапяткога паважнага ажыўлення акрамя святочных дзён ці спецыяльнай нагоды. А калі яшчэ ўзгадаць, што нават у памятныя дні нашы пісьменнікі без спецыяльнага запрашэння не надта імкнуцца прыйсці да іх, каб пакласці кветкі, пастаяць у роздуме, прывесці сваіх сямейнікаў...

Увогуле, нягледзячы на разнастайнасць стыляў, твараў, ультрасучасныя аксесуары, паўсюль пануе яе вялікасць Традыцыя. Гвардзейцы, што ахоўваюць каралеўскі палац, апрануты ў сярэдневяковыя строі; зала для прыёмаў у мэрыі, куды мы былі запрошаны на вячэру, здаецца, сышла ў сучаснасць з часоў рыцарскіх баляў; трубачысты, якія з гонарам крочаць па вуліцы; моладзь у зялёных цыліндрах у Дзень святога Патрыка... Усё падкрэслівае, што хоць гэта і сучасная еўрапейская краіна, але ўсё ж Данія — са сваёй даўняй гісторыяй і культурай.

Беларусы былі ўдзельнікамі "Радыёдзён Еўропы" — семінара вядучых радыёкарпарацый з Англіі, Германіі, Францыі, Швецыі, іншых еўрапейскіх краін. Сярод амаль чатырохсот удзельнікаў былі дырэктар першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Антон Васюкевіч і я, кіраўнік радыёстанцыі "Беларусь", якая прадстаўляе нашу краіну ў міжнароднай інфармацыйнай прасторы.

Паміж пасяджэннямі, брыфінгамі і прыёмамі мы блукалі па вуліцах дацкай сталіцы, любаваліся яе непаўторным абліччам, наведвалі музеі і паркі.

Гонар Капенгагена — парк Цівалі. Ужо 165 гадоў ён дорыць сваю прыгажосць дзецям і дарослым. Тысячы кветак, фантаны, розныя атракцыёны, рэстаранчыкі, тэатральныя залы ствараюць атмасферу свята і спакою. Асабліва ў вячэрні час, калі запальваюцца шматлікія ліхтары, ліхтарыкі, і неба над паркам расквечваецца гірляндай агнёў.

Каралеўскі парк вабіць тым, што там можна спакойна пасядзець за філіжанкай кавы, што мы і зрабілі перад тым, як наведаць парк Бакен — самы стары парк забаўленняў у свеце.

Але самае вялікае ўражанне на мяне аказала Ратушная плошча і пешаходная зона Строгет. Яна цягнецца амаль на два кіламетры, і да яе прымыкае цэлы лабірынт вузенькіх вулак і старажытных плошчаў, дзе людзі ходзяць па шматлікіх крамах і проста прагульваюцца.

Вуліца Строгет выходзіць на плошчу з Каралеўскім тэатрам і палацам, які сёння належыць Акадэміі выкшталцоных мастацтваў. А да плошчы прымыкае канал, дзе стаяць маляўнічыя фрэгаты, парусынікі,старадаўнія судны.

Кожны капенгагенец скажа, што тут любіў гуляць сам Андэрсен. У свае чатырнаццаць гадоў, ён, сын вулічнага шаўца і прачкі, прыехаў у Капенгаген, каб паступіць у Каралеўскі тэатр вучнем акцёра ці танцоўшчыка. Але ні таго, ні другога з яго так і не атрымалася, хаця імя казачніка стала вядома ўсяму свету. Больш за 150 казак для дарослых і дзяцей зрабілі яго гонарам Даніі і Капенгагена.

І вядома ж, пабывалі мы каля славутай Русалачкі, побач з якой фатаграфуюцца турысты з усяго свету.

Між тым на семінары журналісты гаварылі пра свае праблемы. Яны блізкія калегам з розных краін. Гэта ў першую чаргу наступ Інтэрнета, страта цікавасці пэўнай часткі моладзі да сур'ёзнай літаратуры, спектакляў, ігнараванне маральных каштоўнасцяў, выпрацаваных чалавецтвам... Што могуць сродкі масавай інфармацыі супрацьпаставіць гэтаму, хвалявала кожнага выступоўцу. Асабліва калі ўлічыць, што сёння творчыя калектывы Еўропы пастаўлены ва ўмовы выжывання, залежнасці ад камерцыйных структур у моры рынкавых адносін, дзе радыёпрадукт становіцца проста таварам.

Мы, дзякуй Богу, адчувалі сябе ў гэтых варунках значна лепш, бо дзяржаўная падтрымка дазваляе больш эфектыўна і прадуктыўна вырашаць тыя ж самыя праблемы, пра якія ішла гаворка на гэтым прадстаўнічым форуме.

Але і ў калег ёсць чаму павучыцца. Крэатыўнасці (гэта слова гучала часцей за ўсё), імкненню да вышынь майстэрства, адданасці прафесіі.

Усе былі заклапочаны пашырэннем маладзёжнай аўдыторыі радыё. І тут, трэба пагадзіцца, неабходна шукаць новыя формы, выяўленчыя сродкі, каб моладзь праяўляла цікавасць да сапраўднага мастацтва, каб стварыўся канструктыўны дыялог паміж рознымі пакаленнямі.

Але вернемся да Капенгагена. Пасля кожнай такой паездкі ўзнікаюць розныя думкі, асацыяцыі. Падарожжа ў Капенгаген прымусіла мяне яшчэ раз задумацца над роляй традыцый у жыцці краіны, дзяржавы, у творчасці. Невялікая па насельніцтве Данія, дзе ўсе могуць вольна размаўляць па-англійску, здолела захаваць сваю мову, сваю этнічную аўтэнтычнасць. І цяпер, знаходзячыся ў Еўрасаюзе, яна не згубіла свой самабытны твар, шануе сваю гісторыю і культуру, нацыянальныя традыцыі. Нават уласную грашовую адзінку-крону трымае ў абароце.

Надпісы на шыльдах — па-дацку, аб'явы ў грамадскіх месцах — таксама. А дацкая мова — адна з самых складаных еўрапейскіх моў...

А калі гэта экстрапаліраваць на сучасны літаратурны працэс... Некаторым сённяшнім "прасунутым" творцам здаецца, што літаратура пачынаецца з іх. Гэта іх, пэўна, цешыць. Яно б няхай сабе. Але называць няздарамі Купалу і Коласа, перасмейваць славутыя радкі, здзекавацца з роднай мовы... І прэтэндаваць пры гэтым на агульнаеўрапейскае прызнанне...

Словы "традыцыя", "традыцыяналіст" часам гучаць як абвінавачванне. Капенгаген яшчэ раз нагадаў мне, што мы цікавыя свету Мележаўскай трылогіяй, Быкаўскімі творамі пра вайну, Адамчыкавымі, Брылёўскімі, Стральцоўскімі аповесцямі і апавяданнямі, вершамі і раманамі Караткевіча...

Шанаваць родную культуру, ганарыцца ёй, а не займацца самазнішчэннем і самаедствам, знявагай уласнага мінулага – вось чаго хацелася б сёння ў першую чаргу ад творцаў, ад тых, хто прылічвае сябе да нацыянальнай эліты.

...Пад крылом самалёта праплывалі вулкі Капенгагена, помнікі, замкі, утульны і самабытны край... Мы ляцелі дадому ў нашу родную Беларусь, зямлю, што нам дадзена лёсам. І ўзгадвалася Ставерава: "каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..."

Каб любіць...

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ




На здымках: "Русалачка" — адзін з сімвалаў Капенгагена; помнік вялікаму Казачніку; веласіпедысты — звычайная з'ява ў горадзе.

Фота аўтара

## У наступным нумары «ЛіМ»

Музыкант-інтэлектуал, мудры Настаўнік, эрудзіраваны аўтарытэтны спецыяліст, ветэран Вялікай Айчыннай — франтавік-ордэнаносец... Заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхася Солапава паважаюць як унікальную асобу ў нашым культурным асяроддзі. У свае 85 ён вядзе актыўную педагагічную і грамадска-асветніцкую працу, з'яўляецца членам праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, супрацоўнічае з перыядычнымі выданнямі.

Міхась Рыгоравіч — адзін са старэйшых нештатных аўтараў "ЛіМа" — прапануе ўвазе чытача свае ваенныя ўспаміны, у якіх асэнсоўвае лёс цэлага пакалення і разважае пра высокае зямное прызначэнне чалавека.

## З глыбінкі

# Спакой нам толькі сніцца

**Ваўкавыскі народны тэатр драмы і камедыі "Славуціч", заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь, адзначыў сваё 40-годдзе.**

Вось ужо чвэрць веку ім кіруе выдатны артыст, рэжысёр і паэт Вячаслаў Макуць. За гэты час самадзейнымі артыстамі падрыхтавана і вынесена на суд гледачоў больш за паўсотню спектакляў як паводле рускіх класічных твораў, так і вядомых беларускіх.

З музычнай казкай "Баба Яга і іншапланецяне" Міколы Казачонка калектыў удзельнічаў у першым рэспубліканскім фестывалі тэатральнай творчасці "Гасціны ў Галубка". На другім рэспубліканскім фестывалі-конкурсе аматарскага драматычнага майстэрства "Слуцкія тэатральныя скрыжаванні-2000" атрымаў дыплом "За лепшае ўвасабленне беларускай нацыянальнай драматургіі", паставіўшы музычны спектакль "Залёты" Дуніна-Марцінкевіча.

Запомніліся ўдзячнаму гледачу гераічная трагедыя "Кастусь Каліноўскі" (Уладзімір Караткевіч), "Смерць і каханне" паводле драматычнай паэмы "Чорная панна Нясвіжа" Аляксея Дударава.

Пры тэатры дзейнічае драматычная школа-студыя, якая стала ўзорнай. Каля дзесяці гадоў у Ваўкавыску ладзяцца "Ваўкавыскія тэатральныя сустрэчы". "Славуціч" — актыўны ўдзельнік і пераможца шматлікіх конкурсаў і фестываляў як у вобласці, рэспубліцы, так і за яе межамі. Сёлета, напрыклад, мяркуе прыняць удзел у трэцім міжнародным фестывалі аматарскіх тэатраў у Санкт-Пецярбургу.

Галіна РАМАНЧУК

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3068
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 13.05.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2269
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686